* * *

*Я пераЖЫЎ стагоддзі*
*Адчужэння і цішыні,*
*Сполаху павяртання да горкай зямлі.*
*Звінелі, як восы,*
*Мёртвыя дні,*
*Зоркі —*
*Страчаны час пілі.*

*А я — не сыходзіў*
*Ні на крок,*
*Блукаў у скрушным,*
*Нямым чаканні,*
*І кмеціў тое*
*Халодны зрок,*
*Як Вечнасць спала*
*Ў нямым кургане.*

*Як па гарадзішчы,*
*Адкапаным з пластоў мінулых эпох,*
*Хадзіў, спадманены явай,*
*Сведка адзіны.*
*Згасла ўсё тут.*
*І толькі высокі Бог*
*Слухаў мае ўспаміны.*



* * *

«Ад прадзедаў спакон вякоў» —
Шчэлепы замкаў, часам сцёртыя,
Посуднай гліны аскепкі мёртвыя,
Пыл кацярынінскіх бальшакоў.

Болей нічога...
Гэта не так.
Мне засталася вечна жывая
Зямля, што глухла ў гуле атак.
Як яна жытам
Салодка спявае!

* * *

Зарабляюць на зброі —
Топяць свет у крыві.
Лічаць хіжай рукою
Чынна золата куш.
Смерць кугіча савою —
Дзень жахае жывы.
Пад магільнай жарствою
Гаснуць тысячы душ.

Дзе ты, шчасце людское?
Смерць і ядзерны жах...
Зарабляюць на зброі —
На крыві і слязах.

* * *

І гэты дзень, нічым не значны,
Як сотня іншых, прамільгне.
Ды свет без слёз, яму удзячны,
Услед з палёгкай пазірне.

У гэты дзень, такі звычайны,
Што кінуў водсвет на расе,
Гнеў не ўскіпаў нідзе адчайны,
Маўчалі ўсцяж гарматы ўсе.

* * *

Злачынны свет — звадкі і войны,
Адзін рабуе, другі забівае.
Час крымінальна-разбойны
Планету крывёй умывае.

Устаць бы над зняможаным людам,
Сабраўшы веры астатняй асколкі,
Спытацца: жыць колькі можна брудам,
Разбоем цешыцца колькі?

Трэсціся, як промню сонца ў каморы,
Душы чалавечай здавён выпадае.
Дзень, як безнадзейна хворы,
Ў аконца журбы выглядае.

Дзе, у якой бачнай далечы,
Час зерне ад паловы адвее —
Скрываўлены род чалавечы
Паразумнее?

* * *

Зачаста сечбішчам вайны,
Нібыта лесам дрывасек,
Ішоў — дасюль сляды відны —
Пад небам дымным чалавек.

Грымяць напомліва званы,
Журбіну слёз сцірае свет.
І цень злавечае вайны
За кожным з нас ступае ўслед.

І думка: колькі ўжо ў зямлі! —
Балесна сэрца скалане.
Ды знаю: ў свеце адлілі
Учора кулю й для мяне.

* * *

Што будзе на зямлі? Не будзе нас!
Адступімся ў павечнае «былое».
Наш грозны век — пахмуры зарапас —
Знямее пад касмічнаю імглою.

І новы век узляжа на крыло,
Памкнецца ў даль імкліва хлёсткім лётам.
Так верыцца: нідзе не ўчыніць зло,
Не станецца трагедый эшафотам!

* * *

Сякеру ў рукі бяруць —
Гацкае на дрывотні.
І плуга дзяржанкі, як соткі аруць, —
Лямеш ад скібіны потны.

Усё да рук прыбірае зрок,
Ва ўсякай драбніцы карысць людская...
І стрэльбу бяруць.
Халодны курок
Гарачы палец уміг націскае.

# МІРУ

Мір кожнай хаце тваёй, Мір.
Выстаяў мужна ты ў грозных сечах.
Не раз тут напіўся вайны вампір
Гарачай крыві чалавечай.

Стагоддзе каторае ні крані —
Поўнае вогненных землятрусаў.
Міру вам, замкавыя камяні,
Міру табе, зямля беларусаў.

Мы ўсталі на полі калішніх сеч,
Мы жыта і песню сваю пажалі.
Міру табе, харалужны меч,
Міру вам, долі людской скрыжалі.

На пракаветных зямных бальшаках
Часаў гартаем сівых быліны.
Не зброю згубніцкую у руках —
Годна трымаем кнігу Скарыны.

Колькі нас полем жыцця прайшло,
Ў смерчы суровым спаліўшы сэрца?
Божай лампады жывое святло
У далячыні часу пральецца.

Памяць не змыта ў слотных дажджах.
Колькіх сыноў Беларусі імёны
Скажуць не надпісы на крыжах —
Скажуць збалелыя нашы пісьмёны.

Мір кожнай хаце тваёй, Мір.
Сонца ў нябёсах вечна прабудзе.
Кажа блакіт і курганны жвір:
«Мы, беларусы, мірныя людзі».

# РАЗВІТАННЕ

*Светлай памяці*
*Івана Пятровіча Шамякіна*

Дзень пагодны самотай аплакан,
Сонечна чысты, слязу пралівае.
Іван Пятровіч Шамякін
Праспектам Скарыны
У вечнасць сваю адплывае.

Труну па-дзяржаўнаму годна
Ганаровая варта нясе з асцярогай.
Адыходзіць пісьменнік народны
Апошняй зямною дарогай.

Абапал скрушнай дарогі гэтай,
Што ў віратоку імкнецца пад хвоі,
Прайшоўшы дымныя вёрсты свету,
Устала эпоха — яго героі.

Душой пазнаю, як іх, ссамочаных, густа
У плыні нясходнай, выхадцаў простых з народу.
Душой прызнаю, што на зямлі
застанецца не пуста
Пасля Яго адыходу.

Застануцца — магутныя хвалі Духу —
Кнігі Яго несмяротныя.
Стань сейбіту на стагоддзі пухам
Зямля родная.

* * *

Бацька з марозу — у воблаку пары
Пераступае хаты парог.
Дзень загараецца вогненна-яры.
Ў хату маркота па скутым папары
Снежна ўпаўзае з бакоў чатырох.

Дзверы рыпуча расчынены веяй,
Крэпне зімоўя сіберны дух.
Бацька з марозу.
Звыклая дзея.
Памяць астудную задаўга грэе
Ворсам з'інелым старэчы кажух.

Смутак дапіша горкую прозу
Ядзерна-скрушнай, нясходнай бяды.
Свет адхіснецца, збудзе пагрозу.
Воблачак пары —
Бацька з марозу.
Поўныя вёдры гаючай вады.

* * *

Было ўжо на Русі —
хадзілі брат на брата,
І вецер галасіў
з зацятасцю вар'ята.
Шугой варонніх крыл
палошыў стан начлежны,
На погарбах магіл
свой правіў баль драпежны.
І сёння поле зла
шырока раскашуе,
І кілер з-за вугла
суродзічаў палюе.
Святыя Небясі,
ці ж даўнасць вінавата?
Было ўжо на Русі —
хадзілі брат на брата.

# БЫЛІНА ПРА ЧАЛАВЕЧАЕ ПАЛЯВАННЕ

Сталася так у жыцці адвеку:
Чалавек палюе на чалавека.
У век каменны сядзеў ля пячоры,
Дрогка ў нябёсах міргалі зоры,
Мружыў здаволена вока сваё:
З крэменю-каменя высек кап'ё.
Ўслед першабытная скора навука
Крута сагнула пруціну лука,
І цеціва каля вуха запела —
Стрэлы ўпіліся ў варожае цела...
Радасць шалёная грудзі сцінала!
А чалавеку здалося: замала
Гэтай прыдумкі. Трос барадою,
Ды шчыраваў над жалезнай рудою,
Дэманстраваў небывалы спрыт —
Хвацка каваў сабе меч і шчыт.
Колькі рука ім увішна ссекла!
Колькі крыві ў жвір магільны сцекла!
Ды чалавеку стала нязвычна
Пружыцца ў сечах вякамі фізічна.
З грукатам кінуўшы меч пасля сечы,
Ўзяўся за свой інтэлект чалавечы.
І паціраў ён далоні ўжо:
Першае стрэліла ў неба ружжо!
У сыпчаку, у падзоле і глеі
Глыбака потым вырыў траншэі.
Спуджана нюхаў ягоны вораг
Шчыльна набіты ў рулю порах.
Шызы дымок ўзвіваўся над руляй,
Руля па ворагу біла куляй.
Быў неспатольным сверб чалавечы:
Хутка забухалі ўзрывы карцечы,
На пераломе стагоддзя квадры
Пушак загупалі чорныя ядры.
А чалавеку і гэтага мала!
Росшуку новага прага даймала.
Грэла душу адкрыццяў шчымота:
Сек па праціўніку ўжо з кулямёта!
І пазіраў спанадзейліва ў неба:
Стуль бы на ворага зрынуцца трэба!
І не багата часу прайшло —
Першую бомбу чапляў пад крыло.

Як бы душа яго ні лікавала,
Толькі і гэтага стала замала.
Безліч стагоддзяў слыўшы салдатам,
Зараз ён думаў сур'ёзна пра атам.
У патаемныя спраты схаваны,
Доследы ставіў над жменькай урану,
Ведаў, што гэтай драпежнаю жменяй
Хутка ён знішчыць паўсвету, не меней.
З новаю сілаю звышмагчымай
Бомба ляцела над Хірасімай.
Радасці хіжай скакалі чэрці,
Хоць напалохаўся й сам да паўсмерці,
Чуючы свету набліжаны скон.
Ўцешна падлікі вёў мегатон.
На змізарнелай кулі зямной
Стала жыццё — халоднай вайной.
Хвіляй любою былі гатовы
Ракеты пакінуць патайныя сховы,
Ўзяўшы зададзеную арбіту,
Зрынуць планету ў прорву нябыту,
Толькі пакінуць адзіна ў пустэчы
На скалах чорны цень чалавечы.
Ды ўпершыню за стагоддзі цвяроза
Голас падаў чалавечы розум.
І чалавек падумаў: замнога
Смерці у схованках шара зямнога!

Як жа пад сонцам быць чалавеку,
Хто ваяваў грозна адвеку?
Як адхіснуцца ад даўняй мроі —
Думку пакінуць аб новай зброі?
Сёння ў нязвыклай людской цяснечы
Утаймаваць свой гнеў чалавечы?

Веру: ён далі Сусвету адкрые,
Прагу — забіць! — у зямлю зарые,
Ўшыркі схадзіўшы космас сцюдзёны,
Смерці панішчыць усе мегатоны
І, пазабыўшы нарэшце пра зброю,
Мірнай эпохі стане героем.

* * *

Ён ваўкавата сунуўся, як здань,
Ледзь не да плота ціснуўся ўскрай.
І галасы дзятвы трубілі ў рань
Назойліва-прычэпна: — Па-лі-цай!

Малыя, на адлегласці, услед
Ажно да крамы назіркам брылі.
Схаваўшыся за шклінай, хмуры дзед
Буханкі браў і клаў свае рублі.

І прадаўшчыца моўчкі, як не раз,
Давала рэшту — россып медзякоў.
Калі знікаў за дзверы, — ў той жа час
Узрушліва гуло з усіх бакоў:

— І як зямля бо носіць!
                                        — Да ужо ж!
І трасца ў той Сібіры не ўзяла!
— Вярнуўся от... пужае маладзёж!
— Шчэ й хлеба, Сохва, здрадніку дала!

— Як воўк, з падлоб'я кіне позірк злы!
— А як дзвярынай, чулі, люта сек!
— Яму не хлеба — чорнае смалы!
— Адно найменне толькі — чалавек!

І выціскалі слёзы боль і жаль.
І гучнасцю сярдзітай гаманы
Гушкалася прысудная мараль
Тае, ахвярна помнае, вайны.

## СТАРЫ АКОП

Парос высока смерці чарнатроп.
Ссівелыя хаваюць палыны
Ацёклы жвірам франтавы акоп —
Запалы след апошняе вайны.

Прыкметны ён — на строме баравой
Уціснуты глыбока ў жаўтапёс.
Сягаю ў глыб травы. Над галавой,
Як кулі, зумка свішча плойма вос.

І белы дзень, здаецца, схаладзеў.
Забыты бой малюе ўяўна зрок.
На бераг супрацьлеглы хтось глядзеў
З-пад шатаў гэтых, сціснуўшы курок.

Салдат вайны, яе бязвусы бог,
Хто нёс Еўропе пераможны мір,
Магчыма, куляй ссечаны, тут злёг
І акрапіў крывёй сырэчы жвір.

І ты ляжыш, прыпаўшы да зямлі,
Як ён ляжаў, не стрэчаны табой.
Услед вайне пытаешся: калі
Закончыцца яе астатні бой?

* * *

Меч галовы згубна сек,
Лук цаўіны пруціў крута,
Бо ўхмыльнуўся крыва, люта
Чалавеку чалавек.

Павялося з даўніх дзён:
Кроў — руччамі, морам — слёзы...
Выліваліся пагрозы
У дачасны, згубны скон.

Колькі іх, крывавых рэк,
У вяках цячэ? — не дзіва.
Бо ўхмыльнуўся люта, крыва
Чалавеку чалавек.

## ГАРАДЗІШЧА

Восень ветрана свішча
Між густых вершалін.
Ахіне Гарадзішча
Подых даўніх былін.

Туманы на пагорках,
Быццам продкаў дымкі.
Цягне волкасцю горкай
З абмялелай ракі.

Дзей суровых ігрышча,
Плытнік-час, сцеражы.
Наўкруга Гарадзішча
Здані вояў — крыжы.

Тут, дзе клён ды ляшчына,
Дзе святло ды імгла,
Полем сечаў Айчына
На крыві прарасла.

* * *

Дасветны снег — стагоддзя белавік,
Ніводнае на ім крывавай даты
Хай не напіша Час.
Іх сумны лік
Панёс з сабой у памяць
Век дваццаты.
Сягнуў у вечнасць —
І адтуль, праз стынь,
Глядзяць яго Чарнобыль і Хатынь.

Якім падзеям гучныя імёны,
Век юны, прамінуўшы, ты дасі?
Адно прашу: не слёзы і праклёны,
Святло дабра над светам узнясі!

Каб змылі кроў збалелыя народы —
Стань векам згоды.

*01.01.2001*

* * *

Забыты старэчы дот,
Прыхаваны ў хмыз лясны,
Ляжыць, як паходны бот
Драпежна сівой вайны.

Стаяла між гонкіх хвой
Карцечная жарката,
Дзе, месячы пот з крывёй,
Ступала вайны пята.

Снарад, як сляпучы крот,
Рыў цвёрды сыры падзол.
І толькі бетонны дот
Бясстрашна глядзеў вакол.

Ноч, пудзячы вечны сон,
Маланкаю мільгане.
Год колькі, аглухлы, ён
Ўзіраецца ўслед вайне.

# 22 ЧЭРВЕНЯ 2001 ГОДА

Ўсяго адна хвіліна да вайны,
Да той крывава-ненажэрнай дзеі,
Што ў вобліку жахотліва кашчавым
Залье крывёй ціхмяна сонны свет.
Ўсяго адна хвіліна да вайны.

Шарэе золак хмарывам. І горад
Спакойна спіць. А я выцця сірэн
Напружана чакаю. Калісь ён
Праз нейкі міг ужо ад іх аглух.
Гулі надрыўна ў небе самалёты,
І вырасталі пад крыжамі крыл
Узрывы бомбаў — вогненныя кветкі.

Ужо адна хвіліна, як вайна
За Буг ступіла з вогненнай касою
І павяла даўжэзны свой пракос,
Зрабіўшы шчэ найпершы толькі ўзмах.
І як багата ляжа ў тым пракосе
На шырах свету жыццяў абарваных,
Не менш, як траў на звычнай касавіцы...

Гадзіну ўжо гудзе-брыдзе вайна.
Ўзіраюся ў спакойнае дасвецце
І слухаю цябе, мой родны Мінск,
Ты ўстаў на папялішчы і крыві
І бачыш свой спакойны мірны сон
Праз шэсцьдзесят...
У гэткі ж самы ранак...

* * *

Ці так даўно? — пятнаццаць тысяч год
Мінулася з астуднае пары,
Калі паўсюд ляжаў таўшчэзны лёд,
Віхурныя змяіліся вятры.

Ды ў прыхапках дужэючых цяпла
Падталы ледавік, як васьміног,
Пасунуўся — ільдзістая скала,
На дно салёнай Балтыкі залёг.

І напамінам пра былыя дні,
Пра свой суровы панцыр ледзяны,
Пакінуў толькі знакі-камяні —
Бязмоўныя, глухія валуны.

Збурэў у часе громкі той зыход,
Магільна спіць пад прахам стратных лет.
Ці так даўно? — пятнаццаць тысяч год
З пары тае, як тут тварыўся свет!

* * *

Таемныя светаў касмічных далі.
З няпомнае мною пячорнай пары
Я толькі хаджу па гарызанталі,
Лічу недасяжныя зоркі ўгары.

І сцінае мне грудзі жаль,
Позірк вышэчу п'е:
Калі зоркавая вертыкаль
Крокі пачуе мае?

Космас прамовіць: — Гэта зямляне!
Веру: аднойчы самотны ўздых,
Зжураны, горычна важкі,
Растане
Там, на планетах чужых.

* * *

Жаданне зноў убачыць вечны Рым
Манеты сыпала ў фантан са жмені.
І ён, усхваляваны пілігрым,
Рукою звычна шаснуў па кішэні.

І твар усплёскам пырскаў абдало —
Ляцелі цэнты, пфенінгі, сантымы.
А пальцы крыўды холадам звяло,
Бо у кішэні пуста —
Не было
Ды і няма
Манет яго Радзімы.

Вось так, лічы,
На медзь адчуўшы голад,
Табе не ўбачыць болей
Вечны горад.

* * *

Не вандраваў у далёкім замежжы,
Ды не канаю ад гэтага ў скрусе.
Цешуся, што сэрцам належу
Адной Беларусі.

Ды гонар заступніцкі стыне,
Дыктуе: «Аседлы паэт!
Сам знаеш: з кішэнямі пустымі
Не рушыш у свет!»

Не ўводзь мяне, гонар, у сорам,
Не трушчы астаткі сіл.
У нас зразумеюць не скора,
Што патрэбен паэту ўзмах крыл.

Каўтаючы дарожны вецер,
Ён суму прытушыць свайго вастрыё.
І чым болей пабачыць у свеце,
Тым глыбей палюбіць сваё.

## КУТОК МАЛЕНСТВА

Куток маленства... Каранеўка...
Балотны хмыз... Чародка хат...
Красуе сонца, быццам дзеўка,
Якой пацешкі сыпле сват.

І ён, расхрыстаны і босы,
Ляскоча пужкаю — дзіця!
Людзей закручаныя лёсы
Вакол у хроніку жыцця.

І неба сіняга акрайчык
Над прэллю ліпеньскіх балот.
Варушыць сена ўпраўны Зайчык,
Васіль трывуча выцер пот.

Прыкута, душна, саламяна
Жыве сяльцо між лет і зім.
Нясе ваду са студні Ганна,
Чуб прыхарошвае Яўхім.

Мінецца час — і ён, падпасак,
Скарыўшы спелым словам свет,
З палескіх вобразаў, бы з красак,
Збярэ жыцця жывы букет.

## КУПАЛЛЕ

*Маім аднакурсніцам*

Праз дваццаць пяць, звязаўшы сцежкі лёсу
У спешна гаманлівую адну,
Прыйшлі мы зноўку ў горад стогалосы,
Каб прывітаць студэнцкую вясну.

Каля фантана ў старасвецкім скверы
Суцішу крок, пачую ўзрушны ток:
Сягоння тут, расчулены не ў меру,
Лунае шчасця пругкі шчабяток.

Мае багіні вы — філалагіні!
Я ў сэрцы вочы кожнай прыбярог.
Хачу, каб вечар гэты мройна-сіні
Іх ад тугі пахмурай засцярог.

Купалле наша, поўнае ясноты!
Святыя лікі, як на абразах...
Я помню вас, ахвярніц юнай цноты,
У першых пацалунках і слязах.

Хачу, каб памяць зыркая прайшлася,
Як ранішняе сонца па расе,
Гасціны нашы доўжыліся ў часе
За выдмай год, дзе мы яшчэ — усе...

*07.07.2002*

* * *

Зоркі, перамацаныя вачамі
Мільярды разоў да мяне,
Вечнасць, скрышыўшы нябыту мячамі,
Некалі цемрывам заглыне.

І снуецца ў вышыні одум мой горкі,
Дыханне чуйна працінае Сусвет:
Мне не гушкацца ніколі, зоркі,
На далонях вашых планет.

2 Зак. 3938

* * *

Як толькі снег з пагор'яў схлыне
Руччамі мутнапенных вод,
Між берагоў на азярыне
Ўсплыве набухлы, сшэрхлы лёд.

Калышуць хвалі крыгі-груды
Пад сіняй свежасцю нябёс.
Вятрамі ўспененыя Снуды
Вачам адкрыюць водны плёс.

І дух рыбацкае махоркі
Заселіць густа астравок.
І калыхнуцца ноччу зоркі,
І ўздрыгне месяц-паплавок.

* * *

Аер прарэжацца з вады —
Зялёна пружыстыя пікі,
І на балоце шчасця ўсклікі,
Задор жаночы малады.

І мы, слухмяная дзятва,
Зайздросна сочым, як матулі
Вышэй спадніцы падагнулі,
Паркаль уздзерлі рукава.

Па прахалодлівай вадзе
Яны сцярожка дружным цугам
Балотам рушаць. Стаўшы кругам,
Шчыкаюць сцёблы.
Аж гудзе

Ваколле пругка галасамі,
Нібыта дзеці тыя, самі:
— Анюта — вох!
— Алена — гэй!
Пацешна-ўмарысты занятак
Мадон палескіх, нашых матак,
Адна з будзённасці падзей.

Мы, дзеці, ўсцешаныя імі,
Таго не знали, што малымі
У галадушна-скрутны год
Яны аер шчыкалі гэтак,
Што гоман сённяшніх суседак
Як голас шчасця між нягод.

* * *

Восень нудзіць дажджом. Супакой
Абрынаецца цішай гняткой.
У дрымотна-астудным бары,
Склаўшы крылы, паснулі вятры.
Скрозь такая глухотная ціш,
Бы на ўскраечку свету стаіш.

Ледзь праясніцца неба. І зноў
Абрынаецца цемрані схоў,
Ні бліскоціны рдзістае зор,
Толькі мокры ўшарэлы прастор,
Толькі чорная скрозь хлюпата,
Дзе хаваецца свету вярста.

Так, напэўна, канчаецца свет,
І ні росчырку-бліку камет,
Плача цемрыва, правячы баль,
Прымярае прачорны свой шаль.
І маркота, што пала наўсцяж,
Люта шэпча жыццю: прахам ляж!

Ашарэлыя ночы і дні.
Ды раптоўна ў нямой вышыні
Між абрывін хмурынаў узнік,
Бліснуў сінькай маленькі каснік.
І, кранаючы вочы да слёз,
Над чарнечай зыбучай прарос.

І душа, што прыкутай была,
Задрыжэла на промнях святла,
Узмахнула парыўна крылом,
Узвілася пад дужым святлом,
Працінаючы небны прастор,
Закружыла ля вогнікаў зор.

# ПОЗНІ ЯБЛЫК

У голлі голай восені адзін,
Дажджамі перамыты, светла ён
Гайдаўся ў шэрым наступе гадзін.
І летнім быў яго чакальны сон.

Палаючы, у змрочных шатах дрэў
Да слёз давёўшы злосніцу-імжу,
Ён, разгайданы ветрам, адагрэў
Маю наскрозь празяблую душу.

# ГАНАДУ ЧАРКАЗЯНУ

Калі Радзіма журыцца ў смузе —
Адчай душу нясходліва грызе,
Глядзіцца смутак мокрымі вачыма.
Стаіш, нібы астатнік, у чарзе
Па дым гаючай памяці, Радзіма.

Мне смутак твой, мой дружа, зразумець,
Бо выпала на веях часу мець
Маленства кут за палыновым дротам.
Яму заўсёдна ў памяці шчымець,
Калоць душу дзядоўнікам, асотам.

Табе — пад вышай недасяжных зор
Баляць хрыбціны-пікі снежных гор,
Душа сурова болем здратавана.
Зірнеш — і ў сэрцы сцюжыцца зіма.
Смыліць яно, не верыць, што няма
Дасюль на карце свету Курдыстана.

Ўзыходзіць край прасцягамі душы
І шэпча сыну ўсцешнае: — Пішы,
Надыдзе час — хадок упарта скоры,—
Ты будзеш гулкай славаю грымець
І будзеш на скрыжалях лёсу мець
Свае лясы, свае палі і горы.

## СІВЫ РЫБАК

Ён з прыазёрнай траўнай стромы
Акіне вокам плёс відомы:
І водмель у шнурах-мярэжах
Блакітам небным калыхнецца,
Шчымотай памяці прарэжа
Яго абветранае сэрца.

І загайдаюцца на плёсе
Пагаслай маладосці лодкі,
Узмашыста-упраўных вёсел
Пачуюць грудзі ўсплёск салодкі.

Бліскоча чорнымі вуграмі
Улову радасць. І дарамі,
Відаць, апошнімі усцешыць.
І ён, пагаслых зораў сведка,
Па строме траўнай крок прыспешыць,
Каб плесці дальш
Для ўлову сеткі.

## СПЕЛЫ САД

Нарач. Домік пад яблыняў сховай.
Сонца жніўнае пекнаты.
Аксана Фёдараўна Куляшова
Святкуе свой юбілей залаты.
Дзевяноста вёсен і зім
Няспешна сышліся ў ім.

А ранак жыцця браўся росна,
Ды дзень сёк сякераю з-за пляча.
У вочы загляну — і сёння ў іх слёзна:
Згадала Платона Галавача,
Кастрычнік даўні, калі
На згубу пад сосны яго павялі.

Цягнецца пругкая нітка ўспаміну,
Сучыць жыцця цану.
Здаецца, ступаю па полі мінным —
Іду праз вайну,
Чую мальбу, каб жывым прыйшоў
Яе Аркадзь Куляшоў.

Ён прыйдзе з грымот кананады
Пад легендарным «Сцягам брыгады»,
За ім — Паэзія рушыць услед,
Сэрцам адкрые жыцця далягляды,
Думкай абдыме свет і сусвет.

Пенная Нарач хваляй да рання
Будзе гушкаць мрою кахання,
Што апаліла ў агні крыло.
І лягуць плодна барозны лёсу,
І высахнуць самыя ўдушныя слёзы,
Паверыцца: іх сонца ўзышло.

Ды будзе такім кароткім лета.
Поўнае болю сэрца паэта
Не вытрывае жару ўсяго.
Бесядзь зажурыцца...
Ўздрыгне планета...
Каня заплача над Словам Яго.

Будзе яна з галавой сівою
Між яблынь ступаць няўцешна ўдавою —

Грады ўскапай і плот падладзь.
І будзе, на хвілю забыўшы пра гора,
У працы няўтомнай, упраўная, скорая,
Мужа гукаць: — Падсабі, Аркадзь!

Нарач... Домік пад яблыняў сховай.
Жнівень сонца падняў на рукі.
Аксане Фёдараўне Куляшовай
Здароўя жадаюць дзеці, і ўнукі,
І праўнукі пісклява за імі ўслед.
І верыш: трывушчы ён, вечны свет.

*05.08.2002*

* * *

Восень выстудзіць росамі пожні,
Кіне ў шэрані косы прамень.
Знаю, некалі будзе апошні,
Падарованы лёсам мне дзень.

З жураўлінай адлётнай трубою
Ці з бярозавым клейкім лістком...
Забярэ назаўсёды з сабою,
Стане млечным паіць малаком.

Як і ўсе ў той чарзе — як і трэба:
Пад журботную песню дажджоў
Дух сабраўся і ў вышняе неба
На зары беззваротна сышоў.

Смерць забрала сабе, што хацела.
Не ўпрасілі яе, не змаглі.
Ёй дасталася грэшнае цела
У нямым саркафагу зямлі.

Будуць зоркі вачамі слязіцца
Над прадоннем зямнога каўша.
Дзе, калі яшчэ здолеюць зліцца
Гэтак светла
Сляза і душа?

* * *

Сплыла эпох шуготная залева.
Вятры між сцен сцінаюцца наўзрыд.
Ты юным мне зусім здалося, Крэва,
Адносна Гізы хмурых пірамід.

* * *

Мінуты расстанняў, хвіліны сустрэч.
Дарогі напята гудуць за спіной.
Вяртаюць адны з часу даўніх далеч,
Другія праводзяць па кулі зямной.

Вось так і жыву я — хадок і яздок,
Аседлага шчасця забыўшы цяпло.
Цікаўнасць растопіць спакою лядок,
Падыме вандроўка душу на крыло.

Убачыць паболей — душою прыдбаць,
Узрушнае сэрца аддаць узамен.
Тут сечы грымелі, дзе ветру рыдаць
Над цэглай шчарбатаю замкавых сцен.

Жыццё на узбочынах спешных дарог
Мільготна шугае, ступае з цямрэч,
Узносячы высака месяца рог
За хвілі расстанняў і хвілі сустрэч.

* * *

Бялёсыя аблокі над вадой
Маркотна ўсталі. Важкаю хадой
Ім рушыць, смутным, небнаю пуцінай.
А зараз, каб лягчэйшым быў сыход,
Жадаюць наглядзецца ў люстра вод,
Надыхацца расстайнаю гарчынай.

Як душы продкаў, ціхія, сышлі.
Нічога не панеслі, не ўзялі.
Адно душы пакінулі трывогу.
«Часовы ты, — сказалі, — на зямлі.
Шчэ прыйдзе час той ростані, калі,
Спайманы ў сеткі неба,
Рушыш к Богу».

* * *

Прыйшло натхненне: я — паэт!
Бы адкруціў назад Час жорны.
Мне пазірае ў вочы свет
Такі прывабны, шматкалёрны.

Ужо, слугуючы дабру,
Ўстае зара ў вятрыстай грыве.
І я красу жыцця твару
Ў пяшчотна-сонечным парыве.

Бяды ні каліўца прыкмет,
Не засціць вочы колер чорны.
Прыйшло натхненне: я — паэт!
І гімн жыццю гучыць мажорны.

* * *

Заўсёдна ў спелым леце спеўна-звонкі,
Самотна глухне хорам баравы
Ад позна падабранае зялёнкі
Да першае сарванай сон-травы.

Ляжаць снягоў варсістыя кілімы,
Пасланыя сярдзітаю зімой,
На сцежках тых, дзе некалі ішлі мы,
Бліскочуць небнай яснасцю самой.

Кульга свае ашчадна лічыць транты,
Не хоча ў хорам стоены ўпусціць,
Бо маразы — сівыя эмігранты —
Вярнуліся з-за свету пагасціць.

Ды знудзіўшы зацятай злосцю сэрца,
У жарэчы промняў стрэне вечны скон.
Ёй свечкай памінальнай калыхнецца
Пад соснамі на ўгрэве кветка-сон.

* * *

Адвучылі любіць зямлю.
Ўпадабалі вандроўны лёс.
Я апошні, відаць, люблю
Гэту белую стынь бяроз.

Гэту плыткую хвалі сінь
І праменняў світальны ток.
Век суровы, прашу: пакінь
Мне спатолі хаця б глыток.

Не шчадротаў жыцця малю,
Не за імі стаю ў чарзе.
Адвучылі любіць зямлю! —
Мне сумленне душу грызе.

Што ж любові тае цана? —
Зорны бляск і дарожны пыл.
Тое скажа зямля адна
Над самотай нямых магіл.

* * *

Паэты адраджэнчае вярсты,
Пустэча дзён гукне далёкім рэхам.
Чытаю вас —
Нібыта лёткім снегам
Віруе час былы да зіхаты.
Радкі — шаптанне выстылых нябёс,
Як гэты снег, які святлынь узнёс.

Сысці бяспомна стратнаю пуцінай
Не адпушчу — туды, дзе скрутны лёс
Цярусіць даланёю жаўтапёс...
Прачысты снег
Над чорнай гільяцінай...

* * *

Чаруе ноч у стэпах Украіны.
Грукоча ўзрушна коламі цягнік.
І месяцам працяты сон спачынны
Да шклін вагонных соладка прынік.

Імчу праз ноч — адсечаны мяжою
Радзімы край кіўне ляском здаля.
Няўжо няветлай стрэнеш і чужою,
Суседская славянская зямля?

Разбег жыцця! Скразнога руху траса.
Вязанкай меж услаHы густа свет.
Усцешным вокам вечнага Тараса
З-за вербаў гляне месячык услед.

І Ён, нябёс тутэйшых Усявышні,
Таемна сочыць з бездані начы,
Як млеюць цветам каля хатаў вішні
І кружацца над вішнямі хрушчы.

## МАЕЦЦА ЛІК

На тое імгненне,
Як вы пачалі чытаць верш,
Маецца лік
Усіх народжаных на зямлі
І ўсіх памерлых на ёй,
І лік народжаных
Большы
На колькасць нас,
Сягоння жывых.
Маецца невядомы мне лік
(На тое імгненне,
Як вамі дачытаецца верш)
Усіх дрэваў і птушак,
Усіх іхніх лістоў і пёрак,
Усіх іхніх пошумаў і песень...
Жыццё дыхае ўсцяж,
Кмецячы лікам
Ускалыхі вятроў і хваль,
Пошумы дажджоў і снегападаў,
Плоймішчы вірусаў і мікробаў,
Пасеяных радыенуклідаў
І гарачых часцінак...

Ёсць лік усяму.
І, магчыма,
Няведанне гэтай простай матэматыкі
Трымае мяне на зямлі.

## ВЕРШЫ

Іх душа ускаласіла
На палях прагорклай долі.
Рыфмаў пружыстая сіла
Абаб'е дзічэўе ў полі.

Лёс іх горкі, незайздросны —
Стаць самотай дня зямнога.
Ды прачнуцца слоў баразны,
Зашумяць і скажуць многа.

Сведкі даўніх дзён пагаслых,
Болю чутага і тлуму.
І радкі, як перавяслы,
У снапы павяжуць думы.

* * *

Пушча даўно не тая —
Страціла пошум звонкі.
Смужна ў цішы гартае
Чутай журбы старонкі.

Падае лісце чэзла,
Новае ўспыхне ў траўні.
Волкай дрымотай цегла
Ў час тут былінна даўні.

Голас магутны тура
Вусціш імшэўя пружыў.
Секла залевай бура,
Бела віхралі сцюжы.

Небнай палоскай сіняй,
Быццам шляком, убрана.
Ценькі на голле іней
Сыпаў суцішны ранак.

Дзень, маразамі сцяты,
Вочы заспана плюшчыў.
І выраслалі хаты
Густа пад пахай пушчы.

* * *

Іначыць краявіды часу лёт:
Другія дрэвы вымахалі гонка.
Па-над тугой асушаных балот
Нязвыкла чуць званочак жаваронка.

Дзе твань была — квятуе сенажаць
І торф чарнее, ссунуты у груду.
І падалося горычна: дрыжаць
У высях неба зоркі з перапуду.

## НЕПАГАДЗЬ

Да каранёў трасуцца ў спудзе дрэвы,
Шматае вецер густалісце крон.
Сярдзітае, нясходнае залевы
Па шклінах вокан хвошча пругкі звон.

Хмурыны нізка сунуцца, як здані,
Укрыўшы неба густа чарнатой.
І святлафоры ў дроглівым мірганні
На дыбачках стаяць над хлюпатой.

Віхурна ходзіць непагадзь скразная
Уздоўж прамоклых пашарэлых сцен.
І ўжо ніхто, змаркочаны, не знае,
Ці іншы дзень ёй выгляне ўзамен.

Нібыта гэтак — хмура і бясконца —
Ляжаць, асеўшы, небу на зямлі.
Ды выблісне усёй зіхотай сонца,
Хіснуўшы цемень свету, хоць калі.

# РОДНАЕ

«Кожны з нас прыпасае радзімы куток»*, —
Прыгадалася мне, уязджаючы ў Хойнікі.
Вечаровы туман пагрузіў гарадок
У часіны трывожнай «Палескае хронікі».

І здалося: дарога між зыркіх агнёў
Як па часе былым стужкай шэрай раскручана.
Прывядзе неўпрыкмет да Яго Куранёў
І зіркатай дрыгвой захлынецца засмучана.

Там, за грэбляй старою, чародка хацін.
Ценькі вогнік лучыны за шкельцамі зорыцца.
Там, пад зоркамі неба, адзін на адзін
З цэлым светам адвечная хроніка творыцца.

Там, у посвісце самых злавесных вятруг,
Час без скрухі і звад куранёўцамі мроіцца.
За цагельняй у глебу ўразаецца плуг,
І не поле — гісторыя зломліва кроіцца.

Ды павыдранай будзе аж да каранёў
Памяць роду. Ці тою ступалі пуцінаю?
Адракліся душой ад сваіх Куранёў,
Наглуміліся ўсяк над сваёю Айчынаю.

І зрабіліся ў моры людскім — нічые.
А над ёю сягоння, укрыўджана горкаю,
На пустэльнях знявечаных вецер пяе
Ды бліскоціцца ноч палыноваю зоркаю.

Скончан рэйс ля прысад. Мне Радзімы глыток,
Гаркаваты на смак, дораць смутныя Хойнікі.
Ёсць у кожнага свой, мілы сэрцу куток,
Дзе сурова жыццём лёсаў пішуцца хронікі.

---

* Радок з Пімена Панчанкі.

# ГЮЛЬСАРЫ

*Чынгізу Айтматаву*

Ажно з маленскае пары,
Жывы красаючы агонь,
Няўтрымна скача Гюльсары —
Імклівы конь, гарачы конь.

У далеч гляну з-пад рукі —
І памяць пругка загула:
Сядлаюць коней дзецюкі
На веснім выгане сяла.

І за спіной — пяюць вятры,
І б'е па слыху вышыня.
Я клічу горда — Гюльсары —
Свайго грывастага каня.

А ноч нахлыне — зорны крэп
Зіхотна высцеле ўгары —
Чытаю кнігу. Бачу стэп.
Ён гулка скача, Гюльсары.

І сэрца сціснецца да слёз,
Зара — прасцінаю крыві.
Я прадчуваю конскі лёс,
Гарача дыхаю: — Жыві!

І знаць не знаю іншых бед,
Грудзьмі паўстану за яго.
Ды рушаць стратна-згубна ўслед
Ўсе коні Бабчына майго.

І на чарнобыльскім кастры
Маленства кут згарыць датла.
І толькі памяць — Гюльсары —
Праменьчык вечнага святла.



* * *

Не выстыла памяць. Трапёткая, гойна-жывая,
Жыцця галасамі за крокамі ўслед усплывае.
На вуліцы роднай, дзе выстылі хаты пустыя,
Я чую суседзяў у клопатах звычных, бы тыя
Жывуць тут па сёння
турботным жыццём чалавечым,
Што выдумка тое: яны — у выгнальнай далечы.
Спраўляюць радзіны і горка праводзяць мярліны,
Іх дужыя рукі спачынку не маюць хвіліны.
Іх дзеці, што тут нарадзіліся, ходзяць у школу,
Збіраюцца ў маі ісці ў Варацец на Міколу.
Ў гародчыку позна, капаючы цёплыя грады,
Бязмежнаму шчэбету ўспуджаных ластавак рады.
Над гэтай стыхіяй жыццёвай, акропленай потам,
З угрэтых палёў патыхае салетрай, азотам.
Ды вечарам познім пратупае вулкаю статак,
Ды смех сакавіты
на лавачцы шустрых дзяўчатак,
Ды неба бяздоннага, шытага ў зоркі, сінеча,
Агуслая ціша і вечнасці зорнае веча.
Я ўсё ўспамінаю — да самай малое драбніцы:
Як косы шаргочуць, як звоняць у лозах крыніцы,
Як мкнуцца ў нябёсы з зялёнага жыта падлёткі,
Як дым на світанні снуецца над хатай салодкі,
Хрыпата скрыпіць журавель
па-над студняй дзюбаты,
Як пахкага сена воз сунецца шляхам бухматы,
Як дзень, ад угрэву высокага сонца спякотны,
Халодзіць вятрыскам залётным
твар горача-потны,
Як вечар спадае смуглява туманнаю дымкай,
І вяз на памежку, умлелы ад росных абдымкаў.

І коціцца сонца за сценку-шчарбаціну бору,
І вольна пад небам, суладна птушынаму хору,
І голасна кліча свайго падшыванца матуля,
І вуліца вёскі, нібы патрывожаны вулей,
Зноў поўніць паднеб'е няўтрымліва
пружыстым гудам.
І гэта — ЖЫЦЦЁ!
Мне павернута памяці цудам.

## ЗОРНАЯ ПАМЯЦЬ

Мы саступілі з дарог і палёў,
З цёпла сагрэтых палёў і дарог.
Далечы лёсу густа аплёў,
Седзячы чэпка, чорны быльнёг.

Выгары памяці шырацца больш.
Там нашы вёсны — плёскат крыніц —
Наступам скрушным вытруціць боль,
Змогшы рэальнасць сабой падмяніць.

Мы — у бясчассі... Столезна год
Памяці плугам вядзём баразну.
Не прыкмячаючы іншых шчадрот,
Бачым адзіна **тую** вясну.

Што ж адбылося? — зрушыўся свет,
Стаў для душы непрытульна малы,
Плоймаю смерчаў, жудасцю бед
Ўціснуўся ў хаты чатыры вуглы.

Нам адзінотна ў свеце згасаць,
Гледзячы ў шыбы чужачых акон.
Зорную памяць да скону красаць,
Журачы долю, з крэсіва дзён.



Дарога, закалыханая жытам...

*Максім Танк*

Не жытам — пасівелым палыном
Дарога закалыханая. Сном
Пакутна-даўка цэдзяцца мінуты.
І я, астатні стомлены хадок,
Дарогай уздымуся на грудок,
Прастор агледжу, ветрамі прадзьмуты.

Дарога бліз суседняга сяльца
Прыпыніцца... Ды ёй няма канца —
Звяло далёка слёзнае выгнанне,
Каб у абложы зжураных гадоў
Зваротна між залеў і халадоў
Ступала безгалосае світанне.



Не лёсу сляпая пакорнасць —
Дужасць цешыла палешука.
«Ваўка ногі кормяць», —
Казаў пра сябе,
Не пра ваўка.

Рукі ніколі не мелі спачыну —
Драў дзікаросы,
Потам умыўся спорным.
Адно й паўтараў век без упыну:
«Ваўка ногі кормяць!»

Знаных вандровак сцежкі — нямыя,
Дзень атрутны, халодны.
Душа ад болю ў самоце ные,
Гойсае,
Як воўк той галодны.

І ўжо жыві, бядою жахнуты,
Бы ў часе былым пячорным.
Са страхам глядзі ў пашчу атруты...
Ваўка ногі кормяць.

## БАБЧЫНЦАМ

Садзілі соткі, стагавалі сена,
Спускалі дрэвы, карчавалі пні...
Адвеку аднастайна-неацэнна
У клопатах міналі вашы дні.

То кліча рукі ўзрошчаная ніва,
То зруб гукае, веючы смалой.
Заўжды клапотна, годна і цярпліва
Вы неслі гонар чалавечы свой.

Жылі трывуча спадзяванкай-верай
Не ў космасе — на пятаку двара.
Зірнуў Чарнобыль ядзерным ашчэрам,
Сказаў: у шлях, выгнаннікі, пара!

І ўпершыню змарыліся ў бяссіллі,
Ачэзлыя яшчэ не па гадах.
І склаўшы рукі, многія спачылі,
Вярнуўшыся у Бабчын, на кладах.

## СЯБРАМ МАЛЕНСТВА

Той паплавец, дзе строкат нашых пят,
Усцяж парос пякучкай-крапівой.
І сцены родных анямелых хат
Забыта спяць пад небнай сінявой.

Гудуць завыўна злоснікі-вятры,
Як галасы абрынутых пакут.
Збалелыя хаўруснікі-сябры,
Вы помніце маленства светлы кут.

Мінаючы калючыны-драты,
Ва ўяве кожны з вас — сюды плывец,
Дзе зноўку, мурзы, дотыкам пяты
Сагрэеце астылы паплавец.

І на лісці жыгучай крапівы,
Здалося мне, блішчаць не кроплі рос,
А зыркія, з адлівам сінявы,
Іскрыны вашых самых горкіх слёз.

## СВЯТЛО ХАТЫ

Сонца да шыбаў штодня прыпадае.
Травы пад вокнамі.
Росы каляныя.
Груша нячэпана ападае,
Просяцца ў рукі бэры духмяныя.

Вецер разнасцежыў рыпкія дзверы,
Век мой атрос на вакольнай шырэчы
Іншыя бэры —
Хіжыя бэры,
Імі спаліўшы мой след чалавечы.

Боль мой у сценах тваіх кватаруе,
Сцішыцца, гойстры, шарай гадзінай.
Час постчарнобыльскі
Чым ахвяруе? —
Шчасцем вялікім — малою радзімай!

Маці ступала з даёнкаю поўнай,
Рань ажывала каровіным рыкам.
Горбішся ноччу
Пад рыжаю поўняй,
Стратам дачасным не маючы ліку.

* * *

У Хойніках, пад кронамі таполь,
Пачую зноў у сэрцы гойстры боль,
Бо ведаю: дарога дальш не тая.
І хоць у промнях зыркага святла,
Ды ў іншы свет не раз мяне вяла, —
Там хата ўмерла матчына — пустая.

Задоўга буду ў ціхім гарадку
Хадзіць, нібы ступаць па цаліку,
Каб рушыць дальш, збіраючыся з духам.
І не стрываю тых праходак больш.
Каўтаючы пякотна-горкі боль,
Насустрач рушу лёсу завірухам...

# ЖУРБОТНЫ ЎСПАМІН

> Тебе твой мальчик на ладони
> Седую голову кладет.
>
> *Расул Гамзатаў*

Год колькі расстайных ты, мама, ў палоне
Нясходнае цемры і жухлай травы.
І мне ўжо ні разу табе на далоні
Сваёй не пакласці сівой галавы.

Блукаю па сцежках няўцешнае страты,
І мёртвая зона, як здань, за спіной.
І вёсачкі роднай бязлюдныя хаты
Па могілках суму ступаюць за мной.

На ветры астудным гайдаючы вочап,
Стары журавель — закадычны сябрук —
Паведаць скрыпуча сягоння мне хоча,
Што помніць дагэтуль цяпло тваіх рук.

І печ, што пагасла ў дажджах назаўсёды,
Дзе болей не блісне дасвеццем агонь,
Даводзіць мне голасам цёплай лагоды,
Што помніць і вочы, і жаркую скронь.

І толькі ў гародзе, забітым асотам,
Мазольных далоняў ні знаку цяпла.
Сагрэтая калісь на сіберы потам,
Глухотным дзічэўем града парасла.

У чэпкім, нязрушлівым смерці палоне
У шчэцце атруты, самлелы, нырну.
Я, мама, кладу галаву на далоні
Такому ж сівому, як сам, палыну.

## У ДЗЕНЬ ТАКІ

У дзень такі аж трыццаць год таму
У лес ляцеў, расхрыстаны, аблогай,
Экзамен школьны здаўшы выпускны.
І першыя крамяныя лісічкі
Знайшліся мной у прэліне лісця
На выспачцы, пад шатамі бяроз...

Іх золата ляжала на далонях,
Як самая усцешлівая плата
За міг быцця...
І радасць — віравала,
Лясную нетру скаланала рэхам...

Ужо дакладна ведаю цяпер
(Ці напісаў пра тое ў сачыненні?):
І спеўны лес, і жоўтыя лісічкі,
І гэты мройны, светлы прыпамін —
Вышэйшая ступень зямнога шчасця,
Якое меў,
Дарованае лёсам.
Астатняе —
Чарнобыльскі туман...

*01.06.2001*

* * *

Праз морскі брыз пуцінаю зваротнай
Вярнуўся бусел да буслянкі роднай,
Прынёс у вёску новую вясну.
І клёкатам агучыўшы прастору,
Сказаў палям, нахмуранаму бору:
Жыццё наноў тут першым распачну!

Мне верыцца: да гэтых зглухлых хат
Употайкі наносіць немаўлят.
І далеч-ціша будзе разгукана
Узрушнасцю шчаслівых галасоў.
І як у скутай прошласці часоў,
Зноў паплыве: «Ой рана на Івана...»

* * *

Малеча-сасонка на школьным двары
(Насенне прынеслі на крылах вятры)
Зялёнаю лапкай прыветна махне,
У стыласці мёртвай так радая мне.

Згадалася: тою праменнай вясной
Дзялянкі шырокай ступаў баразной,
І меч утыкаўся ад цяжару ў жвір,
І саджанца корань у ямачкі вір
Упраўна даваў трапяткога нырца.
І рыжым барознам — не бачна канца.

Усталі даўно там у звоне вясны
Вячыстыя сосны... У зоне яны.
Нясуць і сягоння жахотны дазор.
Залётную госцю на школьны мой двор
Паслалі — жадаюць дазнацца, чаму
Я здрадзіў шумотнаму лесу свайму.

Скажы ім, сасонка, што між завірух
Двор роднае школы астыў і аглух,
Што спохапна-горка ў чатыры бакі
Разбегліся школьныя ўсе леснікі.
Далёка панёсшы жыцця галасы,
Дзесь новыя садзяць пад небам лясы.

## ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

У хаце той, дзе чуўся першы ўскрык,
Палын журбы — адзіны госць маркотны
Прывеціць дзень майго з'яўлення. Ён
Пашэпчацца з забытаю калыскай,
Што ў пыле згубы свой канае век,
Разгушканая памяццю журлівай.
Услон ды стол — хаціны пастаяльцы —
Згадаюць жменю даўняй драбнаты:
Як тут хлапчук стрыг ножкамі,
А потым
З галасам гучным гойсаў па двары.
А завязаўся першы пух на вуснах —
Ікону цалаваў на развітанне.

Зляцеў за свет і ўжо, бывала, зрэдзь
Вяртаўся з гаманлівае дарогі —
То чамадан студэнцкі пашарпаны
Стаўляў, і той, паспешліва адкрыты,
Гарэў, паўнюткі сонцаў-апельсінаў,
На ўцеху меншых мурзаў двух. А то
Свой дыпламат, паперамі набіты,
На тумбачцы кідаў, а сам уміг
Ляцеў з каліщняй шустрасцю хлапечай
У блізкі лес — хапіць баравіка...
І запазна у бессані ружовай
Шаптаў радкі... І зрэдку самапіска
Каракуляў паспешны ланцужок
Кідала ў сшытку. Золак нечаканы
На шыбцы кволым водсветам, было,
Прарэжацца — і думкі пудка ў лёт
Панесліся і згаслі дзесь далёка,
Разбітыя аб вогненнае сонца...

Аднойчы ён запозвена сюды
Прыйшоў, а тут — збуцвелая астача
Жыцця, навек абрынутага смерчам,
Імя якому —
Атамны Чарнобыль...

Багата год сярод пустэчы ён,
Пакінуты, як чарадою бусел,
Блукае чэзлым жніўнікам жыцця:
То ў вокны хат пастукае —
Нікога!
То зазірне ў закінелы калодзеж...
Збірае да макуліны-драбніцы
Залевамі астуджаную Памяць.



Ні разу я не быў у гэтых сценах,
Калі жыло між іх тваё дыханне.
След на шпалерах — тут вісела люстра,
І ты прад ім, зашпільваючы станік,
На раніцы паўсонна замірала.
І гузікі на кофтачцы слухмяна
Уздрыгвалі ў тваіх свавольных пальцах,
І ўжо затым, дапіўшы кубак чаю,
З партфелем сінім прытка за парог
Выпырхвала ў світання прахалоду
І бачнаю была з майго акна
У вулічнай сутонлівай даўжэчы,
І ўжо калі ля грушы Дубаковай
Сінелася кароткая спаднічка,
Выходзіў я, схапіўшы спехам сумку,
І мяўся каля брамкі, і чакаў,
Каб прывітаць цябе, маё Каханне.

І вось цяпер у выселенай хаце
Хаджу, як злодзей.
Пуста тут і сыра.
А я рабую золата ўспамінаў
І спаталяю даўнюю цікаўнасць.
І боязна да дрыжыкаў, што раптам
З-за шыбіны разбітае твой голас,
Мяне заспеўшы, грымне абурэннем...



Ці хоць калі ўбярэ ў сто тысяч год
Прытомленая памяць чалавецтва
Кругі свае? Ці ядзерны зыход
Галасам развітальным адзавецца?

Не веру, што смяротнай злякатой
Завершыцца зямлян летазлічэнне.
Што блісне зор дакорліва свячэнне
Па-над зямлёй глухотнаю, пустой.

* * *

Смерць кашчавая, сухая
Зноў па хатах вёскі шнарыць.
— Анікога! — пазяхае.
Пра пабор свой новы марыць.

— Замарылася ў бяздзеллі,
І каса ўсё больш ржавее! —
Вочы хіжасцю глядзелі,
Ды скуголіла завея.

— Адпачні! — кажу старэчай, —
Ты стамілася за жытку!
Лепш прыляж сабе на печы,
Пакладзі пад голаў світку.

Тут няма былой работы,
Тут жыццё табой забрана.
Спі ў жахоце адзіноты,
Ўсё тут смерцю пакарана!

І старэчая к хаціне
Быльнягом наўпрост пабегла,
У аснежанай пустыні
На чарэні спаць залегла.

Сніць салодка ў раз каторы
Шэсце ўцешнае былое:
Бы ступае па разоры,
На руках нясе малое.

* * *

Неба восені позняй,
Хмар халодных узвіў.
Над хацінаю кожнай
Дождж самоту праліў.

У ваколлі — пустэча,
Мокры морыцца лес.
Тут хадой чалавечай
Адступіўся прагрэс.

Смутна, цьмяна, трывожна...
Глухата... Цішыня...
Неба восені позняй.
Вусціш мёртвага дня.

Дзе вы, поўныя сонца,
Залацістыя дні?
Тут дапіты да донца
Вір жывой глыбіні.

Тут — астылае поле
Зарастае лазой.
Тут — абронена доля
Чалавечай слязой.

Горкай смутай абложнай
Дзень прашыт навылёт.
Неба восені позняй.
Лёсу вырай-адлёт.



Зыбучым сіберам працятая,
Зіма астанне сценаў кратае,
Завейна ходзіць па дварах.
У хатах выстылых начуючы,
У сцюжным цемрыве сталюючы
Нясходліва дрыготны страх.

Усцяж жыццё ёй перамолата.
З-за лесу ранку пырскне золата —
Зіхціць нязрушна злеглы снег.
Ды бадыллё трымціць-хістаецца,
Бы ў лютай злосніцы пытаецца:
Скажы, не мулкім быў начлег?

А сібер віхры снегу круцячы,
Ўстае, нібыта рэбры пруцячы,
Бязважка белы — смерць сама.
І над пустэльнаю маркотаю
Сіпіць прастуднаю ікотаю
Ахрыпла-сіберна зіма.



Ступаючы па шчэлепах руін
Калішніх замкаў — знатных камяніц,
Каўтаю скрушна горкі прыпамін,
Пачэрпнуты з мінуўшчыны крыніц.

Ля стручаных Чарнобылем хацін
Стаю пад крыллем ядзернай начы,
Каўтаючы прагорклы прыпамін,
З крыніц уласнай памяці п'ючы.

* * *

Галоснае студэнцкае пары
Патрапіўся мне ў рукі
Мой «архіў» —
Ад часу парудзелыя канверты.
Пашэрпаны дарожны чамадан,
Засунуты падальш на антрэсоль,
Са сквапнасцю ахоўніка іх выдаў...

Гартаю ўважна зжоўклыя лісты,
Чытаю-задыхаюся... Ці так
Чытаў калісьці ў тлуме інтэрната
Увесь жыццёвы розгалас драбніц?
Цяпер яны за датамі трагедый
Інакш гучаць,
Гаворачы душы
Пра клопаты жывых
На вуліцы вёскі.
«Антось сталюе новую павець...»
«Раменны замуж выдае дачку...»
«Вярнуўся Шурык з Кіева да маткі...»

Гучаць жыцця вясковага навіны.
І аніяк не здатная душа
Згадзіцца з тым, што іншым,
Жорсткім зместам
Скразная смерць напоўніла радкі...

Што на чужыне ўмёр сусед Антось,
Трагічным стаўся лёс Раменнай Галі.
І Шурык-баламут умёр у год,
Якраз калі надарыўся Чарнобыль...

Лісты, як прысак даўняга жыцця!
Усё не так! Яны — часцінка Часу,
Пазначанае літар беглай вяззю
Ягонае адзінае імгненне...

* * *

Калісьці ў гэтым лесе я жадаў,
Каб аніхто навыперадкі, бежкі
Не рушыў да грыбовішчаў маіх,
Патайліва пад шатамі схаваных.
Я піў глухоту нетры векавой
Усцешліва; і заміраў з трывогай,
Калі пабліз гучэлі галасы,
Пускаўся ў гон і уяўляў з прыдыхам,
Як недзе да маіх баравікоў
Чужыя пальцы цягнуцца жадліва...

І вось у шатах, поўных глухаты,
Адзін блукаю, за спіной — ні гуку.
Ніхто за мной не паспяшае ўслед,
Ніхто маіх грыбовішчаў не рушыць...
Ды той, калісь жаданы супакой
Цяпер такі цягуча-недарэчны,
Што я гатоў спыніцца і чакаць,
Каб хтось услед шалёным нёсся спрытам
І ўсе мае пабраў баравікі.
О, як бы я таму быў сёння рады!

* * *

*Ірыне*

Душа імкне між лет і зім
У родны край, што спіць пад цэзіем.
Як стогн журботы, па-над ім
Мая прагорклая паэзія.

І ты за мной услед ішла.
Не раз задумлівая, ціхая,
Яе пакутаю жыла,
Яе расой атрутнай дыхала.

Даруй, што долю уручыў
Табе не вабную, а спудную.
Што найчасцей журбы матыў
Гучыць над святамі і буднямі.

Ды ўсё ж — між страт і пустаты,
Дзе зглухла спіць зямля радзінная,
Я небу ўдзячны, бо ёсць ты,
Мая заступніца адзіная.

## ЧАРНОБЫЛЬСКІ ВОБЛАК

Ён выдзьмуваўся сярэдначы
Раз'ятраным жаралом смерці —
Рос і бухмацеў
Над кучматаю грываю лесу,
Над пярэстымі ласкутамі
Лугавін і палёў,
Пагрозны чарнобыльскі воблак.

Мільёны сонных насоў
Уцягвалі дробнае нябачнае сяйво.
А калі выкацілася
Вогненнае сонца —
Сціслíся чалавечыя грудзі,
Папярхнуліся радыяцыяй...

Толькі луджаныя чыноўныя глоткі,
Не чуючы перху,

Гарланілі на ўсю моц:
— На дэманстрацыю!

Над Айчынай маёй —
Чарнобыльскі воблак.
Не хутка яшчэ
Грудзі наступніка
Дап'юць горкі накрап...

* * *

Травы мае,
хмельна поячы пахамі рань,
Вашы лёзы ўзышлі —
згубы ядзернай грань.
Зрэнка кветкі — нейтрон.
А сцябліна — бяды вастрыё.
З розных свету старон
гойстра меціце ў сэрца маё.
Між былля чыстацел
скруху жоўтую горычна п'е.
Колькі ядзерных стрэл
ловіць сэрца,
О, травы мае...

Дзе шукаць мне касу,
каб на золку ў атрутных палях
У пракосы пакласці,
гнеўна зрынуўшы ў ядзерны прах,
Вашы гойстрыя лёзы.
Стамлёна пакошай ступіць.
Вашы росы, як слёзы,
умлеўшы ад смагі, дапіць,
Захінуўшы астатніх,
хто горыч чужыны дап'е.
О, травы мае...

## ЧЫСТЫ ЧАЦВЕР

Ёсць даўняя звычка ў маіх землякоў:
У лазню збірацца у Чысты чацвер,
Дзе венік-хвастач дакранецца бакоў,
Як памяць радзімы — ёй толькі і вер.

Зямляцкая сутнасць, змахнуўшы свой пот,
Праступіць пякуча, як соль на спіне.
Асыпаўшы згадкамі даўніх шчадрот,
Гулліва гамонку сваю калыхне.

З радзімай павечна павязаны мы,
У кожнага ў сэрцы — шчымотна свая.
Чарнобыля ўсталі над ёю грамы,
Шыпенне у травах густых гадаўя.

Ды нам гэты кут назаўжды дарагі,
Другога пад сонцам — душы не абраць.
Прыходзім, сплаціўшы дарозе даўгі,
Туды, дзе дасветныя росы гараць.

Мае землякі! Паляшуцкі наш лёс
Ўсіх еднасцю лучыць у Чысты чацвер.
Тут кожны кулік у шуканні дзівос
Пахваліць балота ды пахкі аер.

З-за Гомеля людзі... Не дробны народ.
Вам неба і розум, і памяць дало.
Не вынішчыць стронцый зямны радавод,
Не выстудзіць душ паляшуцкіх цяпло.

Вы рушыце з лазні ў чатыры бакі,
Уціснеце памяць у клеткі кватэр.
Зямныя багі — вы, мае землякі,
Прачыстыя духам у Чысты чацвер.

# ПАЛЫН

*Горкая споведзь*

Гналі мяне на межы,
На бакавіны канаў.
Рослы, учэпісты, свежы,
Смутна я там канаў.

І на зімовай сцюжы,
Высахлы, шапацеў.
Чэпкі, упарты, дужы,
Жыць я хацеў!

Будзе часіна, верыў,
Прыйдзе вясна, калі,
Рослы, віхрасты, шэры,
Ўсядуся на зямлі.

Згаслі жывыя згукі,
Поле больш не аруць.
Дужыя злыя рукі
Парасткі не дзяруць.

Прагай наліты вочы.
Між навальніц і слот
Мару, што пераскочу
Зоны калючы дрот.

Помніце: там, дзе ходзяць
Цені жыцця адны,
Густа, раскошна ўсходзяць
Шызыя палыны.

## ПАМЯЦІ В. І. ТАНКЕВІЧА

Сышоў пакутнік. Горкі лёс
Асвеціцца астачай слёз.
Мякчэй прымі, зямля чужыны,
У сховы бездыханны прах.
Зямнога лёсу пуцявіны
Астынуць на тваіх вятрах.

Адсюль, бядак, ён будзе бачыць
Чарнобылем забіты Бабчын,
Дзе між віхур былой вайны
Яшчэ падпаскам-хлапчуком
На ўзлёце юнае вясны
Каўтнуў выгнання першы ком.

Над ім маланак безліч секла.
Вайна ды атамнае пекла
Спакой трывушчы аднялі.
За вёрстамі ў зямлі сырэчай
Суцiхне клопат чалавечы
І рук астынуць мазалі.

Сягоння тут, над доляй горкай,
Душа яго праменнай зоркай
У вышы небныя ўзляціць.
І там над ядзернай атрутай
Яна прасветленай пакутай
Над хатай роднай зазіхціць.

## АСТАТНЯЯ НАДЗЕЯ

Ты ў нябёсах зямных жыла,
Над палеглымі больш крыляла.
Цудам выжыўшых ў сечах зла
Прагай чутаю спаталяла.

Пазірала з вышы, здаля,
Бы чакала тае мінуты,
Як уздрыгне мая зямля,
Хапануўшы спаўна атруты.

Што ж, счакала таго, калі
Я, прадчуўшы з жыццём разлуку,
На загрыўку сівой Зямлі
Падаю ў раз астатні руку.

Прывід чорнага жаху, згінь!
Над дзівосай пунсовых кветак
Ні адну шчэ з зямных багінь
Не праводзіў я небам гэтак.

Ні адной так бясконца рад
Я не быў і, відаць, не буду,
Ясным бачачы далягляд,
Белым свет, падуладны цуду.

# ВІТАННЕ КНІГІ

*Ніне Рыбік*

Пішы, зямлячка! Кратай болю струны.
Глядзіць Чарнобыль згубнікам услед.
За дротам зоны пачывае юны
Вясны жыцця птушына-грайны свет.

Над Прыпяццю трапёткі ён і зумкі,
Закуты ў пракаветныя лясы.
Вядуць туды ўсе зболеныя думкі,
Дзе ў пустаце знямелі Уласы.

Снуеш радно — старонку за старонкай,
З журбой-гарчынай зорыш наўкруга.
Настылаю калінаваю гронкай
Па сэрцы стукне роспачы туга.

Забыўшыся, што блізка доля-плачка
Над полем лёсу слёзы праліла,
Свой творыш свет, самотная зямлячка,
Сярод начы — з надзеі і святла.

Гараць яго праменна небасхілы,
Гучаць яго нясходна галасы.
Не зрушаць ні жахоты, ні магілы
Адкрытыя уявай Уласы.

На пожнях смерці, мройная дзівачка,
Ў хусціне скрывянелае зары,
Напроці згубе ядзернай, зямлячка,
Свой свет жывы
Да змогі сіл твары.



«Вёска Глінішча» — павароткі
На дарозе не праміні!
Атрасаючы сон дрыготкі,
Глянуць Мележа Курані.

Колькі тут красавала шчасця,
Слёз лілося ў густой журбе!
Да хацін бы грудзьмі прыпасці,
Ад бяды захінуць цябе!

Хвілю даўкай прагнаць жалобы.
Ды ступіць на бальшак мне твой,
Смутна помнячы, што Чарнобыль
Згубна дыхае за спіной.

Вецер буйны, што ўсцяж нясецца,
Снег шуготны, што стуль мяце,
Пераняць бы гарачым сэрцам
На пакутнай тваёй вярсце.



Крылы стратных год імклівых
Стынуць пошугам халодным.
Лік галосных дзён шчаслівых
Супыніўся ў краі родным.

Блудзіць восень на пагосце
Несуцешна чорнай плачкай.
Поўны вусцішы і млосці,
Сцяты дзень магільнай спячкай.

Цягне жудасныя ноты
Цішыня над хаты дахам.
Згукі мёртвае самоты
Працінаюць сэрца жахам.

І ні полаз, і ні кола
У былое не даедзе.
Толькі сэрцу невясёла
Ўдаль брысці па шчасця следзе.



Дзяўчаткі, ластаўкі вясны,
На вулцы шчэбет ваш да ночы.
І морак ценем патарочы
Кароткія палошыць сны.

Лунае пошуг юных мар.
Яму данесціся шчасліва
І калыхнуць душу шчымліва,
Сагнаць з яе абложжа хмар.

Жыве трапёткі мройны свет,
У ім — павеў густы святлыні
У скутай ядзернай пустыні
Узносіць росны першацвет.

І воку болей не відны
Палын з жыгучкай крапівою.
Шчабечуць моваю жывою
Дзяўчаткі, ластаўкі вясны.



Да ўтомы зонай я хадзіў,
То снег мяло, то дождж абложны
Сваю маркоту ўслед цадзіў
І прыбіваў пясок дарожны.

То сонца выгляне з аблок,
Пламеннай поўнае спякоты,
І твой пачуўшы ўзбудны крок,
Зяхотна ўслед спытае: — Хто ты?!

То шызы ўздымецца туман,
І два крылы, нібы палотны,
Каб сэрца ўвесці ў мройны зман,
Атуляць далягляд журботны.

То птушкі лёткае крыло
Мільгне над дрогкаю асокай.
Тут шчасце некалі жыло
І гнездавала так высока!

Ісці на кліч яго наўпрост
Да той нязгаснае ясноты!
Ды ўстаў быльнёг у поўны рост
І паўтарыў за сонцам: — Хто ты?!

— Я? Валадар зямлі... былы...
— Ну вось, спаткаўся ты са мною!
І я пачуў сухотны, злы,
Здзічэлы рогат за спіною.

Быльнёг па твары шорстка сек
І пацяшаўся гэтым здзекам.
— Пусці, быльнёг! Я — Чалавек!
— Быў да вясны той чалавекам!



# ЭЛЕГІІ ЧАРНОБЫЛЯ

* * *

Мінаюць дні ад даты катастрофы,
І забыццё маркотны сум ліе.
І вырастаюць між дзічэўя строфы
Прагорклыя, адчайныя —
Мае.

## СЦЕЖКА

Падэшвамі ног умятая
(Самотная, скрутная лежка)
Травее за матчынай хатаю
Калішняя сцежка.

Памежкам, Антосевым поплавам —
У ранішні сон, на Аколіцу,
Імкнецца, жывая і цёплая,
Мурожнаю шчэццю колецца.

Вочы заплюшчу — бягу,
Толькі пазвоньваюць росы.
Зрыне з душы тугу
Кнігавак хор стогалосы.

Выдыхну ля ручая
І захлынуся шчасцем.
Сцежка жывая мая,
Ты не астыла ў часе.

* * *

Гасла жыцця бруя,
Неба зямлю карала.
Вёска жывая мая
Зболена памірала.

Чула спалошны крок —
Спохапны тупат хатні.
Гасіла вугалёк
Ў печы на подзе
Астатні.

...Яблыкам спелы сад
Вабіў, нібы малога.
І прывяла назад
Светам мяне дарога.

Цераз быльнёг, палын,
Скрутная, болем легла.
Вось і прыйшоў... Адзін...
Жалю сляза набегла.

Цёхканне салаўя.
Сцісла адышка горла.
Слухаю вёску я,
Ведаю: не памёрла!

Кіне сваё: — Жыву! —
Горка рабіны гронка.
Тут яны — як ні заву
Ластаўку, жаваронка.

* * *

Прыснілася: хата сярод палыну,
Разбітыя шыбы, дах ветрам садраны.
Падцёкі іржава стачылі сцяну.
Запечак халодны. Дух скуты, мярцвяны.

І раптам — былое: і брат, і сястра
Галёкаюць блізка — мурзатыя дзеці.
Іх кліча матуля — дадому пара!
І бацька. З ахапкам выходзіць з павеці.

А я ім гукаю
(І сэрцу шчымець):
— Схавайцеся ў хату!
Тут — згубніца-смерць!

* * *

У вокны бліскотай сонца
Ранак укоціцца — морак
Згорблена, лена, сонна
Выскачыць на падворак.

Шусне у хвойнік імглісты,
Спуджаны зыркім пламеннем.
Дзень малады фарсіста
Белы сурдут надзене.

Сцішыцца ў горкай скруце.
Перш як падацца зонай,
Ўсхліпне, вачасты, у куце
Перад іконай.



Акацыя-калючка на клады,
Занесеная ветрам, прыблукала.
I мама, быццам іншае бяды
Не маючы, зажурана ўздыхала:

— За год-другі магілы апляце,
Не ўступішся — калючая заслона!
Згадаліся мне словы ў пустаце
Твайго дзічэўя, атамная зона.

Ляжаць клады між ядзернай жуды.
Трымціць безабаронная акацыя.
Прыйшоў я, мама. Прывідам бяды
Ступае ўслед драпежна радыяцыя.

Дзічэўе траў твой ахінула сон,
На ўлонні смерці сплёўшыся калюча.
Твой голас, мама, з вечнасці чуцён:
— Паколешся!
Ці ж мне з таго балюча?!



Вярба рэпанаю карой
Чуе ядзерны сверб.
Вецер сваволяй-ігрой
Гойдае клейкае лісце.
Коцікі — водбліскі мрой.
Зноў я ля родных верб!
Тут, дзе малым
Дудку круціў калісьці.

Чую: заліўна-гудка
З упрэлай кары тае
Скручаная мной дудка
Недзе у вёснах пяе.

Хто на ёй сёння грае
У ядзерным свеце?
Скажы мне, вярба старая!
— Чарнобыльскі вецер!

* * *

Адступіла Жыццё, адышло
За палі, за самотныя рэкі.
Даўнім шляхам «з варагаў у грэкі»
Цені продкаў маіх павяло.

Я на ўскраі пустэчы стаю:
Немата, вусціш скутага часу.
Вечнасць, лічачы зорную касу,
Студзіць мёртвую памяць сваю.

* * *

Ранішні пошапак траў.
Вецер пружыць крыло —
Пахі вясны сабраў,
Прынёс у сяло.

Свежы квецені пах
Будзіць жывую вясну.

Толькі гарчыць на губах
Дух палыну...

* * *

Білося ластаўчына пёрка
У лёце скінута на ветры.
У косым промні адвячорка
Кружыўся лёт пушыны светлы.

Нібы душа чыясь з нябёсаў
Дамоў вярталася бязважка,
Да непралазных дзікаросаў,
Сюды, дзе смерць зяхае страшка.

Гібелі косці на пагосце.
Душа ж — кружылася, ляцела
У смерці чорнай весялосці,
Даўно адвеянай ад цела.

* * *

У восеньскім ранішнім садзе
Шчадрота сонца апошняга.
Ідзе па жыццёвым раскладзе
Астача клопату позняга —

Касцёр, як дыханне-выйсце
Вечнага адмаўлення
Старога апалага лісця
Над чысцінёй абнаўлення.

Полымя языката
Каўтае лістоту чэзлую.
Святлее родная хата
Ад водбліскаў, не ад цэзію.

А неба хмурынамі ўзмокла,
Вось-вось зашарэе ў галлі.
Але яшчэ гэтак цёпла,
І светла яшчэ на зямлі.

* * *

Маладое жыта бескалосае
Май сугрэўна дыбіць на палях.
Маладое шчасце стогалосае —
Неба шыр і ў зорках Млечны Шлях.

І стаіш прад ім у думным верадзе,
Лёсу пазабыўшы градабой.
Бы яшчэ уся бяда наперадзе
І не пражытая табой.

Бы за міг усё пераіначыцца
Там, у краі мёртвай глухаты,
Іншым лёсам на зямлі пазначыцца,
Не закутым горычна ў драты.

* * *

На снезе не бліснe сена каснік —
Дарога не ўчуе лёту саней.
Падаўна тут возчык з атаваю знік,
Сцінаецца сівер, як сквапнік-сугней.

У зацішы свету нудотнай, сляпой,
З-за хмурага лесу гарбатай сцяны
Паявіцца сонца — і рыжай капой
Пасунецца снегам скрозь морак лясны.

* * *

Грудок пад соснамі жаўцяны
Залёг, як ліса галава.
На ўгрэве рыжае паляны
У шчотках белых — сон-трава.

Вясны блакітнае бяссонне
На гойнай памяці вярсце:
Я сэрцам чую, як у зоне
І сёння сон-трава цвіце.

Над ёй — бязветраная ціша
Ужо без ліку смутных дзён.
Мой кут пакінуты калыша
На прамянях блакітны сон.

І сон той горкі, непрабудны,
Сыры, як жорсткая жарства.
І лёс выгнанніцкі астудны,
І сіні сум, як сон-трава.



Гады мае — пустэльнікі выгнання —
Брыдуць зямлёй астылай.
Запаліць барву ядзернае ранне
Над матчынай магілай.
І ў гэтай скутай, вусцішнай шырэчы
Пад ярым сонцам рыжым,
Каўтнуўшы боль удушлівы старэчы,
Спрабую выжыць.

Дзень сонцавай карэтай залачонай
Па небе мёртвым рушыць.
І разбрыдуцца атамнаю зонай,
Як цені, продкаў душы.

Асотам, быльнягом ды крапівою
Сыду ў густым тумане.
Ды ў нейкі міг прыветнай і жывою
Услед радзіма гляне.



Ранак вільготны, сонцам падпалены,
Зырка пярэсціцца беллю бяросты.
Свецяць пагаслага шчасця праталіны,
Дні шчэ не звіты ў выгнальныя вёрсты.

Там, на ускраіне чорнае згубы,
Колькі ссамочаных год,
Свежы бярозавік паліць мне губы,
Чую — халодны як лёд.

Зноў адхінуўшы часу завесу,
Ў горле здушыўшы камяк,
Выганам памяці з гэтага лесу
Не адыдуся ніяк.

Там, на памежку згубнай пагрозы,
Быццам прадбачачы лёс,
Роняць над верасам ссохлым бярозы
Чыстыя краплiны слёз.

* * *

Бярэзнік мой, наліты сонцам лета,
Усланы шорсткім дываном сіўцу,
На прамянях бяды касцьмі шкілета
Ківае часу — Вечнасці ганцу.

Адно бясстратна толькі і ўцалелі
(Не ўеліся рэнтгены-прамяні)
Сатвораныя сонцам акварэлі:
Азерца гладзь, плёс небнай глыбіні.

Святло вясны, як несмяроцце фарбы,
Малюе дзён мне помлівых красу.
І я ў душы апаленыя скарбы,
Ухопленыя з полымя, нясу.

* * *

Малю, каб неба не ліло,
Падобна Божаму прароку,
На хаты грэшнае святло:
Мой кут жывы адно ў паўзмроку.

Сатрэ той пошуг агнявы
Прывід жыцця перад вачыма.
І смерць уступіць у правы.
У тое верыць ці магчыма?!

## КВЕТКІ

Колькі ўжо вёсен
Між адзічэлай травы,
Вочы адчаю,
Спуджана зорыце вы.

* * *

Згасла цяпло чалавечых рук,
Вецер дзічэўе скубе.
Моліць над полем самотнік-жаўрук
Зноў аб сяўбе.

Весняя песня світае ў цішы —
Горкая, лішняя тут.
Памяць, жаўро, не варушы,
Цяжка мне ад пакут.

Пуста сягоння ў небе маім.
Поле — быльнёг, пясок.
Льецца пагаслага шчасця гімн —
Слухаю твой галасок.

Я замаўчаў, адступіўся... А ты
Колькі ўжо вёснаў тут,
Верачы, вернуцца ў поле жыты,
Будзіш памерлы кут.

Будзіш у полі сцежку маю,
Песціш жыцця сцябло.
Песню інакшую я пяю —
Болей пра смерць і зло.

Толькі адзіны ты па вясне
Ядзернай згубе ўслед
Вечную песню, чуецца мне,
Тчэш тут і грэеш свет.

* * *

Як звер драпежны, кляцае
Зубаста радыяцыя.
Брыдзе з вачмі нядрэмнымі
Сцяжынамі таемнымі,
Пякельная, нясходная,
Загуба краю роднага.

Яна — у бляску сонечным,
Яна — у ззянні месяца.
Касою смерці звонячы,
Услед жартуе весела:

«Чаму спужаўся, рынуўся
Наўцёк аблогай Бабчына?
Назад ідзі з сябрынаю.
Я — добрая, нябачная...»

* * *

Пагор'і лысага пяску,
Вятрамі голеныя, дзе
Начам сцінацца у жудзе,
Нібы ў Піліпаўку ваўку.
За мной бяда ўдагон ідзе.

* * *

У лес ступлю — і атам кожны
Уздрыгне ў голлейку бяроз.
Які ты скрутны ды пагрозны,
І лес палескі мой, і лёс.

У травастоі сцежка дрэмле,
Даўно забыўшы слокат ног.
Падрос, шчацініцца мурог.
І хваляй сіняй б'ецца Трэмля.

* * *

Хаты, як пірамiды,
Сярод траўнай пустэчы.
Бы ў росшуку Атлантыды,
Шукаю след чалавечы.

Натужліва рыпнуць дзверы —
Вушак у самоце скасеў.
Пыл першабытна шэры
На падваконне асеў.

Як археолаг, дбайна
Час падбярэ чарапкі.
Колькі адкрыюць тайнаў
Міскі, макотры, глякі...

Голасам паўраспаду
Чорнае смерці тхло
Скажа дакладна дату,
Што і калі было.

* * *

Вуліцы роднай крайняя хата,
Тонеш у палыне.
Ты пазіраеш падслепавата:
Змерклася сонца ў акне.

З вёдрамі поўнымі — мне на пяцёрку
Сцежку не раз перайшла.
Дзед пракульгае — прыпах махоркі
Чутны на паўсяла.

Як жа хмяліла росная мята
Вечара стоены мрок.
Роднае вуліцы крайняя хата,
Ты пазіраеш падслепавата.
Сэрцу б твой зрок!



Зямля, сагрэтая рук цяплом,
Адорвае цудам тварэння —
Шчэціцца жывіста кожным сцяблом,
Сокамі поіць карэнне.

Іншая — чорная ад былля,
Шамкае на сухавеі.
Плугам не кранутая зямля
Згубы дзічэўем травее.

Мы ад яе — бегма-бягом,
Яна насустрач — з дакорам.
Зацягнецца здрайлівым быльнягом
Душа чалавечая скора.



Душы пагасламу агню
Не зашугаць ужо пламеннем.
Ступлю я моўчкі ў цішыню
Атрутнай згубы скрутным ценем.

Прайду мяжой, дзе сполах рос,
Па той зямлі, што ўсцяж астыла,
Дзе памяць белая бяроз
Шуміць над матчынай магілай.

Дай, неба, мне спатольных сіл —
Пайсці далей ад скруты-згубы.
Далей ад хацін і магіл.
Магілай стаўся край мне любы.

Яму ачэзнуць у траве,
Ды не астыць у чуйных душах,
Дзе памяць босая жыве,
Дзе ўсплёскі шчасця слёзы сушаць.

* * *

Тут клёны лісцем шапатліва
Аброняць чуйнае дыханне
У немач дня...
Якое дзіва! —
Жыцця пагаслага вяртанне.

Дзве качкі шустра успалошаць
Ставок пад вербамі. Гуркамі
Запахнуць грады.
Зжоўкне лотаць.
І лес гукне баравікамі.

* * *

Вецер буйны, шугакрылы,
Над радзімай не шугай!
Знаю, хопіць моцы-сілы
Скалануць палескі гай.

Не крані бяроз, якія
Гоняць весні свежы сок.
Травы ссохлыя, густыя,
Не кладзі, буян, набок.

Там, дзе вольна мкнуцца крылам
У шырокі, гулкі свет,
Шуганеш атрутным пылам —
Памяць кінецца мне ўслед!

* * *

Косіць восень дзікаросы
Ледзяной касой адчаю.
Вянуць позпія пракосы
Лебяды і малачаю.

Толькі ў кропель перазвоне
Шчасце чуецца былое.
І не верыць сэрца зоне —
Неба тое, сонца тое.

* * *

Вільготны ўсплёск паветра —
Крыло дажджу сплыло.
Як свежа, вабна, светла! —
Растала ў промнях зло.

Як хмура, сцюжна, цёмна,
Бясконцы свет — імжа,
Калі жывеш бяздомна,
Выгнанніца-душа.

* * *

З коміна дым ідзе.
Ранішні дым.
Вочы павыесць бядзе —
знішчыць зусім!
Белай світаць барадзе.
Нам цёпла дваім.

Хто яго акрыліў,
Ў печы агонь запаліў?

* * *

Дзічэўнік ядзерны залёг,
Травы атручанай пакора.
Парос учэпісты быльнёг,
Павыстыў вабны дух чабору.

А верас — сінькаю цвіце.
Душу жахота здрыганула:
Тут, у атрутнай пустаце,
Пазнака восені мінулай.

* * *

Баравінаю чужою
Ў шэрым накрапе дажджу
З непрыкаянай душою
Сёння з раніцы хаджу.

Два амшэлыя пагоркі
Ды прамоклы журавель
Кінуць сэрцу смутак горкі:
Месца — бабчынская Пель!

Дзве крупінкі падабенства,
Як адбіткі ў люстры зор.
Гэта ён, майго маленства,
Сэрцу памлівы прастор!

Зніклі шчасця адгалоскі,
Знаны вобраз згас і счэз.
Па-чужацку каля вёскі
Калыхнуўся смутна лес.

* * *

У шаліку радыяцыі,
Вачамі, поўнымі сцюж,
Зіма шлях няходжаны мацае,
Кліча: за мною руш!

Ні следу нідзе. Толькі
Сіверу сцяты енк.
Зоркі гараць, як болькі,
На твары яе.

Полем былым на карачках
Паўзе да майго жытла
Зіма — сівая жабрачка,
Жыхарка пустога сяла.

У торбу яе бяздонную
Кіну дрыжачай рукой
Горкія слёзы праклёну,
Смутак нясходны свой.

* * *

Кроў прапаліўшы наскрозь маю,
Сонца на небасхіле
Устала. І чуў я, як растаю,
Знікаю ў атамным пыле.

Зорак астатнія вугалі
Глядзелі з нябёс абалоні.
Аблокі плылі — мне бачны былі
Вечнасці белыя скроні.

* * *

І гэты кут — бясконца дарагі
Душы маёй, у зболені пачуты,
Дзе ўчора распачатыя кругі
Сястрынскае выгнальнае пакуты.

Далёка ад радзімага жытла
У зацішы глухіх вясковых вулак
Заплаканая бежанка знайшла
Сярод другіх выгнальнікаў прытулак.

Пад смутным небам восеньскага дня,
У пошугу скразнога ветравея,
Гарачая ад поту даланя,
Глыжы мнучы, чужое поле грэе.

* * *

Вёсны мае пакошаны
Часам — касцом маладым.
Белай шугой прыхарошаны.
Квецені дым.

Леты мае атрэсены,
Як маладыя сады.
Ў чорную прорву знесены
Шэсцем бяды.

Смутна пытаю ў просіні:
Будуць якімі восені?

* * *

Сяўбу на полі зла
Вядуць вякі зямныя.
З работы смерць прыйшла —
Ў крыві далоні мые.

* * *

Хваін угрэтыя камлі
Смалою сочацца. Задуха.
Маркотна-глуха на зямлі.
І між вяршалін — ясна-глуха.

Блішчыць апалены мурог
Бяды атрутлівым накрапам.
Дарога ўзносіцца з-пад ног
У выш нябёс
Адчаю трапам.

* * *

Вольніца неба. Хмурын чарада.
Смутак іх шэры на ўзвеях вятруг.
Хмурага неба спадае вада,
Дзейснячы вечна знаны мне круг.

Шэрыя здані зглухлых хацін.
Дзынкаюць кроплі ў шыбы акон.
Зноў я пад небам бацькоўскім адзін
Слухаю дождж, нібы ядзерны скон.

Лье па-над светам, быццам з вядра.
Гром басавіта рыкне, як тур.
Блізка ступае грыбная пара
З поклічам спрытных сваіх авантур.

Бегчы былому жыццю наўздагон,
Дыхаць дасветнаю волкасцю хвой.
...Ціха гушкаецца крапісты звон —
Высевам памяці, водсветам мрой.

* * *

Вярбін круглявыя галовы
Над ціхім плёсам азярка.
Да хвалі цягнецца рука.
А ў горле горкнуць болю словы —
Пра лёс трагічны земляка.

* * *

Трымціць лісцём старая дзічка,
Шапоча-журыцца: жыве!
Даўно згубілася ў траве
Маленства звонкая крынічка
І толькі ў памяці плыве.
Як галасы пакутных дум,
Вятроў шумотныя павевы.
Гайдаюць сполашныя дрэвы
Зялёны шум, зялёны сум...
О шчасця дні былога,
Дзе вы?!

* * *

Аглухлы лес. Ніколі, як цяпер,
Мяне не страшыў нетрай векавой.
Вітаў гамонкай патаемнай хвой.
І вось —
Дрыжыць, нібы загнаны звер.

Куды ні глянь — паўсюд здзічэння страх,
Тут частыя дазіметра шчаўчкі.
Парыты дол — лычастыя дзікі
Чародамі вандруюць па барах.

Калішняе грыбовішча між хвой.
І неруш, не чапаны тут нікім,
Мінаю крокам скрушлівым, гняткім,
І чую, як грыбы ідуць за мной.

На стужцы чорнай грэтае шашы
Падэшвы прырастаюць — не ступіць.
Услед ідуць грыбы — і ні душы!
І чую, як сасмягла просяць піць.



# ЧУТЫ БОЛЬ

## ГОРЫЧНЫ МАНАЛОГ

*(Паводле ўспамінаў А. І. Абухава — старшыні Хойніцкага райвыканкама)*

Дарога тая праз сэрца легла —
Да Прыпяці ў сонцы высокім бегла.
Каналы бліскотай наўзбоч міргалі
На ссушанай балаціне — Гале,
Потым Майдана дубы абступілі,
Крэкчучы ў вечна дрымотнай сіле.
Джаліла грудзі лётам трывога,
Секла надзею стралой дарога.

Гэтай трывозе былі ўжо суткі.
Тузалі Хойнікі зранку чуткі.
Першай прынесла іх жонка з базару,
Ў хату ўступіла падобнай на хмару:
— Грымнуў рэактар над Прыпяццю хіжа.
Кажуць, паўнеба полымя ліжа.
Важка па хаце хадзіла, ступала,
Гледзячы ў вочы, адказу чакала.

З раніцы цікнуў сполах шматтонны:
Зглухла маўчалі ўсе тэлефоны.
Сам пазваніў.
— Не панікуйце!
Сейце, арыце. Звыкла працуйце...
Толькі душа іншае ўчула,
Скрутна трывога яе тузанула,
І не паверыла ўцешнай абвесткі.
«Выеду... Сам разбяруся на месцы!»

Вось праплылі аравіцкія стромы,
Задаўна сэрцу куточак знаёмы:
Людзі ў аседлай звычнай клапоце,
Куры ля хат, гладышы на плоце.
Сонца хілілася ў небе на вечар.
Глянула Прыпяць глыбознай сінечай.
Вёрстаў дзесятак адсюль да Баршчоўкі.
З'ехаў на шлях той. Кабеты-чартоўкі
Блізка, на ўзбоччы, галасавалі.
Звонкага шчасця свайго не хавалі:
— Во як шанцуе! Думалі, пешкі,
Ногі набіўшы, мясіць нам сцежкі!
Самі баршчоўскія, ехалі ў госці.
Вусцішна стала ад іх весялосці.
Едуць жанчыны. Не чулі нічога.
Чорна хіснулася ў небе дарога,
Лётка пабегла баршчоўскім лугам.
— Шчасця вам, дзеўкі! — сказаў весялухам.
Сам жа, мінуўшы Баршчоўку, ў хвіліны
Быў за пазнакай мяжы Украіны.
«Тут дапытацца у кіраўніцтва,
Стрэслася што? — і ўгаманіцца!»

Тое, што згледзеў за паваротам,
Так секанула, нібыта шротам:
Статкам аўтобусы рушаць паблізу...
Глянуў за Прыпяць — вогненна шызы
Па-над рэактарам слуп на ўсё неба.
Сціслася сэрца, ўздрыгнула нема.
Горкую сліну каўтаў да ікоты:
Ўсцяж на рэактар ішлі верталёты.

Між галашэння вясковага люду
Стрэў старшыню: — Дурнем не буду!
Праўду скажу: «Бухнула, братцы,
З'ехаць загадана вось... выбірацца!»
Мчаўся дарогай: «Хутчэй сазваніцца!»
— Сейте спокойно! — сказала сталіца.

Ды не зазнала душа супакою.
Выбух, што грымнуў там, за ракою,
Рос, апавіты ў горкія чуткі.
Хойнікі трэсліся першыя суткі,
Светам забытыя; ў ядзерным пекле
Суткі другія моташна цеклі.

Горла сцінала пякучка-аскома.
Толькі пад вечар — званок ваенкома.

З вёсак надрэчных мы ў атамным пале,
Жах праглынуўшы, людзей высялялі.
— Суткі-другія... — хрыпла манілі.
Везлі на рызыку. Ўсюды званілі.
— Самоуправство! Остановиться! —
Грозна у трубку крычала сталіца.

Гнала над светам чорную хмару.
Толькі чарней я не помню кашмару,
Дзе б чарнатою чыноўнага змяну
Свет захінуўся, паўстаў, бы з туману,
Дзе б крывадушна няпраўда скразная
Гучна хістала сцягі Першамая,
Крутка ўзыходзілі ўладныя зухі,
Дзе б было столькі хлусні, паказухі.

Попел Чарнобыля душу мне выеў.
«Вецер, на шчасце, дзьмуў не на Кіеў...» —
Ўцешна-спакойна трубілі газеты.
Знаю дакладна, куды дзьмуў смерч гэты,—
Сэрца маё апаліў ён, пякельны.
Край мой, што могільнік сёння суцэльны.

Колькі жыць буду — сёмага мая
Памяць кіпучую хвалю ўздымае,
Тузае жахам даўно пераражытым,
Просіць, напраўду сабе адкажы ты —
Гэта рэальнасць ужо, а не чуткі,
Тыя кашмарам павітыя суткі,
Тыя хвіліны цягучкі чакання:
Новым узрывам выбліснe ранне!
Зданню бядоты ноч закігіча.
Рушаць аўтобусы ўраз на Драгічын.
Свет захлынецца у слёзлівай скрусе —
Зонаю станецца паў-Беларусі.

Ды адступілася з ноччу трывога.
Кожны бязбожнік дзякаваў Бога —
Чэрава смерці утаймавана.
Стыла павольна чутая рана.
Ў дзень той прачорны, з бядой заручоны,
Хойнікі ўсталі на ўскраіне зоны.

# ЧУТЫ БОЛЬ

*В. З. Протчанку*

Калі душу вятры астудныя
Скуюць у пошуг ледзяны,
Усцешся, дружа: мы не блудныя
У краю роднага сыны.

І болем мошчаная, вечная
Дарога брагінская мкне,
Вядзе да лёсу чалавечага,
Да промня ў матчыным акне.

І калыхнецца памяць плёсамі,
Смугой падсіненай Дняпра.
І ступіш ты пятою босаю
На ток бацькоўскага двара.

Ў бярозах ранішніх заблудзішся,
Дзе лось-рагач стажок скубе.
На хвілю светлую забудзешся,
Што край бацькоўскі у журбе,

Што пад пярэстымі аблокамі
Па жаркім цэзіі здаўна
Ступае ўзбудлівымі крокамі
Твая жахотніца-вайна.

Нясе аблавы дзеі помныя,
Пагоняй карнаю сіпіць.
Не спапяліць іх яве промнямі,
У новай скруце не ўтапіць.

І зноў глядзіш душой здарожанай
На сцены сшэрхлыя жытла,
Дзе зграя хіжая, варожая
Дыханне маці сцерагла.

І боль нясцерпны далеч мацае
Забеглых у Зарэчча дзён,
І ападае радыяцыя
Прад жахам, што з вайны відзён.

Сышлі Чарнобыля ахвярнікі
З былiннай прадзедаў зямлі.
Пустыя хаты. Быццам карнікі,
Рэнтгены вуліцай прайшлі.

Ніхто ў сяле не павітаецца
Кіўком ссівелай галавы,
Пра чуты боль не дапытаецца,
Не ўсцешыцца, што йдзеш жывы.

# МАЛЬБЕРТ МАСТАКА

*У. Ц. Гардзеенку*

Вятроў атрутных дзеянка:
Наўкруг быльнёг, палын.
Над Прыпяццю Гардзеенка,
Ссамочаны, адзін.

Блакітных хваль авацыі
Ды чаіцы кружыць.
Мальберт на радыяцыі
Ад сполаху дрыжыць.

Атрутай важка дыхае
Славянская рака.
Журбу, пакуту ціхую,
Люструе боль — рука.

Здзічэла выспа шчэціцца.
І кут бацькоўскі зглух.
Ды ў фарбах не расшчэпіцца,
Не счэзне продкаў дух.

## ВАЛЯНЦІНУ БАРАНАВУ

Цягучая атрутная нямая
У школьных сценах стыне цішыня.
Ні памяці, ні голасу не мае
Зіхотны водбліск восеньскага дня.

Бы страчаныя ў беззваротным часе,
Прыніклі цені нашыя да сцен.
Стаім прымоўкла ў апусцелым класе,
Дзе толькі смерці несыходны тлен.

Над прорваю жахотнага сутоння
Уздрыгне сэрца зболена не раз.
У родны клас прынеслі мы сягоння
На ўсе пытанні фізікі адказ.

Наш супакой узрушлівы, сцярожкі
Цікуе смерць, яе драпежны зрок.
І чорны колер грыфельнае дошкі
Ўпіваецца ў душу, як чорны змрок.

І як нясходнай вусцішы адплату,
Чакаючы жаданага званка,
На гэтым полі смерці
ставіць дату
Вільготна-прэлай крэйдаю рука.

## ВАРАЦЕЦКІЯ КОНІ

Іх ранак выведзе са стайні
На шлях маркотлівы, пусты.
І лёт парывісты, адчайны —
Б'юць вусціш зоны капыты.

І спеўна вецер свішча ў скроні,
І вершнік тузае аброць.
Па травах дзікіх мчацца коні
Бядзе і смерці насупроць.

Дзе промняў ядзерных красанне,
Дзе згубы чорнае віхор,—
Парыўна вольнае іржанне
Асыпле сціхласці прастор.

І бачу ўцешна з-пад далоні:
У бліках помнага святла
Маленства страчанага коні
Віхурна скачуць да сяла.

## ВАРТАЎНІК

Стары Васкевіч сад сцярог,
Мчаў верхам на кані.
Даўно не б'е тут тупат ног
Маркоту цішыні.

Калішні дзедаў клопат знік,
Не ўчуеш строкат пят.
І я — апошні вартаўнік
Забытых Богам хат.

На крушнях лёсу сцерагу
Жывое іх жыццё.
Іду, каўтаючы тугу,
Пад ветраў злых выццё.

Адкрыта сэрцу даль сяла,
Не здасца мне пустой:
Вось хата — Стройная жыла,
Вунь — прызба Залатой.

А ў гэтым сонечным акне
Успыхне промень-мак.
Як светла: тут адкрыўся мне
Кахання першы смак.

Жыццё, забытае, ідзе,
Ўсяліўшыся ў мяне.
Прывычным гоманам гудзе,
Ў любым гарыць акне.

Прымну здзічэлую траву —
І зноў да шкла прынік.
Я гэтых хат, дакуль жыву,
Нясходны вартаўнік.

Ды мне смяецца смерць у твар:
— Што ўкрасці можна тут?!
— А гэты кінуты буквар,
Далёкі ад пакут.

А гэты смех, што мне чуцён,
А сэрца мерны стук...

Аблогай даўніх шчасных дзён
Бяжыць услед хлапчук.

Дапіўшы горкую тугу —
Настой атрутных траў,—
Яго, малога, ўберагу,
Каб ліха не зазнаў.

## ВЕЧНЫ СКАРБНІК

*Светлай памяці*
*Аляксандра Максімавіча*
*Зелянкоўскага*

У хаце, каўтаючы соль слязы,
Памяць сцены сагрэе.
Смерці расстайна рыпяць палазы.
У шыбіны б'ецца завея.

Толькі ў нямоце скрутных гадзін
Сутнасці значыцца вектар:
З рэчамі ў хаце адзін на адзін
Скарбнік — музейны дырэктар.

Знакі прасветлай жывой даўніны
З немасцю скутай зоны
Вывезе дбайнік сівы — чыгуны,
Ступы, начоўкі, іконы...

Тут, пад вільготным магільным тхлом,
Звычнага побыту рэчы
Дыхаюць жарка нязбытым цяплом,
Клопатам чалавечым.

Колькі прайшлося варожых зграй,
Больш, як калоў у тыне.
Ды ўпершыню прадзедаў край
Вечнай пустэчай стыне.

Журыцца, плача голас завей
Над чалавечым следам.
Сёння зямля ўся — адзіны музей
Нашых трагедый і бедаў.

Сам ён вяртаўся з поля вайны
У сцены бацькоўскай хаты...
Куфры, услоны, сталы, чыгуны —
Новай бяды экспанаты.

Кажуць яны, паланёныя мглой,
Ў ядзернай крутаверці:
Сталася хата твая нежылой,
Адваяваная ў смерці.

Ў далечах часу — бы Калізей
Ў тысячагоддзяў тумане —
Хойніцкі краязнаўчы музей
Сведкам трагедыі ўстане.

Суха каўтнуўшы шчымотны боль,
Там, на славянскім вечы,
Скажуць пра нас за тамы ўсе больш
Звычныя хаты рэчы.

Смутна сціраюць слязу рукавы.
Ў вёсцы, што стала пустыняй,
Горка схіляецца скарбнік сівы
Па-над матулінай скрыняй.

## ГАВОРКА ХАТ

Ноч патыхне смольнай сасной —
Хвойнік пабліз расахаты.
Ў мёртвым сутонні адна з адной
Перамаўляюцца хаты.

Хата, ў якой жыў старшыня,
Важна даводзіць басам:
— Вот умарылася ў клопатах дня,
Праўлю адна калгасам!

Так ва ўсе шкліны акон глядзі:
Кінута столькі хламу.
Божы наказ — не украдзі! —
Сёння надзённы самы.

Ведаюць: тут, як на тых кладах,
Гібельна для чалавека —
То абдзяруць цынкавы дах,
То — у камбайна шнэка...

Ёй дадае грамавіта ў тон
Гэтак услужліва, шчыра,
Свецячы месячным бляскам акон,
Хаціна брыгадзіра:

— Ходзіць зладзейкай усцяж цішыня!
Хоць бы жывы агеньчык.
Больш не ідуць на мой двор каня
Бабы старыя кленчыць.

Вокны-вачніцы палын аплёў.
Вось і агледзь акругу!
Праўда, што несці цяпер з палёў?
Хіба з лазы папругу!

Голасна ноч будзіць здаля
(Гупае кожнае слова)
Хата калгаснага каваля:
— Праўда... Гуляк палова!

Збеглі, не адчыняюць дзвярэй,
Выстыў абцасаў цокат.

Клопату — ні свіней, ні курэй.
Толькі й падрыхнуць — клопат.

Колісь Ільвоўна, як замяце,
Ў хаце калее тыдні.
Сёння, дзе глянеш, быллё расце,
Скрозь гаспадараць злыдні.

Глянеш, як блісне наўсцяж зара,
Ззяеце ў сонца срэбры.
Молат хапіць бы гаспадара,
Вашы патрэсці рэбры!

— Бачыце, ўздумала! О-го-го-го! —
Дзверы рыпуча гундосяць.
То заздавала суседа майго
Хата, цеслі Антося.

— Кажаце — душу на часткі рвяце!
Годзе нудоты-звягі!
Чуеце, сад як усмак цвіце,
Хутка намуцім брагі.

Выкачу бочку на двор з сянец,
Тут нам і ўся спадзеўка.
Знаю, навернецца бабчынец,
Можа, Дубак ці Леўка.

Ды абазвалася ў цемры скразной
На скразняку сіпата
Хата, дзе голас дзіцячы мой,
Родная, матчына хата:

— Думала, сына праводзячы ў свет,
Лічачы ростані леты,
Вернецца ён, імяніты паэт,
Побач — другія паэты.

Сядзе сябрына вясёла за стол
Тут, на бацькоўскай лаве.
Тое жыццё, што буяла вакол,
Будзе ў красе і ў славе.

Ды прычакала інакшы зварот,
Гэткі адрозны ад мары.
Тут, дзе няма ні платоў, ні варот,
З гулам прыстаў «Ікарус».

Па непралазным густым бадыллі
Ў дзень, летнім сонцам грэты,
Зонай прайшоўшы, да ганка прыйшлі
Стомленыя паэты.

Бачыла вочы — агеньчык гас,
Сэрца пакуты крамсалі.
Дзе яны сёння? І што пра нас
Ў вершах сваіх напісалі?..

Слухалі моўчкі слова яе,
Сцішана, як вінавата.
Раптам у ноч галасок падае
З новае вуліцы хата:

— Колькі маўчала я скрутных год,
Чуючы вашы «агіткі»,
Несла ў нясходных пакутах лёд
Знанай мне толькі жыткі.

Маем убраная, ў той вясне
Хмельных чакала ўлазін,
Ды адвярнуліся ўсе ад мяне.
Кожны няўвагай абразіў.

Дні гаспадар фарбай паіў.
Ранкам вярнуўся — шэры.
Чула, рыпелі — з тугой зачыніў
Ён назаўсёды дзверы.

Чула начамі сірэн выццё,
Фары, як бліскавіцы.
Так ні разок не ступіла жыццё —
Цок! — на мае палавіцы.

Так ні разочку ў сценах маіх,
Дзе непрытульна, гола,
Не прагучаў, ўсчараваўшы слых,
Ценькі дзіцячы голас.

Так і зрабілася ўміг нічыёй,
Дыхаю жаркім болем.
Лямпачка ззяла пад столлю маёй
Пару разоў, не болей.

Пабудаваная з клопатам — жыць...
Ў ядзернай крутаверці
Ў сценах шалее маіх, дрыжыць
Хіжая постаць смерці.

Чую падчас, як зайздросціце мне:
Пава! Блішчыць, як цацка!
Сэрца збалелае гойстра кальне
Кліч той, адпушчаны хвацка.

Памяці поўныя светлай, вы
Чуць не жадалі ніколі,
Што як бязрукія рукавы
Ночы маёй нядолі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Хаты маўчалі. Анічыя
Болей не гаварыла.
Дыхала важка між іх мая.
Білася ноч бяскрыла.

І старшынёва — на месячны бляск
Кідала позірк коса,
І не тачыла вясёлых ляс
Шумная хата Антося.

Сонна гарбела ў траве каваля
Знаная ўсімі задзіра,
Ніякавела сярод бадылля
Хаціна брыгадзіра.

Дыхала сыра магільнае тхло.
Смутна міргалі зоркі.
Хаты маўчалі. Бы й не было
Чутае мной гаворкі.



# ЖЫЦЦЯ ПАВЕЎ

*Цыкл вершаў*

* * *

На вуліцы маёй
Гарчысты дух нябыту.
Быллём ды крапівой
Душа яе забіта.

І толькі небны шмат
Зайздросліва сінее,
Ды ў жоўты лістапад
Мяце лісцё завея.

На вуліцы маёй,
Схаваныя ў хаціны,
Жывуць пары былой
Шчымоціны-ўспаміны.

Дзе толькі ні ступлю —
Зазвоняць галасамі.
Стаўляюць на зямлю
Сталы пад абрусамі.

Гарачаю бруёй
Цякуць праз сэрца ўсцешна.
На вуліцы маёй
Іх кроку толькі й спешна.

І промень па касой
Злятае з небнай шэры.
І што ідзе з касой
Услед — душа не верыць.

* * *

Блішчэў агніска ў мораку вячорка,
І ценькая міргатлівая зорка
Глядзелася з нябёс. Дзявочы хор
Вёў песню пачуццёва-казытліва.
І запазна ў вышэчы зыркіх зор
Яна лунала стоена-шчасліва.

Мой Бабчын жыў...
І розгалас вясны
Вярэдзіў сэрца прагаю кахання.
Ды хваляй радыяцыі світанне
Праціяла недаснёныя тут сны,
Павёўшы люд пуцінаю выгнання.

І ўжо тужлівай песні адгалосак
Даносіць памяць мне з нябыту вёсак,
Падобны зараз ён на плач хаўтурны.
І Радаўніца — горычная з дзей —
Вядзе штогод на могілкі людзей,
Каб памянуць жыцця павеў віхурны.

* * *

Як раскашуе паўсюд лебяда!
Жнейкай астатняю ходзіць бяда.
Слёзныя вочы — смутак і страх.
Гулка жыццё адгуло па дварах.
Ранак не збудзіць моташны сон.
Знаю: ніколі не скончыцца ён.

Колісь пад крыллем агністым зары
Вірам жыццёвым кіпелі двары,
Чуў я ў хвіліну сустрэчы не раз:
Звычны над вуліцай нёсся галас.
Вёскай сваёй ідучы, пазіраў
На панадворкі ў загрыўках траў.

Там, дзе пад ношай гадоў удава
Гасла ў жыцці,— уставала трава.
Чэпка-высока ўздымаўся палын —
Горкага лёсу яе напамін.
Сэрца гаркотную праўду піло:
Рушыцца, чэзне, буцвее жытло.

Вочы макрэчай стуманіць журба.
Толькі ў шматтраўі вятроў варажба
Шэпча пра тую, што полем жыцця
Горна прайшлася. І ўсплёск пачуцця
Цёпла сагрэе згубніцу сцен,
Памяці гойнай зачэрпне ўзамен.

Тут, між чырвоных, гарчыстых рабін,
Колькі жыло Агрыпін, Васілін,
Вар і Адарак, Сцеп і Агат...
Зараз ашэрхлыя сцены іх хат
Кажуць астачай прысутнаю мне:
Цэзію пошасць сатрэ-заглыне.

* * *

Тут, на зямлі,
не пад хмурынай злавечай,
Знатна жылі
доляй сваёй чалавечай.
Ставілі хаты —
воку чужому зайздросна.
Хто вінаваты? —
лёс праграмеў высакосна.
Хаты згарнулі пажыткі,
рушылі ўсе у выгнанне.
Скрыні, сярмягі і світкі
ўчулі з жыццём развітанне.
Ранак праменлівым сонцам
высвеціў хатнія рэчы.
Цэзій, плутоній і стронцый
выслалі шлях чалавечы.
Бабка сядзела ў машыне,
бабка слязу выцірала.
Як і належыць жанчыне,
поле жыцця азірала.
Згледзела ўсё наваколле,
што на зямлі не дажыта.
Бабку палошыла доля,
як недажатае жыта.
Дзе яна, дзе,
бабка, макуліна ў свеце?
Толькі гудзе
згубай атручаны вецер.

* * *

Хата стаяла на вулцы апошняй.
Хмурыўся хвойнік за рыжаю пожняй.
Босая бабка ступала па сцежцы,
Сонца маршчынкамі грала ва ўсмешцы.
Бабка, як помню, мяне пытае:
— Хто гэта дрэвы ў голас вітае?
Тут, між хваін, дзе масляты ды рыжыкі,
Першыя сцежкі
І першыя дрыжыкі.

Мне толькі шэсць...
І воўчыя вочы
З-за кожнага дрэва, здаецца, сочаць.
Творана-смела між сосен іду.
Дрэвы мяне не дадуць у бяду!
І трэба ж — тое старая пачула!
— Як ты да дрэваў кажаш прачула!
Ды не палошся — смела бяжы.
Час прамінецца — тое ж кажы!

І разагнула старая спіну:
— Час недалёкі — свет Божы пакіну.
Толькі і там, дзе зямля святая,
Ведаць от буду — хтось дрэвы вітае.

Смутна ступаю ранню спалошнай
Тут, дзе калісьці
Ля хаты апошняй
Бабку сівенькую перастрэў.
Шчыльна пасталі чароды дрэў.
Густа сядзяць тут масляты ды рыжыкі.
Крокі па ядзерным лесе —
Дрыжыкі...

Як і ў маленстве, жахоты вочы
За мною з-за кожнага дрэва сочаць.
А я — безбаязна імшэўем іду:
Сосны мяне не дадуць у бяду!

Хай бы і сёння бабка пачула,
Як гавару я да дрэваў прачула,
Як выціраю слязіны соль,
Як заціскаю трывуча боль,
Помнячы даўнія леты і вёсны...
Сосны, працятыя цэзіем сосны!

## АДАРКА

Упрэла дыхае вясной,
Красае сонца промні жарка.
Таемна сцежкаю лясной
Ступае з кошыкам Адарка.

І бор дрымотны — Шохаў Мох —
Шумотна-страшка роніць згукі.
І блізка, каля босых ног,
Віюцца-поўзаюць гадзюкі.

І вось сцярожліва рука
Хапіла гадзіну за горла.
І скуры бліскае луска —
Старая стоена замёрла.

Кладзе гадзюку спрытна ў збан,
Той збан анучай затыкае,
Над сон-травой нямых палян
Шалёнай радасцю гукае.

Сяло цураецца яе,
Услед кідаючы: — Вядзьмарка!
Гадзюку ноччу дастае
Пры свечцы ўпотайкі Адарка.

І ў хліпка стоеным святле
Узгарачэла шэпча словы.
Ад варажбы той на сяле
Удоў, гавораць, больш паловы.

Хто знае — так яно ці не?
Гадамі глум людскі віруе.
І кожны ўгневана кляне
Усяк нягодніцу старую.

Падлеткаў гурт пасля кіно,
Пужаны з дзён малых гадзюкай,
Знарок у цьмянае акно
Свавольна меціць камянюкай.

Яна не сварыцца ні з кім,
Фанерай шыбку заштукуе.

Між спёкі летаў, сцюжаў зім
Глухой самотніцай вякуе.

І помніць толькі быль адну,
Што жахам гоніцца ад малі.
Усе забылі: у вайну
На ўскраі рва ў яе стралялі.

* * *

Выгарала ў печы. Жар ірдзісты
У пячурку выграбены. Под,
Змецены крылом гусіным, чысты,
Жаркім духам дыша ў рыжы звод.

Хлеб садзіцца на аер падвялы,
І бабуля, водзячы рукой,
Зычачы, каб выпек быў удалы,
Крыж кладзе на боханы мукой.

Засланка зачынена. Мне строга
Сказана: «Дзвярмі не ляскаў кеб!»
Чута кожным тая асцярога:
Ўчыніш грук — на подзе сядзе хлеб.

І пакой завабна свежым духам
Заплывае ў наступе гадзін.
Быццам выклік белым завірухам,
Калыхнуцца кветчыны гардзін.

Вось урэшце засланка адкрыта —
З паднябення жаркі ўзвеў ідзе,
І бабуля чынна, самавіта
Бохан першы на ручнік кладзе.

Под, як лёд, падаўна ў хаце роднай.
Тупат-клопат незваротна зглух.
Быць душы на памяць не галоднай:
Прыгадаю — чую хлебны дух.

# ІЛЬВОЎНА

Хадзіла па вулцы Ільвоўна,
Казала: — А мне ўсё роўна,
Памру дык памру.
Нічога не забяру!
Старой налівалі чарку —
У хату вялі.
Уславіць Ільвоўна
Гаспадара і гаспадарку,
Заблішчаць вочы,
Як вугалі.
І важкая ноша год
На хвілю з плеч упадзе.
Скрухі растане лёд,
Хмель даўнюю песню вядзе.

Полем забытых сноў
Крочыць Ільвоўна зноў.
Вуліца ўсцяж пустая.
— Ці ёсцека хто? — пытае.
У руках — кіі-павадыры.
На плячах — хустка зары.
Больш не гаворыць Ільвоўна
Свайго: — А мне — усё роўна!
Важка, стамлёна ўздыхае:
— Што дзеецца? Вёска — пустая!
Яшчэ ў дачарнобыльскі год
Горка аплакалі Львоўны сыход.

Кажа старая: — Не ўсё роўна мне,
Што вёска ўся, як і я, ў труне,
Што селішчы мёртва быллём параслі,
Што людзі услед за мною пайшлі,
Што болей і болей сырых магіл
Там, скуль іду я
З астатніх сіл...

* * *

Стары забыты калаўрот
Бяда з хацінай не разлучыць.
Хмурыны кужаль — з году ў год
Выгнанне нітку болю сучыць.

Саткана з кужалю туга
Сівой збалелай гаспадыні,
Што крочыць зноў па мурагах
Да хаты ў ядзернай пустыні.

Прастуе з горада адна,
І што ні дзень — ісці ахвота.
І ўсё шчыруе дацямна
За вёрткім колам калаўрота.

Стаіць падоўгу ля варот,
Чакае з кузні сына Колю...

Забыты ў хаце калаўрот.
Сучыцца колькі
Нітцы болю?!

* * *

Дыханнем гарачым асмужна спаліўшы паўсвету,
На вуліцы вёскі няўтульна ўмалотнаму лету,
Зірнула здзіўлёна вачамі, заплыўшымі потам:
Ўтравелая зона хіснулася спудна за дротам.
І шэптам сухотным у мёртвае, згаслае ранне
Півоні ля хаты ўранілі мальбу-пакаянне:
— Нам горка сядзець тут, у спаленай
сонцам пустэчы,
Дзе зглух і забыўся натруджаны крок чалавечы,
Дзе ветры галосяць і толькі шасцяць пад нагамі
Калюча і шорстка адны палыны з быльнягамі,
Дзе вока не ўцешыць праменісты колер саломы,
І толькі аблокі, як віцязяў даўніх шаломы,
Плывуць над зямлёю няўтрымна,
забыта, высока,
І шэпча услед ім, паклаўшыся ніцма, асока.
Як горка і смутна глядзець на пустое ваколле,
Дзе юнае жыта не ўстане пад небам ніколі...

І лета заплакала жаркае гучна, стазвонна,
І крапнулі слёзы з бясхмарнага неба над зонай.



Слыхам упіваюся ў цішыню:
Звонам пчаліным
Падзынквае атрутны абсяг,
І зум гэты сучыць
Кволую нітку надзеі:
Мо заўтра, не чуючы ўздрыгу,
Пацягнуцца смелыя пальцы
Да кветак, да каласоў, да лістоты,
Прыгаршчамі зачэрпнуць вады
І змыюць атрутны пясок,
Выцершы твар
Ручніком ветру.
Аседласцю звычнаю ўсцішыцца сэрца
Тут, на павернутай у безбаязнасць
Зямлі...

Шчыруй, лятуха-пчала!
Астатняя працаўніца жыцця
На полі смерці.
Я мёд твой падношу жывы
І смелымі вуснамі
Смак яго чую,
Шчымотна верачы,
Што гэта не казачны зман —
Чыстае на нячыстым!
Ён, церпкі, гаркавы,
Замешаны на травяным бунце,
Як з першабытнасці даўняй,
Прыспешвае ўзлёт прадчування:
Ёсць той жывы хабаток,
Што Жыццё адмяжуе ад смерці!

Распадзецца ў атрутным ваколлі
Пражэрлівае сяйво уранавых прамянёў,
І застануцца над зямлёй зболенай
Адны ўсяго прамяні Сонца
І радыеактыўных зорак,
Ад якіх галава чалавецтва
Прыкрыта азонавай шапкай...

* * *

Поўня небнаю пустатой
(Боязна дол азіраць атрутны)
Дзейсніць свой звычны шлях пакутна,
Ступае бязмежжам —
Вярста за вярстой.

Вось яна кінула ценькі бляск
На мёртвы бальшак.
І пачуўся ляск,
Колаў рыпенне, спешлівы крок.
І варухнуўся мёртвы пясок.

Шлях чалавечы! Чуў, як па ім,
Сёння нябачнае анікім,
Мкнула Жыццё памяццю дня.
Стратна, далёка, жывое, ішло.
Смужна аблогаў піла цішыня
Жоўтую жоўць —
Поўні святло...



Я, скрушны, пад небам пагаслым стаяў
І хмураму небу душою казаў:
— Высокае неба, за што і калі
Багі ўсе твае адвярнуцца маглі
Ад гэтай драпежна пагаслай красы,
Дзе светла буяла ў былыя часы
Жыццё, у аздобе мазолістых рук,
Дзе рытмаў жывых не змаўкаў пераг‍рук?

О, колькі прыгадак за мёртвасцю той
Мне вецер нашэпча на ніве пустой!
Душа, да драбніцы малой не аддай
Пагаслага шчасця
Зняверaны рай.
Усё да кропліны малой зберажы,
Каб некалі нават
На чорным крыжы,
Пад небам узнёсшы,
Ты светла магла
Да блёсткі вярнуць,
Што ў жыцця узяла.



Наводдалек аседла ціхіх хат
Травяны выган гуў ад босых пят —
Той козыт цёплы не астыў з гадамі.
У памяці — шырокі далягляд:
Нахлёст вясны — цвіце Раманаў сад.
І яблыні квяцістыя радамі
Пасталі, як цыганскія шатры.
Скрып жураўля. І поўных два вядры.

Даўно абселі выган дзікаросы,
А позірк мой — хлапчук-гарэзнік босы —
Бяжыць удалеч паўзабытых дзён,
І хмеліць сэрца чутаю патоляй,
І знаць, свавольнік, не жадае ён,
Што я стаю пад іншаю таполяй,
Дзе чорны жах
І ядзерны палон.



Некалі ў часавых далячынях
Раскапаюць і гэты курган,
І пасярод былога радыеактыўнага хламу
Трапяцца рэшткі збуцвелых сцен
І Васілінчынай хаты.
Старая ці не апошняй на вёсцы
Памерла ў перадчарнобыльскі дзень.
Яе пустая халупа
Запала саламянай страхой —
Дзівакаватай астачай
Сарамяжнае долі.
І калі падчас дэзактывацыі
Мылі хаты,
За непатрэбай
Звезлі на ядзерны могільнік
Струхлелыя рэшткі.
(Салома, казалі, найболей набралася цэзію!)
Вучоныя-археолагі
Задаўга будуць штукаваць над знаходкай,
Спрачацца, даказваць,
Што вуглы сцен рубілі у Бабчыне
У ластаўчын хвост...



# САНЕТЫ ЧАРНОБЫЛЯ

1

Сцяжыны лёсу пазаплёў палын,
Бальшак Жыцця жарства наўсцяж укрыла.
І восенню пустэльнаю паныла
Шугае ў небе жураўліны клін.

І толькі мой балесны прыпамін
Імкне на ўлонне шчасця легкакрыла —
Там памяць дні калішнія ўзвіхрыла,
Пунсова рдзее гронамі калін.

Мне зноўку час адкрыўся беззваротны —
І адступіўся травастой смяротны,
Вяскоўцы звычна крочылі сцягой.

Быў іхні дзень. Быў іхні рух мне бачны.
Жыцця галасам упіваўся Бабчын.
І не было рэальнасці другой.

2

Ступаю ў лес — падсушаным сіўцом
Хрусціць дарога спудна і сіроча.
Хваін сцяна, як тая патароча,
Гарбаціцца за бліжнім азярцом.

Цячэ рака Жыцця. Яе плыўцом
Душа пачуць сябе ніяк не хоча,

Бо ветру ўзвей пагрозліва шапоча,
Нібыта Божы свет — перад канцом.

І шнарыць смерць па выселеных хатах.
Насенне зла схавана ў чорных спратах,
Чакае зноў сусветнага сяйва.

Рыпіць напята лёсу калымага.
Глядзіць сляпое вока саркафага
Удалеч з-пад графітнага брыва.

3

Клады кусты акацый аплялі,
Крыжы збуцвелі, мытыя дажджамі.
Маланкі, паласуючы крыжамі,
Жагнаюць шыры мёртвае зямлі.

Нямыя зоркі, нібы вугалі,
Раздзьмутыя сусветнымі вятрамі,
Падкажуць: ты — удзельнік вечнай драмы
З дакладнай назваю «Жылі-былі...».

Спадае неба ядзернай шугой,
Даводзячы: няма зямлі другой,
Жыць гэтай у душы тваёй да скону.

Ступаючы зыбучаю жарствой,
Ты ў згоды знак ківаеш галавой,
Дыханнем грэеш выстылую зону.

4

Амшэлыя дрыгвянішчы балот
Пачылі ў часе. Сцішаныя клеткі,
Каналамі пасечаныя, сведкі
Тых дзён, калі рыкасты свой паход

Вяло на броснаю камарыных вод
Апустошэнне. Дуб, астатнік рэдкі,
Шацёр ускіне ўдалечы. Дым едкі
Паўзе з лаўжоў падальш за ржавы дрот.

Сканала Гала. Ядзерным засевам
Над кветкай кожнай і над кожным дрэвам
Прайшоў жахотна-помны красавік.

Глядзяцца ў неба з адзічэлых клетак
Тугой расстайнай вочы жоўтых кветак —
Абула смерць венерын чаравік.

5

Лісіны груд сінее сон-травой,
Не калыхнецца радасным галасам
Абсяг вясновы. Змораная часам,
Глухая ціш агусла ў шатах хвой.

І толькі неба барвай агнявой
Заход пазначыць. Зоркавым папасам
Пакрочыць месяц — сполашным грымасам
Не будзе ліку над зямлёй сівой.

Жахнуцца ўладзе смерці. Тут яна
Крыніцы першатруціла да дна
І, ўсцешная, касу нясе высока.

І толькі гляне ранак агнявы:
Засіненае вочка сон-травы
Зірне няўцям — вясны жывое вока.

6

Бруіцца Прыпяць у жвірах праменных,
Між ніцых лоз жывы крышталь святла.
Забыты ўзмах рыбацкага вясла.
Самоціцца чырвоны бакен лены.

Віхурай смерці носяцца рэнтгены,
Бяда гняздо на шмат вякоў звіла,
І водны плёс — сама пуціна зла,
Якой Харон плыве праз час нятленны.

Ён гоніць човен сінім шляхам водным
Пад небам абыякавым, халодным,
Ускінуўшы сівую галаву,

Здавён заняты промыслам выгодным,
А я, душу суцішыўшы, заву
Абсягі пекла й сёння краем родным.

7

Зямля мая забылася пра жыта.
Не пружыстая хваля збажыны
Гадзінай шараю калыша сны —
Ў палын-гарчак туга яе павіта.

Вядзе Зямлю высокая арбіта.
У раструбе касмічнай гаманы
Хто ўчуе нас? Ў сусвеце мы — адны.
Ўчынілі змоўчна зло і — шыта-крыта.

Глядзіць мірганнем зор сусвет халодны,
Бы ведае: наступіць час бясплодны
І згіне жыццядайная Зямля,

На промнях радыяцыі бязвінна
Згібее, як самотная жанчына,
Што нарадзіць не здатна немаўля.

5а Зак. 3938



* * *

Рачное стромы залаты пясок,
Успудзіць плёс хвастом пражэрны жэрах.
Крынічнае рачулкі галасок.
Старая ліпа, выйшаўшы на бераг,
Здзіўлёная, глядзіць ва ўсе бакі,
Нібы падслухаць, сцішаная, хоча,
Аб чым на гальцы вымытай булькоча
Напорыста-жывая плынь ракі.

Падданнік дня, дзе мудры супакой,
Абпоены лісця вільготным пахам,
Блукаю ўсцяж над плыткаю ракой
І лік гадам вяду з прыдыхам-страхам:
За мной юнацтва звонкае наўпрост
Ступае, захмялелае, па травах.
І там, у далі год, на пераправах,
Яно ладуе залачоны мост.

Сінечу коціш, Вілія мая.
Трапёткая, як Божае дыханне,
Журчыстая, лагодная бруя.
І раніцы заспанае зяханне
Ледзь чутна абзавецца вецярком,
І волкі дух травы напоіць вышу.
Займеўшы ў жорсткім свеце шчасця нішу,
Ступаю роснай раніцы слядком.

* * *

Буркоча голуб у застрэшку школы,
Кахання прагай дразнячы душу.
І потайна — чырвоны ад «крамолы» —
Табе запіску ўмольную пішу.

І сеючы спакусныя жаданні,
Гушкаецца духмяная вясна.
І што было ў свавольным тым пасланні? —
Ды пэўна ўжо: ты гэткая адна!

Гадоў мінулі вырai-чароды,
Прашалясцелі, як старонкі кніг.
І сёння кроплю чутай асалоды
Мне дорыць светла прыгаданы міг.

На твары юным помную мне рыску
Не сцёр павевам халаджавым час.
І кожны раз на школьную запіску
Вясна мне шле хвалюючы адказ.

* * *

Да школы пыльных тры вярсты.
Душа ссамочана ўздыхала,
Калі дахаты напрасты
Партфелік сіні несла Ала.

Ішла Пажаркамі ля верб,
Знікала з воч за ўзгоркам дзесьці.
Не раз тачыў мне сэрца сверб
Жаданнем — твой партфель паднесці.

Услед гляджу праз часу шкло:
Ідзеш, сукеначка ў гарошкі.
Партфель, як сіняе крыло,
Над жоўтай пасакаю дарожкі.

Свет белы — верасня купель,
Наш смех пад крыллем галубіным.
Ступаю ўслед. Нясу партфель.
І горкнуць памяці рабіны.

* * *

Шчымотна музыка плыла.
Я смяг ад горкай адзіноты.
Мне ўспышкі помнага святла
Дарылі ўзрушлівыя ноты.

І сум гарчэў, гукаў здалёк
Цябе, каму чужым я стаўся.
Я ў сховы прошласці вяртаўся.
І раптам —
лёткі матылёк —
З панура чорнай глухаты
На промнях ценькага світання
З паўзабыцця ўваскрэсла ты,
Маё адзінае каханне.

І быў наш танец не зямны
У высях зорнае арбіты.
І панцыр суму ледзяны
Быў цеплынёй вачэй разбіты.

Сцінаў я лёткую руку,
Нібыта злоўленую мрою.
А ты ў жыцці
была чужою
У правінцыйным гарадку.

* * *

Мяне пакідала каханне,
Ішло-гасла,
Як позняе вечаровае сонца,
Абдаючы шчодрасцю прамянёў
На ўспамін...

І вечар быў цёплы,
Настоены на палынах,
Гарчэў,
Сцінаў адышкаю грудзі.

Я глядзеў сонцу ўслед —
Вогненна-барвянае,
Знікне вось-вось,

Блісне ў астатні раз
І ўжо,
Нябачнае мною,
Азорыць новыя далягляды...

Ночы і дні,
Злітыя ў месіва одуму,
Цякуча, стыгла плылі,
Глытаючы астатнія блёсткі
Спадзеву,
Што сонца павернецца,
Дыхне чутым палам.

Ды сонца — чорнае —
Пракочвалася нада мной,
Чужое, драпежнае,
Ледзяніла холадам кроў.

І я шаптаў,
Як шыбенік шэпча
У міг астатні:
«Бывай,
Маё сонца!»

І вось праз ростань —
Сустрэча!

Я глядзеў на Яе,
І вочы,
Блакітныя, ясныя,
Асляплялі святлом
Усю маю існасць.
Стаяла ў іх зрэнках
Несыходнае сонца!

Яна — чужою была,
У яе было сваё сонца,
І яна толькі
Падзялілася кропляй ягонай,
І здзівілася, мабыць,
Пазнаўшы:
Як жадобна піць могуць
Святло яе воч...

* * *

Багата вёсен адгуло,
Вады бруістае сплыло,
Ды не ўтравела тая сцежка,
Дзе несла цнотнае святло
Твая дзявочая усмешка.

Жывінкі воч, узлёт рукі.
Па левым беразе ракі
Табе ісці і сёння ў школу.
А ўслед — уздых мой трапяткі,
Маленне Божаму касцёлу.

Прашу цябе, высокі Бог,
Каб пад нябёсамі бярог
Каханай ранішнія крокі.
Я колькі год вачмі сцярог
Раўніва тут яе урокі.

* * *

*Ірыне*

Адкрасавалі мы ў жыцці,
Як каласы ў зялёным жыце.
І час наш блізіцца сысці,
Як сонцу, што было ў зеніце.

Не паўтарыцца на зямлі
Ні ззяблай кветкай, ні расою.
А мы ж удосталь ці змаглі
Жыцця нацешыцца красою?

Тугі павершаны стагі,
І дзень над жніўнікам — спякотны.
Ды вобраз твой мне дарагі
І з лікам год — шчэ больш пяшчотны.

* * *

*Г. М.*

Стамлёная ад злослівых інтрыг,
Прымаеш свет ранімаю душой.
Твой боль адно ў глумоце дзён спасціг:
Душы не быць ніколі за мяжой.

Нясеш жаночай долі вечны крыж
Падалей ад збанкечаных святліц,
Вандруючы ў купэ вагона між
Надзьмута прахалодлівых сталіц.

Туга ў душы нясходная жыве,
Прагоніш — павяртаецца наноў!
На кожным кроку чуецца ў Маскве,
Шчэ дойме больш, як Мінск гукне дамоў.

Дарогі лёт, калышучы ў паўсне,
Азорыцца слязінкай на шчацэ.
А супакой трывуча ахіне,
Калі ўсміхнецца ўнучка на руцэ.



Ты вярнулася з дарогі,
Леглі сетачкай маршчыны.
Крок аглядны, поўны змогі,
Лёсам стомленай жанчыны.

Азірну тужліва, з болем,
Пракаўтну адчай свой скрушны,
Бо вяла дарога долі
Цераз рытвіны і крушні.

З важкай ношаю прынукі
Дні і ночы паўставалі.
Разабралі крушні рукі
І слязьмі паабмывалі.

Заквятуе ў садзе вішня,
Памяць прагную расцвеліць.
Ты ў дарогу гэту выйшла,
Як яна, надзеўшы вэлюм.



Табой наўмысна выпушчаны з рук
Блакітны кубак шчасця і разбіты
Аб сходкі здрады чорнай, ледзь надпіты, —
Вянец маіх няўмольна жорсткіх мук.

Так, выстудзіўшы сіверам лясы,
Зіма сыходзіць здрадніцай употай.
Мінецца час, і лес шуміць лістотай,
Вясны лунаюць звонка галасы.

І сэрца трапятліва ажыло,
Сагрэтае вясны жывым дыханнем.
Узнесенае велічна каханнем,
Багата з кубка шчасця адпіло.

Мне вочы іншай, поўныя святла,
Як зоркі, свецяць ззяннем ідэала.
Мяне яна ў самоты адабрала
І райскім садам свету павяла.

## «ЛЕБЯДЗІНАЕ ВОЗЕРА»

Павее вечар траўным водарам,
Праблісне зорнаю луской —
Над лебядзіным мройным возерам
Хітнецца смуглы супакой.

Спадзе на плёсы ацішэлыя
Адбітак месяца — святлынь!
І лебедзі танцуюць белыя,
Калышучы начную стынь.

Дзявочы танец затуманіцца
На смутна сцішанай вадзе.
Іх чарадзейкай злою раніца
Ў аблічча птушак павядзе.

Тужыце, сэрцы набалелыя,
Пачуццяў жар, душу наструнь,
Каб лебедзі аднойчы белыя
Вачмі зірнулі прыгажунь.

* * *

Аб пачуцці высокім марачы,
Што ўзносіць пошугам дваіх,
Ці думаў я, што тут, на Нарачы,
Кульнуся ў вір вачэй тваіх?

Што нам адкрыецца гарачая
Ўзаемнасць — грэшнасці дзіця;
Што лёс бяскрылы перайначу я
Гарачым шалам пачуцця;

Што ў леце грэшным, мной спатканая
Ўсяго на некалькі гадзін,
Ты будзеш лепшаю названая
З усіх пазнаных мной жанчын.

* * *

Чабаровая паляна —
Меднакора блішчуць сосны.
Сколькі сэрцам прычакана
У світанак гэты росны!

Хмелем памяці юнацкай
Сэрца зноў зачаравана.
Нам з табою па семнаццаць.
Чабаровая паляна.

Шчэ не ўмелі цноты вусны
Ў пацалунку зліцца смела.
Шчэ падоўгу ў міг спакусны
Даланя ў далоні млела.

Я парою вечаровай
Тут прыстану ў задуменні.
На паляне чабаровай
Калыхне былое цені.

Салаўіныя рулады
І духмяных кветак водар.
Здань тваёй пякучай здрады
Шчэ між хвой ступае воддаль.

* * *

Здзічэлы сад на селішчы былым,
Аплецены парослай крапівой.
І летні вецер шустрыкам малым
Латошыць голле з радасцю жывой.

Празяб у росах ранішніх апад,
Услаўшы кругам глеўкаваты дол.
Старая зойдзе ў паўзабыты сад,
Збірае доўга яблыкі ў прыпол.

Чаму не харч свінчаці? — і мяшок
Ускіне тужна, з крэктам на плячо.
Спалошыць сонца ўпадзінамі шчок —
Калішняе суседскае дзяўчо.

Млеў цветам сад яе у юні дзён...
За яблыню зачэпіцца пагляд —
Як цалаваў пад веццем жарка ён.
Звяла вайна навек за далягляд!

Ідзе і бачыць думна ў яснаце,
Гаркоту яблык дробных несучы,
Што сад дасюль той звабліва цвіце
І кліча ў яву месячнай начы.

## СКАЧОК З ТРАМПЛІНА

Зімы узбітая падушка —
На ўзлеску горка.
Ляціш імкліва, быццам птушка,
У стынь вячорка.

Трамплін пружыніць пад нагамі —
У лёце лыжы.
І снег узносіцца кругамі,
Ад сонца — рыжы.

У міг высокага палёту
Ускрык адчаю
З хваін, закутых у дрымоту,
Снягі збівае.

І вось — ударам хлёсткім, коўзкім
Злавіў аснежжа,
Нясешся з рогатам чартоўскім,
Бель вочы рэжа.

І стыне, чутая у роце,
Як цукар, сліна.
А сэрца ўсё яшчэ ў палёце —
Скачок з трампліна!

* * *

У час, нашчадкамі забыты,
Угневаным чараўніком
Пад валуном быў клад зарыты —
Ляжыць пад каменным замком.

І час ад часу нехта зноўку
Капае, торкае рыдлёўку,
Чужым спакушаны дабром.
І выступае пот на твары,
І жвір-сыпчак свіціцца жары,
Бліз валуна расце бугром.

Ды аніяк не дакапацца.
Гавораць: клад пачаў хавацца
Аж пад падэшву валуна.
І як ні рэж сыпчак сырэчы,
Замала сілы чалавечай,
І не відаць капальні дна.

Валун прыціснуў клад сярдзіта,
А неба глыбіцца блакітам,
Ажно смяецца з дзівака,
Хто, горка ўзважыўшы рыдлёўку,
Пляцецца сцежкаю дамоўку,
Бяднейшы нат за жабрака.

Ягоны смутак звалунелы.
Наўскос сякуць маланак стрэлы,
Ды гупае-рагоча гром:
— Ляці наўпрост, не азірайся!
Ніколі болей не ганяйся,
Лайдача, за чужым дабром!

## ПАДАННЕ

У стоенцы лесу, пад пахай хваін
Хаціна — шарэчаю зданню.
Жыве тут сягоння мінулых часін
Нясходлівым ценем паданне.

Загляне праз шыбу ў пустое акно
Украдліва месяц рагаты.
І зоркаму небнаму воку відно,
Як двое прастуюць да хаты.

Прыходзіць дзяўчына. А з ёю — юнак.
З пуціны далёкай, няйначай.
Ступаюць да весніц старэчых няўзнак,
Палоннікі цемры мярцвячай.

І ў хаціне позна да ўспыху зары
Яны гаспадараць клапотна:
То блісне вада зухавата ў вядры,
То полымя ў печы зіхотна.

І морак азяблы, нібыта сугней,
Укрые іх полагам сонных.
На хутары гэтым яны, як раней,
Не стрэнуцца ў клопатах дзённых.

Іх юнае шчасце калісьці было
Забойцы нажом абарвана.
І волкае месяца льецца святло,
І шэранню далеч скавана.

## УСПАМІН

Дужасць налье маладую хаду,
Высцеле ў росах сцяжынку.
Спешна хаплю чамадан і сыду
Тут, на вясковым прыпынку.

Хваліста вецер абняў збажыну,
Цешуся даллю стракатай.
Сініх валошак нарву, павярну
Сцежкай за крайняю хатай.

Вось і Аколіцы стоены свет
Сцёблы варушыць аеру.
Топаль прыветнаківае мне ўслед.
Брамка... Матуліны дзверы...

## З НАРОДНАГА

«Хто каго чубіць,
Той таго любіць».
Ён жа, кахаючы,
Любую губіць.

Сноўдае ценем
Ноччу ля хаты,
Жджэ, як прысне
Муж глухаваты.

Выйдзе на ганак
Любая ўпотай,
Схованкай будзе
Верба ля плота.

Дробнае лісце,
Гнуткае голле.
Там яе хлопец
К сэрцу прыгорне.

Доўга мілуе,
Гучна цалуе.
Шэльма глухая
Цмоку не чус.

Шэльма старая
Ўздыхаў не чуе,
Шэльма сівая
Ў шыбу цікуе.

Высветліў ночку
Месячык поўны.
Бляск яго ясны,
Блік — рызыкоўны.

Бачыць глухота
Жонку праз шкліну:
«Строіш любошчы!» —
Сплёўвае сліну.

«Зладзілі, бачыш,
Дзе такавішча!»
Сціснулі пальцы
Ўміг тапарышча.

Тыя хаўтуры
Поўныя жалю:
Двое у трунах
Змоўкла ляжалі.

Ў вёсцы паведаць
Кожнаму рупіць:
«Хто чужых любіць,
Той дваіх губіць».

# МІЛКА

Эх, як сэрцу пелася
Ды любіць хацелася,
Як вады папіць.
Помніць жыта роснае,
Знае матка злосная,
З раніцы сіпіць:
— Шэльміна, скруцілася!
Лепш бы дзе ўтапілася,
Як сумленне спіць!

Хлопцы толькі зыркаюць,
Жарабцамі фыркаюць,
Шморгаюць за плот.
Пры сустрэчы з Мілкаю
Косяцца з ухмылкаю
На круты жывот.
Кожны, хто вітаецца,
Ў думках «чый?» пытаецца.
Дасць каму клапот?

## ЛЮБКА

Не ўтрымаеш Любку
ў хаце на замку.
Люба — хлопцаў згуба!
Сігане — ку-ку!
Крокаў пошчак беглы.
Хмельны пах травы...
Ў Любкі муж нягеглы,
і яшчэ — крывы.
Любку аж пад ранак,
быццам канакрад,
Прывядзе каханак
да дзвярэй праз сад.
Уздыхне нябога.
Ў ложак ледзяны
Ляжа ля крывога
тварам да сцяны.
— Дзе была, гулёна?!
Здох бы хахаль твой! —
Трусіцца шалёна
сыч крывы над ёй.
І пытае Любка
ў прыхватках святла:
— Дзе былі вы, вочы?
За каго пайшла!

* * *

Падкаціўся мухамор
Да лісічкі рыжай.
А яна: — Фі, ухажор!
З розуму, дзед, выжыў!

І стары ты, і нягож,
І душа атрутная.
Папрасімец, да таго ж
Я цяпер — валютная!



# ЭЛЕГІІ ГОДА

* * *

Сходзіла восень тысячы дарог,
Прытомленая, ўранку да сяла
З вязанкай жаўталісця дабрыла,
Засыпала агніста мой парог
Іскрынамі астатняга святла.

Прыснула толькі — і ужо за ёй
Брыдзе зіма з падушкай снегавой
І там, дзе жар лісця гарыць-палае,
Умораная спешнаю хадой,
Пасцель сваю бялютка засцілае,
Кладзецца спаць
Пад хмараў чарадой.

Ды промень зіхатлівы, асцярожны
Ужо накрапам першым з ледзяша
Пастукаўся у сон яе трывожны:
«Ідзі, зіма, празяблая душа!»

І чарнатой аголенага поля
Адкрылася раскута свету воля
Для дотыку пяшчотнага цяпла.
І вось — лісцвяна пругка загула
Жыцця зямнога
Юная сваволя.



Сакавік успарыў снег сумётны —
Гучнаграйна звоняць раўчукі.
У паднеб'і крыл размах шуготны —
Вырай цягне шэрыя шнуркі.

Юнь-вясна! Прывечаная граем,
Пазірае ў залаты ларнет.
І зіму да ніткі абірае,
Як жабрачку, гонячы за свет.



Туман-шарак, ахутаўшы нізіны,
На строму прагне ўзлезці — альпініст!
На плыні ў танцы кружацца ільдзіны,
Ды ветру ў соснах зухаваты свіст.

Грувасцяць лёд рачныя перакаты,
Скрыгоча гучна гойстры крыгалом.
І небны дах, дасветна шараваты,
Высокім наліваецца святлом.

Усё грамчэй вясновая стыхія —
Ёй гімн пяюць вільготныя вятры.
Пахмурыя, самотныя, глухія
Стаяць над лесам воблакі ўгары.

Ды ў гэты свет, крылата мнагазвонны,
Што ўсё бярэцца фарбамі зырчэй,
З-пад лапін хвой, нібыта хлопчык сонны,
Бяжыць з гарэзнай радасцю ручэй.

* * *

Бунтуе плынь напорам крыг,
Скрыгоча, рэжучы жвіры.
І весні дзень празяб, астыг.
Сіпата кашляюць вятры.

І лёд, падточаны вадой,
Плыве, становіцца дыбка.
Як дзед сівою барадой,
Бліскоча пенаю рака.

Ды плынь ураз праб'е затор,
Каўтнуўшы скрыгат ледзяны.
І ступіць ноч агнямі зор
На плёс аголены рачны.

І там, дзе гулкі крыгаход
Шугаў бунтоўна дзень-другі,
Над люстрам супакойных вод
Высока ўстануць берагі.

* * *

Залатазвоннае сонца ў гаі
Цепліць бярosту рыжай шчакой.
Звоняць узбудна вясны ручаі,
Ранячы лесу густы супакой.

Бела і светла ў акружжы бяроз,
Спеўна і свежа залётным вятрам.
Вось ён, узнесены ў высі нябёс,
Мудрай прыроды велічны храм.

Чуючы сэрца ўзрушлівы стук,
Хмельна ўдыхаеш водар лясны.
Зноўку смакуеш, быццам хлапчук,
Сок прахалодны з далоняў вясны.

* * *

Неўпрыкмет замурожыцца луг,
Разнатраўя духмяны букет.
Кінеш здзіўлена вокам наўкруг —
Прад табой сатвараецца свет!

Цёплы, ясны, прасветлены лік
Неадольнага ў моцы жыцця.
Сонцам з лужы зірне красавік,
Пасміхнецца няўцям, як дзіця.

* * *

Вясны дачка — чаромха расцвіла.
У фартушку бялюткім каля веснічак.
Вось-вось памкнецца вулкаю сяла,
Нібы калісь русявая равесніца.

Пакіне на гразоце белы след,
Завейліва цярушачы пялёсткамі.
І, сігануўшы ў неабдымны свет
З вачэй маіх, схаваецца за вёскаю.

* * *

Мінецца час, і неахвотна
Хтось холад люты памяне,
І жыць у памяці зіхотна
Стагоддзя новага вясне.

А я гляджу на кроны яблынь
У нітках зморлівых дажджу,
Шкадую цвет, што марна зябне,
І з ім — душу сваю студжу.

* * *

Лотаццю расквечаны ўзбалотак,
Прэлы дух угрэтае дрыгвы.
Чорны дрозд — успуджаны падлётак —
Б'е крылом па космінах травы.

У тарфянай жыжцы па калені
Пад нябёсаў чыстай яснатой
Ты застыў у цнотным захапленні
Прад раскошай казкі залатой.

І рука ламае хрумстка сцёблы —
Трубачкі, схаваныя ў вадзе.
І надзіва ясны ён і цёплы,
Гэты майскі стогалосы дзень.

Пругкім зумам да краёў наліты,
Ён царуе ўладна на зямлі.
Водзячы над кветкамі арбіты,
Носяцца бухматыя чмялі.

І душа імкне за імі ўгнацца,
Звабленая свету зіхатой.
І табе гарэзлівых трынаццаць
Там, у дзіўнай казцы залатой.

* * *

Я не скажу, што плынь жыцця да дна
Прамерана і ўся душой адкрыта.
Бунтуе сокам юная вясна —
І зноў душа
Сваё гадуе жыта...

* * *

Буйнаросы ружовы світанак,
Маем белым прытомлены сад.
Ноч сыходзіць у нетру з палянак
Пад раскат салаўіных рулад.

Дотык хмельна чаруючай цноты
Не панішчыць жыцця санцапёк.
І пачуе душа да шчымоты
Белень саду і белень аблок.

Днём над ліпаю пошчак шпачыны,
Зоркі ў кроне блішчаць па начах.
І ніводнай яшчэ парушыны
У адкрытых здзіўлёных вачах.

* * *

Урэшце з-за свету чужога —
Ґрукотна, імкліва — ў хвіліны
Вяртае дадому дарога.
Прыпаў да вагоннае шкліны.

Дасвецце слязінку злізала,
Якую таемна хаваеш.
І гулкаю хваляй вакзала
Ты ростань ушчэнт дабіваеш.

* * *

Дух зямлі, залевамі напоены,
Нарастае ззяблы і сыры.
На бярозах чорныя загоіны —
Кмеціны засечак на кары.

Круг жыцця прыродаю завершаны,
Нікне-гасне свету ґамана.
Між віхур шуготных толькі вершамі
Будзе грэцца да вясны вясна.

* * *

Адпрэчце супакой,
Пакіньце тлумны будзень.
Другой пары такой
У лёцце дзён не будзе.

Узрушней і шчырэй
З прыродай гаварыце.
І што ні крок — мудрэй
Дабро ў жыцці тварыце.

І будзе юнь-вясна
Святлынню нараджацца.
Паспеецца спаўна
Забыта наляжацца.

* * *

У бярэзніку пад бярозамі
Стань.
Дыша кветкамі свежаросымі
Рань.
Студзіць шчокі
Золку зябкая золь.
Толькі крокі
У суцішшы дрэў
Запаволь,
І, блукаючы, удыхаючы
Хмель,
Не адступішся, а падступішся
Ўраз
Да паляны той, залатой,
Дзе чмель
Ўсё вядзе пра мёд кожны год
Сказ.

* * *

У прэлі журавінных балацін
Умлелы чэрвень шоргае касой.
І сонца па-над дахамі хацін
Зіхае залачонаю красой.

І свет прапах падвялым духам траў,
Блішчыць узорнай вяззю аканіц.
Ды дзень духоту потную сагнаў,
Ураз счарнеў пад крыллем навальніц.

Вада нябёс! Па шыферы сячэ.
Залеваю сцякаючы са шклін,
Парыўны дождж, нібыта на шчацэ,
Пакіне след прыкметлівых маршчын.

* * *

Куды вядзеш, дарога-незнаёмка?
Загрывак жыта. Пошапак бяроз.
Камлі хваін узносяцца зрэдзь стромка.
На ўзбоччы чэрвень цягне свой пракос.

У бляску сонца стрэчнай вёскі дахі.
Барвяны ранак прагна п'е расу.
І два буслы ў дазоры — неба птахі —
Пільнуюць неабсяжную красу.

* * *

Самыя доўгія летнія дні,
Толькі ў прасторы ані цеплыні,
Сцюжліва дыхае вецер, лісцё,
Сцятае, курчыцца, жухне зарана.
Хмурых дажджоў несыходных ліццё
Шэрыя сцены мые старанна.

Гэты ў прыродзе прыкметны дэфект
Хтось назаве «парніковы эфект»,
Свету прарочачы сумную долю.
Толькі пакорліва ў скутай цішы
Чэзла астыць неспатольнай душы
Я не дазволю!

* * *

Грукацець нябёсам перунамі,
Хлёсткімі маланкамі сячы.
Зноў яны, пахмурыя, над намі
Скрыжавалі ярыя мячы.

Неба, спаласованага бляскам,
Паўстае імгненна шырыня.
Басавіты перуновы ляскат
Пудзіць наступ заўтрашняга дня.

* * *

Уліло дык уліло —
Спёка змыта начыста.
Прыазёрнае сяло
Пад залевы націскам
Гасне шэранню хацін
Сцята-мокрым золакам.
З прыазёрных балацін
Мкнуць туманы волакам.
Прутка шчэціцца трава,
Ад сумлеву лашчыцца.
З-пад пахмурага брыва
Глянуў сінькі лапічак.
Сонца блiснула — ідзе
Светлаграйна росамі.
Па лугах ступае дзень
Зноў нагамі босымі.

* * *

Вятры палошчуць пасмы белыя
Світальна чыстых аблачын
У хвалях вод. Яны, ўскіпелыя,
Палошаць берага спачын.

І гурт хваін, аб цішы марачы,
Устаў, успруціўшы сукі,
Цікуе, як на плёсе Нарачы
Буйкоў ныраюць паплаўкі.

А Нарач, пошугам абнятая
Загульна-ўзрушлівых вятроў,
Вячорніх зорак вачанятамі
Спалошна блісне між бароў.

* * *

Ад спекаты зрыжэла лісце ў кроне,
Хоць і сакоўны чэрвень на двары.
І раніцы вятрыстыя далоні
Зрываюць завязь з яблынь да пары.

Хвалююся, відаць, не першы ў свеце,
Абходзячы на золку прэлы сад:
Ці ж вось не так у звадах гаснуць дзеці,
Як гэты, голлем зрынуты, апад?

І тое скрозь — з найпершых дзён тварэння.
Няўмольна хіжы жорсткасці закон.
Як горка бачыць: не заўжды карэнне
Даспеліць завязь шумналістых крон.

* * *

Трускаўкамі багаты Трускавец
За небакрай адступіцца — бывай!
І я, пуціны ўтомнае плывец,
Праз міг-другі душой пачую рай.

Ён, звыкласцю пазначаны зямной,
Падступіцца, нязгасны, пакрысе:
Сінечай неба гляне ільняной,
І гладдзю азярыны люстраной,
І ластаўкай на матчынай страсе.

Там — шчасця чалавечага сады!
Вярбінаў свечкі. Росны паплавец.
Яны, павер, раўнівы Трускавец,
Стакроць гаючай мне тваёй вады!

* * *

Зялёныя шышкі хмелю,
Першы глыток гарчыны.
Чужому глядзець вяселлю
Вачамі тваёй жанчыны.

І я ад хмелю хмялею,
Памяці здрадзіць не ўмею...

* * *

Шэпча ранак: сатвары
Светлы гімн красе высокай.
Пошуг юнае зары
Травы блёсткамі абросіць.
Кажа мне: касу бяры,
Разбудзі пакошу крокам.
Што стаміўся да пары?
Іншы ступіць, травы скосіць!

* * *

Надрэзіна-падсочка на камлі,
І барада — застылая жывіца —
Бялее ў змроку, быццам увайшлі
У бор дзяды, бы ў храм святы, маліцца.

Світанак сонна дыхае між хвой,
Смакуе водар смаляны агуслы.
Ад воч схаваны ў нетры векавой,
Птушыны хор свае кранае гуслі.

Пагорак, зрыты лапамі лісы,
Блішчыць капцом разгорнутага жвіру.
Над ім заліўна крэпнуць галасы
Натхнёнага птушынага эфіру.

Ужо бліскоча сонца на кары,
Нібы на шлеме залачоным воя.
І мак таўкуць у промнях камары,
І церпка пахне ранішняя хвоя.

* * *

Спякота дня. Прытомленай хадой
Прастую да ляснога ручая.
У парослі віруе маладой
Вады зіхотна-чыстая бруя.

Спляценне драпкалістае ажын
На бакавінах топкіх. Па жвіры
Заломы пакручастыя сцяжын
Паўзуць, сцякаюць з кручыны-гары.

І птушка юркне спудна між ствалоў,
Пакіне спешна гучны лопат крыл.
Сюды спякотны дзень мяне прывёў,
Каб даравацъ з глытком вяртанне сіл.

* * *

Промнем абуджаны золак,
Сонца раскоса пагляне —
Зорачкі ліпкіх смолак
Выбліснуць на паляне.

Самі зыркатыя промні,
Носяцца, зумкаюць восы.
Ліпень, руплівец нястомны,
Сее каляныя росы.

Хвойнік мінаючы колкі,
Банцікі граюць ружова.
Смехам асыпаўшы смолкі,
Рве іх дачка леснікова.

Нос у вяснушках кірпаты,
Плечы палескай мадонны.
Мкнецца ў лясістыя шаты
Ўздых мой гнятліва-стаёны.

Сэрца лагодліва тае,
Коле раўнівым дакорам.
Кветкі прывабней. Ці тая?
Бегала ж мурзай учора!

* * *

На хвалі Нарачы з акна
Гляджу, вітаючы світанак.
Вада прасвечана да дна
Агністым росчыркам маланак.

Напятых сосен спудны гуд —
Пярун загнаў сваю карэту.
Здалося сэрцу: зараз тут
Ідзе само тварэнне свету.

* * *

За Браславам ёсць возера адно,
Дзе неглыбока-глейка легла дно.
Пад сонцам лапушыцца лісцем, млее
Ў акружжы белых стоеных бяроз.
Там адкрывае, пазірнуўшы ў плёс,
Жаўцінку вока сонная лілея.

І тысячы дзівосніц, як яна,
Прыкутых ножак жылкамі да дна,
Красой бялюткай свецяцца на сіні.
І не абняць паглядам — колькі іх!
Залётны ветрык прымарыўся, сціх,
Прытоены, плыве на аблачыне.

Чароўны танец беламройных фей!
У бліках сонца венчыкі лілей.
І толькі дзень заплюшчыць сонна вочы —
Закрыюцца. І гасіць водны плёс
Адно з непераўзыдзеных дзівос.
І ўздрыгнуць зоркі ў смуглай стыні ночы.

* * *

Тваіх акон таемнае святло.
І на фіранцы калыхнецца цень.
І ліпеня гарэністы сухмень
Ускіне над хацінаю крыло.

Гарыць краёчак шыбы залаты.
Як і ў юнацтве —
Блізка-блізка
Ты.

* * *

Ляжала возера лясное
У летняй ночы пад крылом —
Таемна цуда люстраное
Дрыжэла месячным святлом.

Галактык вогненным зіханнем
Міргала зырка выш нябёс.
А мы — баяліся дыханнем
Таемна-светлы зрушыць плёс.

Сачылі сцішаныя двое,
Як зорны грай на плёсе гас.
І ўсцешна возера лясное
Смяялася з наіўных нас.

* * *

Гарлачык белы на хвалі сіняй.
Начамі памяць мая не стыне.
Страсае светла бліщчыны-зоры
На вашы плёсы,
Мае азёры.
Красой упіцца
Да золку прагне.
Туды імчыцца
І каняй смягне.

* * *

Жаўцяна выліта святлом
Раздолляў ясных далячынь.
Духота жарыста крылом
Махае, шэпчучы: спачынь!

Дарэшты выпіта раса,
Ляжыць падвялены пракос.
За самалётам паласа
Па небу цягнецца наўскос.

Пакуль наўсцяж не заімгліць
Расяны вечар над сялом,
Спяшае сонца хлеб наліць
Жыцця цяплом.

* * *

Не корч здаволена грымасу:
Часовы берага хадок!
Як хваля Нарачы слядок,
Жыццё сатрэ накатам Часу.

І памятай: прыйшоў сюды
Адно на нейкае імгненне.
Таму ў парыве азарэння
Гадуй наступніку сады.

* * *

Уморанае санцапалам поле.
Ды вось — дажджу шуготная сваволя.
Ён пружысты, расхлістана адчайны,
Ужо макрэчай шэранню віруе,
Траве спатолю гойную даруе,
Шуміць-плыве накатам светлай тайны.

Іграе дождж мелодыю жывую.
Звон кроплін-светлін вуснамі цалую
І п'ю душою подых трапяткі.
Уздрыгне поле каласістым жытам,
Пяшчотныя, умытыя, блакітам
Заваблівa світаюць васількі.

Балюе дождж. Парывісты і спорны.
Абсяг жыцця, вільготны і прасторны,
Купаецца ў лагодлівай вадзе.
І доўга шчэ, пад хмарнаю абложай,
Танцуе дождж — размашыста і гожа
Па грывах жыта
Кружыцца-ідзе...

* * *

Не, гэта суд павечны Праметэя
Раз'ятрана над Віліяй бушуе —
Рабінавая вогненная ноч!
Сышліся ў гневе лютыя багі,
Ляціць агонь ва ўсе бакі сусвету,
І я стаю пад ім высокім, рады,
Што некалі з далоняў Праметэя
Нябёс адна гарачая іскрына
Усё-ткі даляцела да мяне!
Як светла з ёй мне стала на зямлі!

* * *

Стамілася зжатая ніва чакаць
Яршыстага жыта — у колкасці пожні.
Над лесам — гарачага сонца шчака,
Над хатаю — ластавак вывадак позні.

Успараны жнівень, халодзячы твар
Зачэрпанай вільгаццю з ленае плыні,
У золата фарбаў малюе абшар,
Узносячы дух твой у высі святлыні.

* * *

Знічка з небнае вышэчы,
Іскрамётны, лёткі міг,
Асляпіла позірк нечы,
Прытаіла нечы ўдых.

Мільганула кметна-ясна
Зыркім росчыркам святла.
У паднеб'і чорным згасла
І ў маёй душы ўзышла.

* * *

Сад пакінуты на строме —
Яблык дробны ў сетцы голля.
Грае золатна ў саломе
Жніўнем зжатае ваколле.

У надрэччы — млее спёка,
Бы зіхоціцца лускою.
Яблык зваблівы — высока,
Не дацягнешся рукою.

Ў ветры селішча былое
Патыхне рыззём сапрэлым,
Быццам тхло адно гнілое
І ўзышло над светам белым.

След жыцця — пагаслы, збыты —
Скажа памяці замнога.
І кусаеш яблык збіты —
Горкі смак быцця зямнога.

* * *

Беларогі, ясналікі
Над дарогай маладзік.
Ночы стоеныя зыкі,
Свет бясконцы, свет вялікі.
Шлях у волкай нетры знік.

А над шляхам — млечны высеў,
Зорны дыхае ірдзень.
Сэрца мкне да небных высяў.
Сэрцу міг спатольны выпаў:
Змогшы ноч, прывецiць дзень.

* * *

Упалі кроплі на пясок —
Дажджу рапсодыя зямная.
І луг надрэчны, і лясок
Парыўна лівень ахінае.

Суцішыць пошуг спакваля
Дух прэлы жнівеньскае спелі.
Плыву — сусвету немаўля —
У бурна ўспененай купелі.

* * *

Схіл рачны. Раса іскрыцца
Ў бляску месячнага ззяння.
Прагне вечнасці скарыцца
Смуглай ночы чараванне.

У затоенай прасторы
На мяжы святла і змроку
Ліпы срэбныя узоры
Так паглядны поўні воку.

Духам траўным, хмельнаросым
Бераг дыхае угрэты.
Парассыпалі нябёсы
Зор блішчастыя манеты.

* * *

Умлеўна-жніўнаю парой
Над пожняй дыхае спякота,
Рачной зіхоціцца быстрой
Прыроды ўтомная дрымота.

І з зумкім лётам авадні
З вышы пікіруюць на статак.
Бясконцасць небнай глыбіні,
Вярсты дарожнае пачатак.

І зноў клапотна дзень зямны,
Каб рунь жыцця набрала сілы,
Над чорнай скібай баразны
У санцагрэве пружыць жылы.

* * *

Грымела бура, шквалам секла,
Пускала ўходкі градабой.
Калі і ёсць на свеце пекла,
Дык вось яно — перад табой!

Усё змяшалася, злілося —
Паветра, лісце і вада.
Адно для сэрца засталося:
Стыхіі грозная жуда.

І спудным дзеям заімглёным,
Што гнеўным грукатам плылі,
Маланкі крэслілі імёны
На кожным ссечаным камлі.

* * *

Чорнагаловікі — шапка, як смоль,
Корань, як снег.
На Галубоўскую ў раннюю золь
Спохапна бег.

Спрытна крануўшы ігліцы іржу, —
Схрон іхні тут! —
З чутным трымценнем сэрца гляджу:
Ранішні цуд!

Чорная шапачка ў сетцы маршчын.
Пальцы дрыжаць.
Як яны вабна, адзін у адзін,
Побач ляжаць!

Вынасіць гэтую з чутых уцех,
Лес, не дазволь!
Чорнагаловікі. Корань, як снег.
Шапка, як смоль.

* * *

Як святланосна ахіне
Сусвет свае абсягі сіні!
Ды ў неба выстылай пустыні
Цямрэча вечара дыхне.

У паядынку з граннем рос
Сутонлівы празяблы морак,
І росы ўжо, як блёсткі зорак,
Зардзелі ў глыбіні нябёс.

І свет, што быў дасюль малы,
Сусвету вочы адкрывае.
І ў ноч імкне на два крылы
Журба і радасць векавая.

* * *

Дзень адступіўся — і згас,
Ў прошласць сышоў нямую.
Зорнай начы папас
Кратае шыр зямную.

* * *

На востраве калішняй балаціны,
Што ўлёгся, як маленства мацярык,
Пахмуры сведка — дуб пparticular адзіны.
Тут ветру ўсхліп ды дзеркачыны ўскрык.

Ды памяць перасохлай быць не можа,
Такой, як кропля ржавае вады.
Маленства свет... Часінай падарожжа
Праз шаты год мне не спыніць хады.

Тут спудны першы ўзмах касы-сямёркі,
І ўтомы першай нечаканы пот,
І дух травы падвялай хмельна-горкі,
І лапік неба — вечная з яснот.



Лісічак россып залаты!
Мох зелянцовы на паляне
Расшыты ўсцяж да зіхаты:
У вочы светла восень гляне.

А вось і сам яе парог —
У гудзе пчол зраселы верас.
І небу дзякуеш, што змог
На гэту сінь ўзысці яшчэ раз.



Яшчэ залеў не нудзіцца гаворка,
Тугі арэх даспеў, злысеў ушчэнт.
У голлі скача вёрткая вавёрка,
І рыжы хвост — на збор пладоў патэнт!

Дупло наб'е адборнымі — такімі,
Што проста ўсе адзін да аднаго.
І па зімы разгорнутым кіліме
Прымчыць не раз да сховішча свайго.

Блішчыць над лесам зваблівая зорка
І бачыць казку — цёплую з уцех:
У голлі прымасціўшыся, вавёрка
Трымае ў лапках залаты арэх.



Чмяліны верас. Гонкія бярозы.
Пяшчотна-цёплы ветрыку павеў.
У танцы сінім кружацца стракозы.
Юнак ад пахаў лесу захмялеў.

Вядомы дол да кожнае сцяжыны
Вядзе яго, віхрастага, наўпрост
У зараснік калючае ажыны
Праз каланаду белую бяроз.

Ён набярэ там шызавата-чорных
Гаркавых ягад — і сцягой лясной
Да вёскі рушыць. Адвячоркам зорным
Зноў ля хаціны спыніцца адной.

З-за брамкі выйдзе дзеўчына — дзве коскі.
Падсініць вусны колерам ажын.
І маладзік над соннай вулкай вёскі
Падгледзіць таямніцу іх адзін.



Ясень ля весніц старых — лесніка
Кронай шумотнай аздобіў жытло.
А ў лесніка падрастала дачка,
Лепшай красуні вакол не было.

Лаўка пад ясенем. Блёсткамі зор
Цемрань працята да вільгаці траў.
Дрогка на лаўку прысеў ухажор,
Дзеўчыне хмельныя словы шаптаў.

Лета мінула. І ясень-скупец
Стаў неўпрыкметку за ноч залаты.
Рыжым, як лісце яго, быў хлапец.
Дзеўчына жарка ўздыхнула: — Як ты!

Слаўна ў хаціне аж некалькі дзён
Грала вяселле да позніх гадзін.
Ясень пад вокнамі... Помлівы, ён
Рэўнасцю скрытнаю тросся адзін.

* * *

Каліна пры балоце. Бель туману.
Пунсовых гронак зорная краса.
Вільготны дух балотнага дурману,
Атаву рэжа гойстрая каса.

Уявы помнай зыркія хвіліны
Павернуць час, павалены травой.
Той дзень ірдзее гронамі каліны
На даляглядзе памяці тваёй.

* * *

Святлісты дзень, умыты шчодрым сонцам,
Бліскоча зырка шклінамі хацін.
У пальцах скваппай восені чырвонцам
Трапечацца лісцё старых асін.

Аціхлая, прыземленая школа
На беразе, над воднаю быстрой,
Глядзіць за рэчку вокнамі вясёла
І дорыць вёсцы радасны настрой.

І ўжо душа свае шыроты ясніць,
Над Віліяй зялёнаю стаю,
І ў той чародцы русых першакласніц
Тваё маленства кмечу, пазнаю.

Два банцікі — яно ідзе, жывое,
Насустрач гудкай дзённай гамане,
Нясходнае, шчымотна-дарагое,
Здалёк паглядам сінім паласне.

* * *

Узбалоткі паазер'я.
Журавін агонь пунсовы.
Жураўлі цярэбяць пер'е.
Па начах кугічуць совы.

Некранутая прырода.
Пісне квола, ценька пліска.
Па-над жэрдкай азярода
Закружыла нізка-нізка.

Расцярэбай мкнуць машыны —
Пудзяць гыркатам бярозы.
Зырка рдзеюць журавіны,
Як зямлі збалелай слёзы.

* * *

Месяц — хадок адзінокі,
Як стамлёны паэт,
З небнай вышы шырокай
Зорыць на свет.

Унізе, гразоту месячы,
Шляхам ідзе, як плыве,
Паэт, хто даўно на месяцы
У думках жыве.

* * *

Горад бляскам вокан узіраецца
У сутонне восеньскага вечара.
Зашчанае хмарамі, хаваецца
Неба ад пагляду чалавечага.

Зоркі, да адзінае, патушаны,
І маркота светам авалодала.
Толькі й ладзіць перазовы з душамі
Вечнасці таемная мелодыя.

* * *

Асенні нудны дождж,
Бярозы мокры ліст.
Мне сэрца не трывож,
Цыбаты цымбаліст.

Ты граеш год які
Мелодыю адну.
Зліваецца ў вякі
Твая саната сну.

Маркотная ціхмень
Гайдаецца вакол.
Ды выбліснє прамень,
Кульнецца ўміг на дол.

І збыўшы суму гнёт,
У марыве спярша
Адчайна, навылёт,
Прасветліцца душа.

* * *

Восеньскі дзень залацеў,
Вочы ад сонца мружачы.
З клёна лісток паляцеў,
Над тратуарам кружачы.

Радасці ўзвейнай віток,
Явай быцця абронены.
Як у дзяцінстве, лісток
Не размінуўся з далонямі.

Жоўтага шчасця падман,
Ты не кранешся бруду!
Яркай красы талісман
Зіму захоўваць буду.

Жарка нашэпча мне
Ў час, калі сцюжа галосіць,
Аб залатой старане,
Дзе загарэлася восень.

* * *

Калі салому жнівень залаты
У сціргы крутабокія складзе
І пруткія густыя чараты
Аздобяцца мяцёлкамі ў вадзе, —

Нячутна восень ступіць на парог,
Зацягне хмарнай шыззю небасхіл.
І венікам вятроў з зямных дарог
Змяце сярдзіта ўлежны летні пыл.

І, ззяблая, бульбоўнік абаб'е,
Паслаўшы іней першы на раллі.
І злічыць дні пагодныя свае,
Нібы жабрачка цёртыя рублі.

* * *

Лета, змытае слатою,
Жухне лісцем пад нагамі.
Восень смутаю густою
Ўлежна дрэмле пад стагамі.

Шлях, расквашаны дажджамі,
Шаратой сцякае з выспы.
Над маркотнымі палямі
Дзень, як зяблік дрогкі, выстыў.

Кіне сонца з-за хмурынаў
Промень позні, як манету.
Прывяла душу пуціна
На канец зямнога свету.

* * *

Краскамі уквечаная памяць —
Смолка, аксамітка, васілёк.
Рваныя дзіцячымі рукамі,
Бачацца, нязгасныя, здалёк.

Адцвілі святлістай юні леты,
Параслі жыгучай крапівой.
Познія асеннія букеты.
Прыхінуся скроняю сівой.

* * *

У ельніку цямотная душа,
Сырэчы дух пад навіссю галін.
Бы дзеецца жалобная імша
Пры свечках прыбалотных дзвюх калін.

Накрап маркотны пудкага дажджу,
Нібы прысутнасць нечых смутных слёз.
Збіваючы дрымотную імжу,
Ступаю ў засень стоеных бяроз.

І быццам збыўшы чарадзейства зло,
Што наступала шэранню сляпой,
Душою п'ю дрыготнае святло
Пад сшэрхлым небам восені скупой.

* * *

Дажджы... Дажджы... Няма супыну
Глухому пошапку залеў.
Рвучы нязрушную хмурыну,
Адчайнік-вецер згас, умлеў.

З зямлёю злітыя нябёсы
Ў густое месіва імжы.
Адчай прыроды безгалосы.
І скуты сум...
Дажджы... Дажджы...

* * *

Здымае восень шапку рыжую,
Шпурляе стратліва на дол.
Страчае годна сцюжу хіжую
Гай — белакоры мукамол.

Туга паскоранае ростані
Сцінае ўвесь празяблы свет.
І толькі ўмытаю бяростаю
Глядзіць бяглянцы лета ўслед.

* * *

Бухматы воз на восеньскай дарозе,
Ён коціцца, як цёплы прыпамін.
Праз дзень-другі ярчэчай на марозе
Успыхнуць гроны стылыя калін.

Улёгся снег: бялёсая пярына
З адлівам санцажарай зіхаты.
Абцеглася наміткай азярына —
Зрудзелыя шапочуць чараты.

Скрыпенне рассыпаючы наўкола,
Бадзёрым крокам рушаць маразы,
Мяняючы прыпозненае кола
На скорасныя ў лёце палазы.

* * *

Спелай каліны ззяблыя гронкі
Першым марозам сцятыя.
Шчасця дзіцячага розгалас звонкі
Ягады вуснамі кратае.

Кінула сонца косы прамень —
Запунсавелася чырвань налітая.
Восені позняй пахмурлівы дзень
Казку не гасіць — беражна літуе.

Будуць завеі шумна і гонка
Снежна-віхурна дурэць.
Будуць каліны пунсовыя гронкі
Сэрца на сіберы грэць.



Ціхмяны шэпт пастылага дажджу
У кронах волкіх сосен за акном.
У вочы змерклай восені гляджу,
Што ўжо не здатна грымнуць перуном.

Згубіла неба джала бліскавіц.
І дзень-другі — на першы свой начлег,
Павытканы вятрамі шугавіц,
Уляжацца зіхотна-белы снег.



Агалосіць восень позняя
Шэрань зябкую вятрамі.
Над рудой пажухлай пожняю
Снег закруціцца віхрамі.

Ляжа беленню шырэчаю,
Густа ўквеціць куст лазовы.
І з душою чалавечаю
Ўраз наладзіць перазовы.

Узляцелай, не асмужыцца,
Падпяваючы кунегам.
Зноў яна пад небам кружыцца
Гэтым бела-чыстым снегам.

Зноў без пляміны адзінае
На вятрах жыцця красуе,
Зноў над белаю радзімаю
Шчасце з доляю вальсуе.



Гудліва музыку сваю
Вядзе машын грукотны бег.
Ды заварожаны стаю —
Лаўлю ў далоні першы снег.

Ён, пульхны, зрушыўся з нябёс
І нечаканы, і густы.
Душу прасветлена узнёс
Над мітульгою чарнаты.

Яшчэ не збіты спрытам ног
І не разбіты бегам шын.
На мокры дол ціхутка лёг
Скразной бязважкасцю пушын.



Марозліва скаваны храпай
Гразоты ўлежны чорны сон.
І снег ціхутка белай лапай
Пакратаў шыбіны акон.

Марозу ранішняга джала
Паклала след на стыні шкла.
Зіма-астудніца сказала
Шапотка-глуха: — Я прыйшла...



Пазначыцца абрыс хаціны ў далечы
Гадоў і вёрст — і помнае акно
За снегам, што мігціць, няспынна валячы,
Жаўцяна бліснс радасцю адно.

І там, у недаступнай сцюжнай замеці
Даўно адпетых сіверамі зім,
Фіранкі ўздрыгнуць... І вачамі памяці
Зірнеш у свет ты, юная зусім.

* * *

Акрэп мароз — умерзлася рака,
І пульхны снег на сходзе ночы выпаў.
Дрыготны золак выстудзіў над ліпай
Барвяна гойстры серп маладзіка.

Разросся дзень, як рошчына, святлом,
Свяжак залётны дыбіць снегу грывы.
Ляціць за рэчку, вольны ды імклівы,
Шугаючы размашыста крылом.

* * *

Сцінала нема цішыня
Зямныя смутныя разлогі,
На схіле зморанага дня
Зямля мяняла ўбор убогі.

І першароднае святло
У зябкай шэрані світала,
Парыўна снежнае крыло
Аблогі свету замятала.

І ў нейкі міг, як белы сон,
Саснёны вечнасцю нямою,
Узвейна так кружыўся ён
Над скрутнай памяццю зямною.

* * *

Вецер, лыжнік адзінокі,
Мкнецца снежнаю мярэжай.
Дзень зіхотны, белашчокі,
Сонцам рыжым вочы рэжа.

Снежны ўзвіў на шыры поля
Трусіць грываю бялёсай.
У выгнанне мкнецца Доля
Ў стыні рані безгалосай.

* * *

У вочы дасвеццю гляджу,
Стаіўшы дыханне. Бяссонне
Кідае крапліны дажджу
На шыбы і на падваконне.

Зімовай парой ледзяной
Зрудзелага снегу астача
Над лёсам прагорклым са мной,
Слязіны губляючы, плача.

Ягонай тузе раскажу,
Чым сэрца збалелае поўна.
Схаваецца, збегшы ў імжу,
Прымроены вобраз няўлоўна.

У барве ледзь кметнай зары,
На вечным кастры паднябесся
Праз хвілю-другую згарыць
Балесная споведзь Палесся.

І дзень паласне яснатой,
Павыганіць здані-прывіды,
Бясстрашна красой залатой
Акрэсліць жыцця краявіды.

* * *

*Т. Купрэвіч*

Прыходзіць Новы год, аснежаны і чысты,
З глыбінямі вачэй, адкрытымі святлу,
Даруючы настрой натхнёны, урачысты,
Сцірае з нашых душ будзённасці імглу.

І зваблівa гучаць жыцця жывыя струны,
Паглядам з цішыні зноў памяць апячэ.
І там, у нашых днях, акрыленых і юных,
І хмельна нам двaім, і мройліва яшчэ.

* * *

Палазамі крута зрэзаны,
Снег марозліва зіхоціцца.
У прасцяг палёў аснежаны
Стогалоса рэха коціцца.

Дзень пад сонцавай каронаю
Віднатой бліскотна выліты,
З заінелай граюць кронаю
Прамянёў зіркатых вылеты.

Грай зімы, віхурна ўзнесены,
Сонца блікамі залоціцца.
Шчасця знанага ўваскрэсіны:
Вунь над лесам кола коціцца!



# ДНІ МІНУЎШЧЫНЫ СКАЗАЛІ

## *Легенды і паданні*

### ВЯШЧУН

З даўно забытае пары
Брыдзе падання струмкі сказ:
Магутнік-волат, дуб стары,
Вятрамі сечаны не раз,

Аздобіў велічна курган.
Над ім раскатна гуў Пярун.
Паблізу чорны, як груган,
У хатцы жыў мудрэц вяшчун.

Вясной гуллівая рака
Грымела крыгамі. Яна
У свет гукала юнака
Рамонка, сына вешчуна.

Гарача ў жылах маладых
Бурліла кроў. Быў хлопец — хват!
Не раз услед гучаў уздых
Ім зманна ўкрыўджаных дзяўчат.

Ды вось з бацькоўскіх вуснаў ён
Наказ пачуў — няма стражэй:
— Кахай адну да скону дзён,
Каго не знаеш даражэй!

Рамонак, змоўклы сэрцам, згас,
Хадзіў самотны між палёў.
Мінуўся сум — праз хуткі час
Да бацькі Шчарыцу прывёў.

— Вось тая, хто мне даражэй
За скарбы неба і зямлі!
А сонца ў небе ўсё вышэй,
І дні спякоты надышлі.

Трымцеў лісцём ашэрхлы дуб.
Вяшчун унурыў галаву.
Сухотны вецер злосна скуб
Наўкруг пажухлую траву.

Ужо ні кроплі́ны вады,
Канаў ад смагі змоглы люд.
І рукі ўзнёс вяшчун тады
У неба, молячы пра цуд.

Ды грымнуў голас Перуна
Над перасохлаю зямлёй:
— Прыйшла пара плаціць спаўна
Мне чалавечаю крывёй!

Не ты, нямогліца стары,
Хто страціў з векам сілы ўсе,—
Ахвяру тую на зары
Твой сын няхай мне паднясе!

Яму у рукі гойстры нож
Аддай, як дар, нямоглы жрэц!
Хай вершыць суд. І хлыне дождж
Над дубам, неба пасланец.

Вяшчун Рамонка спешна зваў
У той трывожны, смутны час:
— Ты, сыне, чуў, аб чым казаў
Пярун, угневаны на нас.

Пад дуб разгалы на курган
Прыйшоў зусюль сасмяглы люд.
І задаволена груган
Глядзеў з вышы на дрогкі спуд.

Стаяў Рамонак, сцяўшы нож,
Пад дубам ссохлым, як зладзей.
Маўчаў натоўп. Умольна: — Хто ж?! —
Вяшчун вачмі пытаў людзей.

Рамонак, скрушны ценем зла,
Кідаў пагляд ва ўсе бакі.
З натоўпу Шчарыца ішла.
І ён — нож выпусціў з рукі.

І крыкнуў нема: — Бацька, не!
Ляцела ў неба ў цішыні:
— Забі, пражэрнае, мяне!
Яе ж — і пальцам не крані!

— Я не магу так жыць, павер.
Душа збалела ад жуды.
Не толькі людзі, нават звер
Не мае крапліны вады.

Памерлі маці і сястра,
І бацька ў хаце — ледзь жывы.
Няхай сысці мая пара
Раней на дзень. Жывіце вы!

І штось на вуха юнаку
Сказала, ўцершы іскры слёз.
І той бяспамятна руку
Над ёй, пакорнаю, занёс.

Крыві гарачае струмень
Па дуба ўсохлай біў кары.
І ўраз пагас спякотны дзень,
Сырыя ўздрыгнулі вятры.

Прыгналі космы чорных хмар,
І дождж запеў мільёнам струн.
З нябёс на змрочлівы абшар
Зайшоўся рогатам Пярун.

Вады свавольная бруя
З-пад дуба бегла па грудку.
— Ці чуеш, любы, гэта я?
І Шчарай люд назваў раку.

Рамонак, стаўшы вешчуном,
Пражыў, казалі, доўгі век.
Хадзіла сэрца хадуном,
Калі Пярун аблогі сек.

І гасла дзённае святло,
Зяхала вухканне грымот.
І ўжо ніколі не было
Па-над зямлёй такіх спякот.

# НЯСПРАЎДЖАНАЕ ВЯСЕЛЛЕ

Два сыны у Рагвалода
І дачка, як зорка-яска.
Не вядома — бачыць шкода —
Ім матуліная ласка.

Падрастаюць сіраціны,
Над ракой гукаюць рэха.
Бацька, слаўны князь, адзіны
Іх апора, іх уцеха.

Над зямлёй Ярыла едзе
Ў залачонай калясніцы.
Шэпчуць кветкі штось Рагнедзе,
Звоняць бруйныя крыніцы.

Стольны Полацак з прыцмокам
Пазірае: кветка-ружа!
Князь заезджы кіне вокам —
Прагне ўзяць яе ў замужжа.

У харомах Рагвалода
Б'юць сваты зачаста ўклоны,
Ды чакае ўсіх нязгода.
Едуць, сыплючы праклёны.

Шмат князёў у свеце тужыць,
Што не сталі жаніхамі,—
Успамін аб кветцы-ружы
Сэрца коле ім шыпамі.

І радзей усё ў харомы,
У князёўніны святліцы,
Залятае гул знаёмы,
Торг вядзецца аб куніцы.

Рагвалод таму не рады,
Хоча быць у сане дзеда.
Ды не слухае парады
Ганарлівая Рагнеда.

Бацька-князь хмурэе ўпотай
Ды клапоціцца аб раці.

Бачыць з горкаю пяшчотай:
Падабрала крошкі маці!

Тыя ж вочы, тыя ж вусны,
І каса — чарней ад смолі.
Час юнацкі, юр спакусны
Не забыць яму ніколі.

«Мо Пярун за што карае? —
Шле выяву наўздагонкі!
Прыгажуня! Паўтарае
Воблік страчанае жонкі».

Парасчынены вароты,
Госці голасна ўязджаюць.
Вой ступіў з двара са слоты:
— Князь, сваты!
— З якога краю?

— Знедалёку! — стражнік кажа
(За акном — грамчэй усклікі), —
Іх паслаў, прасветлы княжа,
З мірам Ноўгарад Вялікі.

Князь між іх — жаніх названы.
Не ўтрываў — бяруць спадзеўкі!
Рагвалод расчараваны:
— Князь! — і сам прыбег да дзеўкі?!

Прывітаць людзей з дарогі! —
Рагвалод гукае чэлядзь.
Кінуў скоса позірк строгі
На прышэльцаў: «Мякка сцелюць!»

Вось застольная бяседа
Хмельна ўзносіць чары мёду.
Счырванелася Рагнеда.
Люб жаніх і Рагвалоду.

«Што й казаць... Як віцязь, статны.
Бач, па ім дачка ўжо сохне.
У такога меч булатны
У руцэ ліхой не дрогне!»

І сватамі згода ўчута:
Балю быць — жаніх па сэрцу!
Хваляць хлопца, баламуты,
Словы роняць — сыплюць перцу.

— Дык скажыце ўсё ж, ці згода? —
Сверб сватоў падпітых точыць.
Чараўніца Рагвалода
Падняла на госця вочы.

І яны агнём-сінечай
Ўсё без слоў сказалі самі.
У палатах позні вечар
Калыхнуўся галасамі.

Шчэ нячута і нязнана
Ноччу той было ў застоллі:
Ім, двaім, наканавана
Паспытаць няўцешнай долі.

Што напіша лёс іначай,
З лютай жорсткасцю крывою
Быль суровую гарачай,
Роду знатнага крывёю.

Быць разбітаму каханню,
Што, як вогнік, узвілося.
Стаць апошнім іх спатканню,
Жыць балесным адгалоссем.

Шчасця мройнага карціны
Раз астатні сэрца бачыць.
Іншы змусіць стаць жанчынай
На вачах братоў і бацькі.

Ёй адпрэчаны рабыніч
Прыйдзе сілай авалодаць.
Секане пад корань — згіне
Дрэва роду Рагвалода.

А пакуль над Палатою
Ходзяць хмельна з мёдам чары.
Клятвай вернасці святою
Закаханых цешаць мары.

## БРАС І ДРЫВА

Ружай Дрыва ў князя Дзвіна
Жаніхам цвіце на згубу.
Выбіраць сама павінна,
Павядзе які да шлюбу.

Як пламенне, позірк Дрывы
Зранку падае на дзверы,
Непрыязна-ганарлівы,
Выстаўляе кавалераў.

Друйка-маці з вуснаў Дзвіна
Словы чуе ў раз каторы:
— Без клапот жаніў бы сына! —
Гнеўна сыплюцца дакоры.

Дрыва кінула каралі —
Зырка пырснулі, як зоркі.
Тры браты прад ёй стаялі,
Ды адказ пачулі жорсткі:

— Меч булатны скажа слова,
Шлюб чыйго жыцця акраса...
Снуд патайна просіць Нова
У магілу звесці Браса.

Наваколле вечар цьмяны
Ценем здрады ахінае.
Ад смяртэльнай згубнай раны
На кургане Брас канае.

Ды адна ў красуні ўмова,
Тая ж самая гамонка:
— Толькі меч давершыць слова!
Пераможцу буду жонкай.

І браты мячы у сечы
Бліз палаца скрыжавалі,
Доўга секліся — пад вечар
Бездыханна ўдвух упалі.

І не зналі Ноў са Снудам,
У магілу лёгшы разам,

Што, прыняўшы грэх іудаў,
Пакваталіся не з Брасам.

Брас пачуў жахоту-вестку,
Здрыгануўся ўвесь журліва:
— Будзь праклятаю, нявеста!
Адвярнуўся князь ад Дрывы.

У святліцы тужыць Дрыва,
Боль абразы сэрца рэжа.
Узышла яна імкліва
На вяршыню Белай вежы.

Смерць уласную гукала
І знайшла ў азёрным плёсе,
Шызай чайкай Дрыва стала,
Век над хваляю галосіць.

А памерлі Друйка з Дзвінам,
Быў прастол заняты Брасам.
З той ссівелае даўніны
Між азёр узняўся Браслаў.

І ляжаць Дзвіна і Друйка,
Снуд, Навята і Дрывяты.
А легенды праўда-бруйка
Спавіла стагоддзяў шаты.

## КАРОНА

Скача вершнік — топча травы,
За спіною стольны Кракаў.
У карчэўі вогнік млявы —
Стан разбойнікаў-ваякаў.

Хоць імчаў сюды і доўга,
Выдых з радасцю шалёна:
— Заўтра з Кракава Міндоўгу
Павязуць яго карону!

— Ну, а скуль, з якой дарогі,
У цябе такія звесткі? —
Атамана позірк строгі
У агонь уздыбіў трэскі.

— Каб жа спрах я! Нёсся птахам
З весткай, брацці дарагія!
— Адпусцілі! Значыць прахам
Лягуць вершнікі другія.

Мкне разбойніцкая світа
У паход пад сховай ночы.
Вось карону прагавіта
Атамана лашчаць вочы.

— Ух, алмаз! Аж бельмы рэжа,
Як іскрыцца ў бляску поўні!
Што сабор — чатыры вежы,
Ну і ўпраўду — скарб чароўны!

Паімчала злыдняў зграя
Дальш уезджаным гасцінцам.
А Міндоўг дарма чакае —
Не аб'ехаць дубачынцаў!

У палацы — крыўды ахі
Ходзяць ўздыхамі, як хвалі.
Князь не ведае, што ляхі
Глум яму падрыхтавалі.

Што сам круль, зацяты помснік,
Непрытоена раўніва
На карону ноччу позняй
Сквапна зыркаў, як на дзіва.

Што, шалеючы ад пыхі,
Раптам змяк, як ліст падвялы.
І змяіўся скрыгат ціхі:
— Разбягаюцца васалы...

— Зайздрасць Вавеля вядома! —
Князь чакае, ходзіць бледны.
Тайна выкавалі дома
Абадок-заменнік медны.

Сонца ў дзень той над Літвою
З марай вольнасці згасала.
Секла крыўда крапівою:
Каранацыя васала!

Пазабыўшы даўні смутак,
Паўжартоўна, без трызвону,
Свету кажа Навагрудак
Пра Міндоўгаву карону.

## КРЫВАВАЯ БАЛАДА

Пыл над Донам чорна ўецца.
Дыша конніца хрыпата.
Ціша ночы палавецкай
Ятаганамі працята.

Пыл Кацяну вочы выеў.
Як асіну, трусіць хана.
Мчыцца вершнікам у Кіеў
Постаць дрогкая Кацяна.

— Насядае вораг яры, —
Хан заступнікаў збірае, —
Сёння ссеклі нас татары,
Заўтра вас змяце іх зграя!

Трубяць збор у стольнымградзе:
Стаць грудзьмі ў палях чужыны.
Устаюць на даляглядзе
Мужных русічаў дружыны.

Шчыльна сталі — віж да віжа —
У чаканні сечы-буры.
— Скуль вы будзеце?
— З Нясвіжа! —
Годна мовіць князь іх Юры.

І змінае стэп кавыльны
Вояў конніца ліхая.
Смутна прывідам магільным
Варанне наўсцяж лятае.

Мкнуць са стэпавай шырэчы
Бубнаў пошчакі-удары,
Гік чуцён нечалавечы —
Віхрам коцяцца татары.

Паціраючы далоні,
Прыўзняліся ў сёдлах воі:
Чужакоў нязваных коні
Смешаць куцасцю сваёю.

Раз астатні сонца ўсходзіць.
Кліч узносіцца гартанна.

Ляжа Русь на тры стагоддзі
Капытамі іх стаптана.

...Адмахала ў бітве мечам
Смерць прачорная, як галка.
Ўсцяж крывёю чалавечай
Пунсавее рэчка Калка.

Мёртвы сон халодзіць скроні
Вояў-русічаў пабітых.
Без прыгляду ходзяць коні
Па траве, крывёй палітай.

Ценем шарае гадзіны
Ціш устала над ваколлем.
Толькі стогн слабы адзіны
Ўвыш плыве над сечы полем.

Не скарыўся смерці, выжыў
Віж, між паўшымі ступае.
Ён дружыннікаў з Нясвіжа —
Хто жывы?! — адзін шукае.

Шэпча воіну, як сыну,
Князь, паранены смяротна:
— Ты адужай шлях-пуціну
Да зямлі далёкай, роднай.

Вестак груз нясі нядобрых.
Абышлася доля хіжа...
Там, за сценамі Нясвіжа,
Раскажы пра смерць харобрых.

## ТУР-КАЛОДЗЕЖ

Зямля ў аблогжы хіжых зграй
Мангольскіх багатураў.
І аднавокі Сабудай
З агнём ідзе на Тураў.

Балот упрэлая дрыгва
Ашчэчана лазою.
І гікат сее татарва
Над матчынай слязою.

Ды мужных русічаў палкі
Напорыста і спрытна
Ардынцаў цісну дa ракі,
Да Прыпяці блакітнай.

Перш як падняцца на гару,
Мангольскі палкаводзец
Шлем залаты — сваю туру —
Кідае ў тур-калодзеж.

Яшчэ з няпомных, даўніх дзён,
На звод усім віхурам,
Тут, пад гарой, бруісты, ён
Хрышчоны князем Турам.

І прамаўляе Сабудай
Да сцішанае раці:
— У нескароны гэты край
Павернемся мы, брацці!

Аднак не збыцца клятве той...
Глыбіннай, пругкай сілай,
Жывой, напорыста-крутой,
Чужынцаў хваля змыла.

І толькі след іх выглядай
У ранішнім тумане.
Як аднавокі Сабудай,
З-за лесу месяц гляне.

# ЛІЗДЭЙКА

Нарымунт чарней ад сажы —
Смутак гойстра точыць сэрца:
Род ягоны слаўны княжы
Без нашчадка застаецца.

Каб сагнаць з душы самоту,
Не каўтаць палын гарчынны,
Трубіць з раніцы ў ахвоту
Паляванне рог турыны.

У барах, палях тутэйшых
Як ні дзень пагоні цокат.
Толькі жрэц Крыва-Крывейша
Хітравата мружыць вока.

Ганчакі абклалі звера,
Як зладзея ў хвілю кражы.
На лілова-сіні верас
Чабаток ступае княжы.

Дзе ж жаданая здабыча —
Волат тур, яго рахуба?
Ды загоншчык князя кліча
Падысці у зацень дуба.

Дуб-сілач узнёсся блізка
Грознай зданню веліканa.
На суках крутых калыска
Буй-вятрамі разгушкана.

Слова кажа жрэц вярхоўны,
Поўны скрытнага ўзрушэння:
— Ясны княжа, сонцу роўны,
Гэта — Божае знаменне!

Пасылае князю сына
Сам Пярун! Лікуйце, стражы!
Узлятае сакаліна
Над дружынай позірк княжы.

Галасочак, як жалейка.
Тварык ясны, глянуць люба.
І назваў народ Ліздэйкам
Пасланца з гняздоўя дуба.

Рос хлапчук — уцеха бацькі,
Скурай белы, як бяроза.
І ніхто дасюль не бачыў
Больш мудрэйшага на розум.

Стаўся хутка сонцу роўны
Юны князь — краса жывая.
Уздыхае жрэц вярхоўны,
Праўду глыбака хавае.

«Смерць злавесніца-зладзейка
У зямлю паклала маці.
Ты расці, сынок, Ліздэйка,
Князя цешачы, ў багацці...»

У сядле ваярскім чынна
Грае княжыча пастава.
І дайшла да Гедыміна
Пра Ліздэйкі мудрасць слава.

Кліча отрака на раду
У палаты князь вялікі:
— Разгадай мой сон. Мо здраду
Мне яго вяшчуюць зыкі?

Сніцца: воўк жалезны вые
На чатыры бакі свету.
Б'юць раскаты грамавыя.
Што б мог значыць прывід гэты?

Адказаў Ліздэйка: — Княжа!
Сну твайму шчасліва збыцца.
Гедыміну неба кажа —
Ўстане новая сталіца!

Выбірай ёй месца пільна
Там, дзе сон прысніў прарочы.
Муравана ўстала Вільня,
Сэрца цешачы і вочы.

І дажыў Ліздэйка слынны
Ў ёй да позняе магілы.
А наступнікам пакінуў
Імя-гонар — Радзівілы.

# КРЭВА

*Светлай памяці*
*Міколы Іванавіча Ермаловіча*

## 1

О, Літва! Вякоў быліна.
Землі — з захаду да ўсходу.
Сем сыноў у Гедыміна,
Пяць дачок —
Калыска роду.

Затаіўшы зайздрасць, бачыць
Шчодрасць княжую свет цэлы.
Атрымалі ўсе ад бацькі
Грымна-слаўныя удзелы.

І ляціць пра княства слава
Праз Мажайск да Белай вежы.
Белых русічаў дзяржава
Развінула знатна межы.

Як пад Віценевым гербам
Разраслося роду дрэва!
Гедымін пазваў Альгерда,
Абвясціў: — Дарую Крэва!

І гасцей ажно з-за свету
Зранку ў Крэўскім замку поўна.
Сочаць княжую карэту —
Едзе з Віцебска князёўна.

Гедымін вяселле сына
На акругу гучна правіць.
У застоллі Гедыміна
Кожны госць пачэсна славіць.

Ён харобрымі рукамі
Сам сячэ ў баях лівонаў.
З непрыступнымі палкамі
Стаў ад ворага заслонай.

І Альгерду славу роду
Аддае ён чын па чыну...

Ды з наступнага паходу
Не вярнуцца Гедыміну.

Зноў грымяць мячы, і стрэлы
Б'юць, не чуючы знямогі.
Свету новыя надзелы
Князь Альгерд кладзе пад ногі.

То сячэцца ён з ардою,
То ваюе дальні Кіеў.
З дужай хваткай маладою
Мечам крушыць, дзідай крые.

У бясстрашшы, як шалёна,
Б'юцца воі пад дзянніцай.
Павяртаюцца з палонам
На мангольскіх калясніцах.

Пасабляе Кейстут брату,
Пакідае з войскам Трокі.
Ўладзе іх — дуумвірату —
Сход наступіць недалёкі.

Змоўчнай стаць паганскай Жмудзі
Пад віленскаю пятою.
А пакуль — абодвух грудзі
Клятвай дыхаюць святою.

2

Ноччу Кейстуту не спіцца.
Кляцне сэрца, як забрала.
Вільня, новая сталіца,
Не яго ў князі абрала!

Знатны родавым ён гербам,
Ды зняважана здзіўлёны:
Пераемнікам Альгерда
Стаў Ягайла — сыч зялёны.

Жмудзь паганская ў няславе —
Траціць стольную уладу.
Кейстут, седзячы на лаве,
Кліча Вітаўта на раду.

Сына горне ён рукамі,
Сам у змушанай увазе:
— Чуў я, сталі дружбакамі!
Едзь, прывець ад роду князя.

— Час удвух нам, бацька, выпаў
Шлях трымаць у горад стольны.
Непахісна цвёрды Вітаўт,
Духам горды, сэрцам вольны.

— Што ж, бываць таму... — і шляхам
Скача княжая дружына.
Стрэў Ягайла іх з размахам —
І прыветна, і гасцінна.

У палацы — баль гарою,
Ноч пагодным небам зорыць.
Над дасветнаю Вяйлёю
Кейстут Вітаўту гаворыць:

— Не магу трываць Вайдылу!
Як Альгерд узвысіў «хлопа»!
І пры гэтым пруціць жылы,
Смехам душыцца Еўропа!

У апале княжай Трокі.
Тут чакаюць схваткі-звады.
Падужэлі, чуюць, крокі
Новай стольнае ўлады.

Там цяпер свае парадкі,
Там няўгодных помста змыла.
Ў князя новыя дарадцы,
І найпершы з іх — Вайдыла.

Кейстут Вітаўта зноў кліча:
— Наш сшаптаўся з крыжакамі!
Змоўна дні абодва лічаць,
Каб на Вільню йсці з палкамі.

І дужэе помсты голас,
Блізка кроўная адплата:
Аблажыў Ягайла Полацк
З крыжакамі —
Брат на брата!

Вітаўт к бацьку прыбягае,
Твар пагрозліва хмурэе:
— Звесткі новыя! Скіргайлу
Садзіць ён замест Андрэя.

— Што ж... Трубіце збор! — і пыльна
Ноччу стала на дарозе.
Дзень-другі... — і пала Вільня,
Іх скароная аблозе.

Ладзяць шыбеніцы спехам,
Неба зарыва укрыла.
Кейстут-князь глядзіць з усмехам:
Як гайдаецца Вайдыла!

Вось пасад, душы жаданы,
Пад пятой — уся краіна!
Вочы ўмольныя Юльяны:
— Не крані, разбойнік, сына!

— Раць мая яго не ўгробіць! —
Кейстут вусны сціс ва ўхмылку.
Знаць яму б наперад — робіць
Гістарычную памылку.

Што праз гэтае сам будзе
Ён няволяй зганьбаваны.
Што прыцісне горла Жмудзі
Караля абцас каваны.

А пакуль — сячэ залева,
Змокла дрогне варта-світа.
І вязе Ягайлу ў Крэва
Уначы ў цямніцу Вітаўт.

# НЁМАН І ЛОША

Круціць Лоша бурапенна
У віры тугія хвалі,
Аж зайздросныя марэны
Плынь усцяж паабступалі.

Нёман, плыткі і вясёлы,
Не спачыне нат у свята.
Мые хваляй сухадолы,
З людам цешыцца заўзята:

То нясе плыты, віціны,
То дае улоў жаданы.
Кожны знае — ён адзіны
У ляніўку закаханы.

А яна — ўздыхае лена
І, сваволячы, жартуе:
У лугах падмочыць сена,
Больш нізоўямі прастуе.

Ды нядобрай славы зыкі
Дзівака не збілі з тропу:
Як, магутны і вялікі,
Закахаўся ў недацёпу?!

І гуло ў барах вяселле,
Грамавітае, як хмара.
Прачыналіся з пахмелля
Ўсе — Уса, Сула і Шчара...

Аж да снежнае парошы —
Чуў над плёсам куст лазовы,—
Як галубіў Нёман Лошу,
Як шаптаў уцехі словы!

— Мы з табой у ласцы-згодзе
Пражывём, шаптун, давеку.
Кінь пустое: служыць годзе
Дрэву, зверу, чалавеку!

Нёман слухаў кпіны тыя —
Пахмурнеў. Ў адказ — ні слова.

За пагор'і збег крутыя —
Абарвалася размова.

Лоша выбегла з туману,
Не знайшла, дзе коціць воды.
Зразумела, што каханы
Ў свет падаўся назаўсёды.

Па нізоўі дні блукала,
Поўня ўночы смутна вісла.
Даганяць-шукаць гукала —
Не прыйшлі ні Пціч, ні Свіслач.

Ўдаль тужліва позірк кіне —
Дзе ж ты, Нёман, мой каханы?
Да сяброўкі рвецца Выня —
Разам точаць груд пясчаны.

Уздыхаюць тужна-горка,
Роняць плёскат невясёлы.
Раптам бачаць: за пагоркам
Нёман мкне праз сухадолы.

У світання шызай дымцы
Птушкі голасна спявалі.
Зноў да Нёмана ў абдымкі
Лошы кінуліся хвалі.

І мілей няма для Лошы,
Як маўчун той самавіты:
І жаданы, і харошы,
І — нястомна працавіты!

— Дрэву, птушцы, чалавеку
Пасабляць у пары будзем.
Пражыву з табой давеку! —
Шэпт пакоры чутны людзям.

Гучнай славы адгалоскі
Шаты гойдаюць лясныя.
І абселі густа вёскі
Берагі-жвіры рачныя.

Перавоз, Марочкі, Лоша,
І Рачыца, і Сасноўка.

Нёман цешыцца: раскоша!
Побач верная сяброўка!

Ў згодзе служаць люду чынна,
Праўдзяць сціплыя жаданні,
У гісторыі айчыннай
Пераліťыя ў паданні.

## ВЯРТАННЕ НАРАЧАНКІ

Меркне возера плёс
У сутонлівым подыху ночы,
Чуйна, дрогка мігціць —
Неба зорак насыпала нанач.
Смольна дыша касцёр.
Граюць водсветам полымя вочы.
Нарачанка, табе
Раскажу я легенду пра Нарач.

У далёкім краі,
Дзе бялёсыя спеюць туманы,
Мне душу апякла,
Мільганула,
Бы ў хмарах маланка.
Я ішоў па зямлі,
Ў гераіню яе закаханы,
Закаханы ў цябе
Да спаткання яшчэ,
Нарачанка.

А сягоння ля ног
Студзіць хвалі вячорняя змора,
Іх аслаблы накат
У душы абзываецца сумам.
Падалося: не ты,
А Яна з патаемнага мора
Мне насустрач ідзе,
Падуладна пачуццям і думам.

Пазнаю... ці твае —
Ночы смоль — парасплецены косы?
У падсвеце кастра стан,
І голас — гарэзны і звонкі.
Гусне чорная ноч.
Цішыня нерухомага плёсу
Зноў мярэжыць пад месяцам
Срэбным люстэркам Алёнкі.

У стагоддзі якім
На ўзбярэжжы спаткаліся двое?
Тут, у казцы начной,
Мы сягоння пакінуты лёсам.

Цэдзіць зыркі агонь
Водар церпкі смалістае хвоі.
І прызнанне маё —
Вырастае легендай над плёсам...

*

У тутэйшым краі
Жыў юнак-песнябай закаханы,
Днём хадзіў за сахой,
Ноччу — гуслі душа ахінала.
Ён спяваў да зары,
Дзе дрымотна сівелі курганы,
Пра каханне сваё,
Што гаркоту і смутак пазнала.

У каханай яго —
Трапяткое,
Чароўнае сэрца.
Ды нядобрыя людзі
Павучалі паўсюд песнябая:
— Песні сонцу пяеш!
Ты згубіў свае вочы, здаецца.
Не красуня яна.
Як і ўсе ў гэтым краі — рабая.

І спяваў уначы
Песнябай, апавіты журбою.
Не было для хлапца
Прыгажэйшага сэрца на свеце.
Ён спяваў да зары
На кургане пад ніцай вярбою.
Тут, расчулены спевам,
Чараўнік песнябая і стрэціў.

— Цудаў многа ў мяне,
Ды адзін па душы хлопцу будзе.
Вось люстэрка. Бяры!
Чары-спевы твае ў ім сабраны.
Не паверыш вачам,
Дык прымусяць апомніцца людзі.
Залюбуецца кожны,
Хто стрэне, тваёю каханай.

У люстэрка пагляне —
Красуняю стане дзяўчына.

Я ж — бяссільны ў адным:
Даць каханым бясхмарную долю.
Сам адужай бяду,
Як патрапіцца ў лёсе, хлапчына!
Знай: каханне здавён
Тоіць пораўну шчасця і болю!

Так сказаў і пайшоў —
У святле пералівістым знік,
Што мярэжыла ў высях
Люстэркам таемнае поўні.
Мала чуў песнябай,
Што казаў на зары чараўнік.
Толькі слова з вышынь
Даплыло-калыхнулася:
— Помні!..

*

На знаёмы парог
Зноў прыйшоў ён у схованцы ночы.
Ціха скрыпнулі дзверы,
І выйшла дзяўчына рабая.
У вішнёвым садку —
Там не скмецяць нядобрыя вочы —
Да гарачых грудзей
Прыгарнула свайго песнябая.

Цалавала яго,
Да світальнай зары мілавала.
Тая стрэча была
Для дзяўчыны
Апошняй, расстайнай.
Крыўд людскіх і абраз
Сэрца болей яе не трывала,
Абрывалася шчасце
Заўсёды часінай світальнай.

Белы дзень адбіраў
Назаўсёды яе песнябая.
На світанні падасца
Да князя злавечага ў хорам.
Прыглядзела асіну
Ў хадзе той дзяўчына рабая:
Задушыцца на ёй —
Паквітацца з пакутай і горам!

Занялася зара —
Залілася слязамі дзяўчына.
У астатні разок
Песнябая гарнула да сэрца.
Страпянуўся юнак:
Пракалола наскрозь напамінам
Дараванае там,
На курганні ўтравелым, люстэрка.

Ён люстэрка дастаў
І паклаў на далоню каханай.
Зіхацела яно,
Як расстайная зорка дасвецця.
І, здзіўлёны, застыг
Ля красуні юнак бездыханна:
Як зара, харaства —
Пашукаць не знайсці ў белым свеце.

А з дзявочых вачэй
Светла пырскнулі
Зорныя слёзы,
Шчэ не верачы ў цуд,
У люстэрка дзяўчына глядзела.
Там, дзе падалі слёзы, —
Цягнуліся ў неба бярозы,
І на цэлай зямлі
Ад красы іх рабілася бела.

А ступіла яна
Па зямлі скамянелай і чорнай —
Уставалі з-пад ног
Найпрыгожшыя самыя кветкі.
І назваў песнябай
Прыгажуню сваёй нарачонай,
Клікаў простых людзей
Да жаданага шчасця у сведкі.

*

Дробны пошчак капытны
Збудзіў пералескі і гоні.
Не паспеў песнябай
З нарачонай сваёй развітацца,

Як прысталі на золку
Ля весніц грывастыя коні,
Закаханых пабраць
Гайдукі наляцелі з палаца.

Нейк пачуў валадар
Пра нязнанае гэтае цуда,
Загадаў пагукаць
Нечуванку-красуню ў харомы.
Ён паверыць не мог,
Што красуня з прыгоннага люду.
Захацелася бачыць
Красу яе
Хціўцу старому.

Гэткіх белых бяроз
Не расло на абшарах ніколі.
Іх світальнай красой
Выйшаў сам валадар любавацца.
Спешны пошчак капытны
Калыхаўся за вёрстамі ў полі.
Паланёных, дваіх,
Гайдукі прывялі да палаца.

На парозе харом
Адабралі красу ў песнябая,
Ад дзявочай красы
Заблішчалі юрлівыя вочы:
— Скарбаў шмат у мяне,
А такога — свет белы не мае! —
Ладзіць баль загадаў,
Шлюб з дзяўчынай
Узяць князь ахвочы.

Уладарнай рукой
Паказаў валадар на хлапчыну,
Падляцелі ураз
Гайдукі да яго, падхапілі.
Слёзы горна цяклі
Па шчаках прыгажуні дзяўчыны,
На падлозе муроў
Залатымі каралямі стылі.

Не сказала красуня
Каханаму нават і слоўка,

Пахіснулася ціха,
Забілася зболена ў скрусе.
Доўга чулі паўсюд,
Як зацёхкаў жалобу салоўка
У пахмурых гаях
Стараны той лясной — Белай Русі.

*

У мястэчка на торг
Прывялі гайдукі песнябая,
Каб забыўся юнак
У няволі чужой аб каханай.
У няведаны край,
Дзе і песня і мова чужая,
Прадалі юнака
Крыважэрнай бязлітасці хана.

А харомы гулі.
Тут не чулі падобнага балю.
Быццам цэлы бел-свет
Адвярнуўся ад рання да ночы.
У харомах княжацкіх
Вяселле музыкі зайгралі,
І ад болю ў сівых
Невідушчымі сталіся вочы.

Госці свету ўсяго
Выпівалі пацешна да донца
За дзяўчыну-красу,
Што нявольніцы
Долю пазнала.
А дзяўчына ў руцэ,
Быццам кроплю світальнага сонца,
Свой адзіны пасаг —
Залатое люстэрка трымала.

«Што, каханы, з табой?!» —
Надрывалася-плакала сэрца.
У вясельным віры
Не пагасла надзея слабая.
Зіхатлівай красой
На дзяўчыну глядзела люстэрка,
Разумела яна:
Пагубіла сама песнябая.

Залілася наўзрыд
І люстэрка дзяўчына карала,
Узмахнула рукой —
Самым жорсткім карала прысудам.
На асколкі яго,
Непрытомная, скрушная, ўпала —
І крыніца ўзышла,
Разлівалася возерам-цудам.

І пад хвалямі знік
Весялосцю апоены хорам.
То не хвалі плылі,
А любоў прыгажуні жывая.
Ноччу пенная гладзь
Адкрывалася стоеным зорам,
Днём крычала-вілася
Над хвалямі птушка сівая.

*

— Ты адкуль, светлы князь?
Дзе твае залатыя харомы?!
Чым на гэтай зямлі
Княжы род, адкажы,
Знакаміты?
Гэта плёсы чые
І чые крутабокія стромы?
Гэта чыстая сінь
Толькі вольнаму небу адкрыта.

— Прэч! —
Гукнуў валадар.
Пакацілася гулкае рэха.
Страпянуліся ўраз
І галопам пусціліся коні.
Чорны пыл абіваў
Каласы перамешыста з брэхам,
Застагнала зямля
Пад нагамі драпежнай пагоні.

— Гэй! — ляцела наўсцяж.
— Вось і ты, павяртання хвіліна! —
Хмарнай, гнеўнай тугой
Палымнела душа песнябая.
Напалохана ўбок
Адхінулася жнейка-дзяўчына,

Узвіліся бізун
І насмешка над ёю:
— Рабая!..

Мерклі плёсы, што ноч,
Ад яго незагойнага болю,
Ныла сэрца ў грудзях —
Абудзілася скутая рана.
Ён, выгнаннік, пазнаў
На чужыне жабрацкую долю,
Ён, ссівелы, ішоў
Праз гады на спатканне з каханай.

Што за птушка ў цішы
Над пакутай ягонай стагнала?
На сыпчастым жвіры
Хвалі ногі яго цалавалі.
У бяздонным віры
Сэрца любае вочы пазнала.
І ступіў песнябай
На святло іх
У пенныя хвалі.

Беспрытомна ступаў,
А дзяўчына з глыбіняў глядзела,
І пакута-туга
Адступалася, чорная, стыла.
І пачуў песнябай:
Кроў у жылах яго — маладзела,
Запалілася ў ёй
Нечуванаю помстаю сіла.

Шумам хвалі паплыў
Голас любай над ранішнім плёсам:
— Я — каханне тваё,
Пасівелае рана ад гора.
Ты адужай бяду,
Што нам кінута здрадлівым лёсам.
Моц любові пачуй —
Выйдзеш віцязем з пеннага мора.

— Моц любові пачуй! —
Паўтарылі сівыя курганы.
— Моц любові пачуй! —

Падхапілі-панеслі дубровы,—
Край зняволены твой
Белай Руссю ў народзе названы,
Бо за волю яго
Мы гарачыя склалі галовы.

А з бяздонных віроў
Вочы любай яго пазіралі
Светла-сіняй журбою,
Лагодай сваёй засмучонай.
І шапталі ля ног,
Бурна біліся пенныя хвалі:
— Ты асіліш бяду!
Буду вечна тваёй нарачонай!

## БУТРЫМ НЯМІРА

У дубоў тугой абложы
Над ракі цямотным вірам
Грае ў сонцы хорам гожы —
Замак дзедаўскі Няміраў.

Тут, у збройніцкай святліцы,
Шчыт і меч у чыннай згодзе
Праз вякі вядуць быліцы
Аб Алегавым паходзе.

Зброя золатам бліскоча,
Адзавецца гулка звонам —
Кожны ўчуць нашчадак хоча
Пра прапрадзеда Грымона.

Ды вітае ўсіх няшчыра
Уладальнік тых харомаў
Сыч сівы Бутрым Няміра,
Хцівец, кожнаму вядомы.

Не з тэўтонамі у сечах
Скарб набыў, зайздросны воку, —
На пакутах чалавечых,
Гэтак любых крывасмоку.

Ў падхаромныя падрубы
Стогн нявольніц захаваны.
Хто Бутрыму быў нялюбы,
Ў дыбу люта закаваны!

Лёг адчай, цяжэйшы хмары,
Сум павёў па ўсёй старонцы.
Горш за ўсіх жылося Мары —
Супастата гожай жонцы.

Сцята вусцішшу і горам,
Як былінка ў спёку сохне.
Ненавісны сэрцу хорам
У вушах начамі стогне.

Патрабуе муж нялюбы,
Каб была навідавоку.

Мара ведае: да згубы
Засталося менш паўкроку.

Пэўна ўчуў паганым духам:
Не па ім яна ўздыхае.
Мо прыкмеціў ці падслухаў,
З кім мілуецца-кахае.

Ёй сусед, баярчыц Стаўра,
Даражэй за скарбы мужа.
Б'юць паходныя літаўры,
А яна цвіце, як ружа.

Зноў мілуе хлопца шчыра
У садку, дзе топаль ґонкі.
Ды не так сабе Няміра
Не спускае вока з жонкі.

Спрытна высачыў ён сховы.
З лютай ярасцю тырана
На каханых чыніць ловы —
Прывялі дваіх да пана.

— Што ж, баярчыц, ты не весел?
Ці віно маё з гаркоты?
Паказаў мне поўны месяц
Пад тапаляй статнай — хто ты!

Кліч музыкам: — Сыпце жару!
Хай сусед спазнае, хто я.
Побач здзіўленую Мару
Ў крэсла садзіць залатое.

То зірне на Стаўру хіжа,
То на твар красуні юнай.
Прамаўляе — гневам пыша:
— Э-э-х! Не тыя ў скрыпак струны!

Ў сад баярчыца, ў зацішак
Валакуць лаўцы разбою.
Вось зайгралі струны з кішак.
Задаволен князь сабою.

Бездыханна вар'яцела
Ад таго ігрышча Мара.

Непрытомна смягла цела,
З рук упала з мёдам чара.

Дні мінуўшчыны сказалі
Агнявым маланак ззяннем:
Не было жахотней балю,
Не было самотней грання.

## ГРЭХ

Паляўнічая пагоня
Па лясах рыкаста скача.
Радасць вершніку: сягоння
Небывалая удача.

Князь здабычу выглядае,
Сэрца чутна затрымцела:
Аляніха маладая
Мільганула хусткай белай.

Як імчыць цыбата, шутка
У гушчар — жывая зваба!
Лук напяты мігам пругка,
Князь здзівіўся — бачыць слаба.

Раптам шэрыва скразное
Вочы покрывам закрыла —
Сэрца стала ледзяное,
Думка-смутніца ўзвіхрыла:

— І завошта кара, Божа? —
Князь з каня ступіў на ногі,
Вочы мружыць, ды не можа
Бачыць знанае дарогі!

«У якіх прасіць малітвах
У нябёсаў даравання?
Слеплі воі ў ярых бітвах,
Ды не ў гоне палявання!»

Уявіў, з якое ласкі
Навіну пачуе вораг,
Што, як ноч, аслеп Мсціслаўскі,
Што зусім сканае скора.

Хруст пачуўся недалёкі,
Выцер князь краплінны поту.
І, пачуўшы блізка крокі,
Запытаўся ўзрушна: — Хто ты?

Смерць мая? Бяры, не стану
Біцца, як на полі сечы.

Ўжо калі на свет не гляну,
Лепш памру па-чалавечы.

— Я — пустэльнік. Ўгледзься, княжа!
Не чыню нікому ліха.
— Ты мне праўду смела скажаш,—
Князь на голас рушыў ціха.—

Дык завошта Бог карае,
Дорыць цемень смутнай ночы,
Так знячэўку адбірае
Скарб дарожшы самы — вочы?

Чую спод сырой магілы
Я, як ведама калеку.
Мне без зроку свет не мілы,
Скрушна ў цемры чалавеку!

— Знаны грэх твайго мне роду,—
Выдаў голас сухавата,—
Учыніў твой бацька шкоду,
Слепата — за грэх адплата.

Тут бруілася крыніца,
Калыхала ціш лясную.
Хто ішоў з яе напіцца —
Чуў да скону моц зямную.

З яснатой выразнай бачыў
Нат у старасці дарогу.
Конь любімец твайго бацькі
Нейк зламаў у лёце ногу.

Той (у гневе б супыніцца!)
Злосна ўзвёў ад крыўды вока:
Загадаў — забіць крыніцу,
Заваліць пяском глыбока.

І пайшло з тае часіны —
Не пазнаць былое пушчы:
Згас на сцежцы след ласіны,
Смягне ў горле зверу, птушцы.

— Дзе яна, крыніца тая? —
Князь у пальцах сціснуў збрую.—

Я рукамі адкапаю,
Я вярну яе, жывую.

Гром ударыў батагамі,
Пушчу ветрам скаланула.
— Недалёка. Пад нагамі! —
Адказаў пустэльнік чула.

У цямрэчлівым зняменні,
Сцяты бацькавай віною,
Князь, устаўшы на калені,
Жвір капае даланёю.

Працы суткі — цемень-ночы.
Пальцы звёў плывун сцюдзёны.
Ды, змямогшыся, аднойчы
Ўчуў бруістых кропель звоны.

Пот умыў — хітнуўся ценем
Шэры змрок, як птах спалошны.
Прахалодлівым струменем
Умываўся ранкам кожным.

Вочы дужай яснатою
Адкрывалі свет нанова.
Над крыніцаю святою
Князь казаў удзякі слова.

Ўстаў кляштар пабудаваны
Тут па княжай слаўнай волі,
Настаяцелю пашаны
Не забыў аддаць ніколі.

Зрок прыцэльны, сакаліны
Кмеціў ворага ўдалечы.
Вёў харобрыя дружыны
На Грунвальд — на поле сечы.

## МАЦЕЙКА

Толькі сыдзе ноч-зладзейка,
Адкугікаўшы савою,
Задаволены Мацейка
Павяртаецца з разбою.

На гары, акуты борам,
Чынна выкладзены з дубу,
Непрыступны, дрэмле хорам,
Скуль забойца сее згубу.

Ночы ўсе на бліжнім шляху
Чынш збірае гіцаль гэты:
Коні пудзяцца са страху,
Аж куляюцца карэты.

Наляціць, бы прывід нейкі,
Гікне злосліва-сярдзіта.
Скрыня ў схованцы Мацейкі
Жарам золата набіта.

Плач нявольніц у пакоях
Узмывае звар'яцела.
Над пустэльнаю ракою
Сыч каханнем цешыць цела.

Як замлее ранак белы —
У паўзмрочлівым сутонні
Маладых нявольніц целы
Закалышуцца на тоні.

Пад наглядам дробных зорак
Збыцца гіцаля капрызу:
— Пракапаць абвод пад гору,
Каб рака цякла паблізу!

Ўжо Мацейка з вокнаў чуе
Плёскат хваль, душы салодкі.
Ступіць ноч — ляціць, рабуе
Стругі, плытнікаў і лодкі.

Гнеўны грукат перуновы
Разлягаецца над борам.

Вось рабы нявольніц новых
Прывялі ў Мацейкаў хорам.

Нечакана сэрца тае
У драпежніка-пачвары.
Ды глядзіць пагардна тая,
Што ўзяла ў кахання чары.

Чуе згубца — як капейка
Сэрца стукае-бразгоча.
Сохне-мучыцца Мацейка.
Зглухлі злодзеевы ночы.

Загадаў паднесці скрыні,
Дзе дароў нязнаных поўна —
Зірк няўважны толькі кіне,
Галавой хітне адмоўна.

— Даражэй за скарбы свету
Сэрцу страчаная воля!
Як пачуў Мацейка гэта,—
Захлынуўся немым болем.

Нож хапіў — і хіжа, люта
Сам нанёс удар смяротны.
Пала мёртваю Данута.
Выцер гіцаль лоб свой потны.

Пазіраў, што ашалелы,
У вачніцы смерці скорай:
Упіваліся, бы стрэлы,
Праціналі непакорай.

І Мацейка, статны ростам,
Знік-асеў: — Як звер, вякую!
Ён спазнаў знянацку роспач,
Невыносную, цяжкую.

З небывалай весялосцю
Ладзіў пышныя хаўтуры.
Ноч гулялі шумна госці,
Толькі ён сядзеў пахмуры.

Агняпёра ўспыхнуў ранак,
Росы бліснулі на руце —

Ў склеп падаўся да каханай,
Кінуў слугам: — Замуруйце!

Адышліся ў часаў далі
Дзеі грознага разбою.
Смутна стогнуць Нарвы хвалі
Пад Мацейкавай гарою.

## ЯЗЭП І ГАНУСЯ

Змрокам вечар агарнуўся —
Лётка музыка ўзвіхрыла.
Скача юная Ганулся
На пацеху Радзівіла.

Заварожана ўздыхае
Танцам скораная зала.
Як лябёдка праплывае —
Харастаом чаруе ўдала.

У князёў гарачым дыхам
Да яе пяшчота рвецца.
А яна
сасгупіць ціха —
Ні адзін не цешыць сэрца.

Уцякае —
не чакае
Гулкай пругкасці авацый.
Грудзі белыя хавае
У дзяругах дэкарацый.

Знаць не знае ў міг той горны
Падалей ад ласкі таннай,
Што мастак па ёй прыдворны
Сохне, любы, закахана.

Прыгажун Язэп нямее:
Хоць паглядам дакрануся!
Быццам белая лілея,
Кружыцца юная Ганулся.

Падступае ростань бліжай.
Сэрцу —
роспаччу скавацца.
Час прыспеў у Слуцк з Нясвіжа
Ёй з тэатрам падавацца.

У хлапца застылі ў горле
Словы спешнага прызнання,

Рукі дужыя —
абмёрлі,
Жаркіх воч шугае ззянне.

Ўзрушных слоў Язэп жахнуўся.
У баковачцы за залай
Пацалункамі Гануся
Спуд ягоны асыпала.

Гаварыла,
што кахае
З той пары, як толькі стрэла.
Быццам птушка трапяткая,
У абдымках хмельна млела.

Пачуццям шуготка крылы
Вырастаюць ім на згубу,
Бо не хочуць Радзівілы
Даць сваім прыгонным шлюбу.

Тую просьбу як пачулі,
Дык затупалі нагамі.
Рукі беднае Ганулі
Закавалі ланцугамі.

Ёй на сцэне заставацца,
Голаў хілячы ў паклоне.
Закаханыя з палаца
Ноччу выбеглі.
Пагоня

Наўздагон па следу скача,
Коней храп,
нагаек посвіст.
К хлопцу туліцца гарача
Паланянкі беднай постаць.

Той абдымак —
іхнім шлюбам
Стаў пад зоркаю начною.

І стаяць вякі: ён —
                дубам,
А яна пры ім —
                сасною.

Страху поўныя, ўтрапення,
Як маланка блісне хіжа.
Хто ні едзе —
                кожны стрэне
Іх пры шляху да Нясвіжа.

## СКАРБ БЯЗДОННЫ

Хіб уздыбіў тур рагаты,
Сатрасае вусціш ранку.
Лук загоншчыка напяты,
Стрэлы — лёткія маланкі.

Асядае звер ля дуба,
Гону коціцца віхура.
Са стралой дапяла згуба,
Віхрам князь ляціць на тура.

Той, шалеючы ад раны,
Устае з астатняй сілы,
Рогі дыбіць нечакана
Гойстрапікія, як вілы.

Са ўсяго галопу-гону
(Неўспадзеў прыгода тая)
Конь няўтрымны, як шалёны,
На пярэйму налятае.

Князь ляжыць, канём падмяты,
Смерць цікуе вокам тура.
Нож, загоншчыкам узняты,
Мільгануў над пысай бурай.

Трапна б'е — у горла меціць
Так упраўна і рухава.
Княжы твар, што ясны месяц,—
Смерць мінула Яраслава.

— Што ж, жыццё каштуе многа!
Сыпце золата! — князь кажа.
Ды загоншчык анічога
Браць не мкнецца з ласкі княжай.

Вочы бліскаюць хітругі.
Сук бярэ, стаіць у сонцы,
З недаўменнем бачаць слугі:
Пратыкае ім чырвонцы.

— Скарб твой, княжа, ўсё ж глыбокі,
Толькі дно і ён вось мае.
І загоншчык хітравокі
Так размову зачынае:

— Гэта княжая патрэба —
Чуць дукатаў перазвоны.
Я ж хачу займець пад небам
Небывалы скарб — бяздонны.

Дай мне дар той, князь вяльможны,
І пачуешся ў расплаце...
— Дно дастаць, хітруга, можна,
Звёзшы ўсё маё багацце!

І загоншчык пырснуў смехам:
— Скарб той, князь, навідавоку!
Ён зямлю лавецкім мечам
Працінае у паўкроку:

— Вось той скарб — людское шчасце,
Потам мыты, сонцам грэты.
Што чырвонцы? — могуць скрасці.
Вечны толькі скарб вось гэты!

І няма лацвей ратаю
Баразной ступаць сваёю:
Скібы чорныя гартае,
Дна не чуе пад сахою!

Як ускінецца жытамі,
Колас выганіць зялёны,—
Думкі ўцешна кажуць самі:
Вось са скарбаў скарб — бяздонны!

— Што ж... — прамовіў князь нястрога,—
Вёў гаворку ты сумленна.
Скарбу дам табе такога
Па дзесятае калена!

Знатнай граматаю дарчай
Тут, у стане паляўнічым,
Князь з ухваткай гаспадарчай
Дорыць служцы Велямічы.

Далеч сонечна світае,
Шчодра сеючы пламенне.

І брыдзе быліна тая
З пакалення ў пакаленне.

Дзень на сходзе вока мружыць,
Ахінае вечар сонны.
Хто зямлю і сёння плужыць —
Мае вечны скарб бяздонны.

# ЛОСКІ ЗАМАК

1

Заранiцай замак лоскi
Узвышае ў неба сцены.
Везлi дрогкiя павозкi
Зранку чынш сюды каменны.

Быў загад наўмысна строгi:
Ў Лоск без каменя — нi кроку!
Пешы, конны — хто з дарогi,
Падавай каменны пропуск.

Валуноў стракатых груды
Леглi высака, як горы.
Даручылi майстры люду
Разабраць iх на калёры.

Непрыступна замка вежы
Паўбiралi камень гладкi.
Ён, блiшчасты, вочы рэжа —
Грае выш чырвонай кладкi.

2

Час сышоў, як свечка воскам,
Беззваротна i няўлоўна.
Падрастала ў замку лоскiм
Роду знатнага князёўна.

Быў юнак — прыгожы, статны —
Хараством яе скароны.
Толькi здзейснiць подзвiг ратны —
Вiхрам мчыцца у харомы!

І нiшто каханай пары
Зла не зычыла, здаецца.
Прыхiне, раўнiва-яры,
Чуе — сэрца верна б'ецца.

Дзень вясельны думкi скорыць,
Пакiдае вiцязь войска.

Ды ад'ехаў — новы вораг
Падступіў пад сцены Лоска.

Перамогі толькі згукі
Трубы медныя прапелі,
Як хлапчына — ногі ў рукі:
Зноў мяркуе аб вяселлі.

Блізка шчасце. Раптам трубы
Збор зайгралі. Пахне порах.
Не даехаў ён да любай,
Край штурмуе іншы вораг.

Не відно канца паходам,
Толькі мрояў лёт крылаты.
Стаў хлапчына ваяводам,
Перакрыты шлях дахаты.

З ратнай справай вою знацца —
То ў гарах ён, то на моры.
Адшугала год семнаццаць,
Як вярнуўся ў знаны хорам.

Не кранулі сечы-згубы,
Слаўны вой-жаніх ступае.
Чуе сэрца голас любы,
Знае сэрца, хто чакае.

Узляцеў, як птах, да вежы
Па прыступках брукаваных.
І, глынуўшы вецер свежы,
Адчыніў пакой жаданы.

Вочы жаркія хавае
Вой жахнуты — дальш ні кроку,
Бо нямогліца сівая
Устае ў густым паўзмроку:

— Гэта я, твая нявеста!
Той стаяў, аслупянелы,
Як прырос, не зрушыць з месца.
Чорным здаўся ранак белы.

А яна імклівей птушкі
Да акна: — Бывай, каханы!
Уздыхнулі горка služкі,
Гром раздаўся нечуваны.

І самотнымі вачыма
Давялося ўбачыць вою:
На зямлі ляжыць дзяўчына,
Толькі з белаю касою.

# МАРЫЯ

Б'еццa вецер пругкакрыла,
Чорна хмарай неба крые.
У палатах Радзівіла
Тужыць бедная Марыя.

Гэтак яблыня завяла,
Абраніўшы цвет чароўны.
Сэрцам шчырым пакахала,
Ды па сану ён не роўны.

Пачуцця аддана ўладзе
Думак слодычных сваволя.
Блізка сёння Ян — у садзе
Песціць ружы, пальцы коле.

Замярэжыць морак хліпка,
Страпянс князёўны сэрца:
Як жалосна хлопца скрыпка
Для яе адной зальецца.

Так дзівосна, вабна, міла
Гукі ўтомныя кранаюць,
Мур халодны Радзівіла
Цеплынёю працінаюць.

Карагодзіць ноч цыганкай,
Ад вачэй цікаўных скрые.
Ўслед за вернаю служанкай
Ў цёмны сад бяжыць Марыя.

Шэпчуць жарка вусны: — Любы!
І, цалуючы, не знае,
Што над прорвай чорнай згубы
Доляй грэшнаю лунае.

Здрадна выпырхнуць світанню,
Гаснуць лёсу ценькай зоркай.
Быць разбітаму каханню
Нечуванай карай жорсткай.

Слых каханага не рэжа
Плач заточніцы князёўны.

Боль яе хавае вежа,
Гасіць дзень, адчаю поўны.

Ранкам сонца не ўзыходзіць,
Не шчабечуць спеўна птушкі.
Тут нявольніца народзіць,
Грэх хаваючы, дачушку.

Аднялі дзіця... Ў цямніцы
Ёй паведала служанка,
Як тапілі ў ноч чарніцы,
Кім забіты ў вёсцы Янка.

У начной сарочцы белай,
Агнявой задухі поўна,
Па прыступках схаладзелых
Бегла ў згубу-ноч князёўна.

Пры балоце груд сырэчы
Цеплынёй грудзей накрыла.
Крык жалобніцы з цямрэчы
Рваўся ў замак Радзівіла.

Падабралі непрытомнай
Паўзабітую Марыю,
Клалі скрытна ноччу цёмнай
Ў дамавіну вартавыя.

З роду змылі пляму бруду
Пахаваннем пышным гладка.
І сказалі вестку люду:
— Згасла бедная вар'ятка!

# ВІЛІЯНА

Жыў кравец, дзе сосен веча
Ветрам буйным разгукана.
І умельства рук хлапечых
Гучна славіла Сцяпана.

Пад агністаю зарою
(Змоўчным сведкам бор адзіны)
Для абноў красуням кроіў
Паркалёвыя тканіны.

Ды адна ў духмяны вечар
Абдала душу шчымотай:
Вочы — поўныя сінечы,
Вусны — жарка граюць цнотай.

Пра дзяўчыну ў хлопца мроі,
Не забыць яе, залёткі.
Убірае ў чары-строі
Прыгажуні стан трапёткі.

І яна душой хінецца
Да краўца — ён чуе тое,—
Сэрца птушкай страпянецца
Ў час прымеркі пад рукою.

З сінявы нябёс саткана
Шчасце долі залачонай:
— Віліяна, Віліяна!
Стань маёю нарачонай.

У вачах красуні згода
Запаліла блікі-промні.
Бы ад сонца узыходу,
Прасвятлеў бор хмуры, цёмны.

І наўкруг пайшла гамонка —
Уздыхалі хлопцы ў крыўдзе,
Не да іх красуня жонка,
Да краўца ў хаціну прыйдзе.

Ды затрэсла навальніца
Цёмны бор, загаласіла —

Не магла ніяк змірыцца
З гэтым шлюбам Злая Сіла:

«Раз ты здатны дзейсніць цуды,
Прад якімі сам нямееш, —
На пацеху злому люду
Напалову скамянееш!»

Жар маланкі сек аблогі,
Грукацела далеч громам.
І кравец пачуў, як ногі
Звалунелі нерухома.

Пры балоце — век не збочыць —
Дні праводзіў ён з каханай.
Шыў адзенне ў схове ночы,
Трызніў стрэчай з Віліянай.

А яна падыдзе — гляне
Воч нябеснай сінізною,
Сцішыць слёзнае ўздыханне,
Хваліць спрыт яго і строі.

Ды аднойчы тым сустрэчам
Абарвацца — лёс карае:
У аблічы чалавечым
Падступіла Сіла Злая:

«Вось заморская тканіна.
Паштукуй як след над кроем:
Ты за ноч пашыць павінен
І не тое, і не сёе...»

Пры балоце раным-рана —
Як ні тужыць, як ні кліча —
Не вярнула Віліяна
Больш краўцу яго аблічча.

Лёг валун халодны, потны
У цяжэрным супакоі.
Віліяны плач самотны —
Прытулілася шчакою.

Кліча любага дзяўчына —
На душу пакута легла.

Слёз гаручых ручаіна
Рэчкай Віліяй пабегла

Праз пагор'і і каменні,
Разліваецца сінеча —
У зіхотных вод адзенні
Сэрца дзеўчыны трапеча.

Ў белым вэлюме з туману —
Так пакрыўджаная лёсам —
Несупынна Віліяна
Крочыць шляхам — водным плёсам.

Як ні гляне — у паглядзе
Стыне смута незямная:
Не адзін валун на гладзі
З асцярогай абмінае.

А над ёй уздых хлапечы
Патанае ў шатах сосен.
І няма ясней сінечы,
І не стрэць красы дзівосней.



# НЯХОДЖАНАЕ ПОЛЕ

*Паэма*

* * *

Вясна змарыла сонцам... Рыжы сноп
У шызай дымцы хвойніку штоpанак
Праменна рос, як блікамі маланак —
Па шклінах сек. Нібыта сотні коп
У горада світальным наваколлі
Ірдзеліся на бачным воку полі.
Ноч адступала шэрай нематой.
Асляплена праменнай зіхатой
Было акно дзевятага паверха.
Чубы вярбін унізе, круглаверха
Убраныя у першы клейкі ліст,
Аціхлыя, у росах залацелі.
Туга сцінала жылы стомна ў целе,
Калі шатры іх бачыла... Уніз
Слязінкі з воч сарваліся-зляцелі.

Каторы дзень аціхла на балконе
У зводніц-дум у моташным палоне
Яна, прысеўшы зноў на табурэт,
Чакала сонца, бляск зары вітала.
І промнем першым сонца ёй вяртала
Той, страчаны, жыцця шматпомны свет:
Лясную вёску, што пад сценкай хвой
Была й дасюль гуллівай, жывой.
Суседзяў крокі, неўгамоннасць спраў,
Пярэсты статак, буйнаросы выган.

Вось голасна хаціны будзіць цыган —
Не ўсіх кароў пастух з сяла сабраў!
Як і заўжды, ўзіраецца падслепа
З-за квортачкі Аўдзеішына Сцепа:
«А Божухна! Чаго ўжэ так зарана?!»
Нарэшце дбала чарада сабрана
І, топчучы астуджаны пясок,
Імкне праз выган з рыкам у лясок,
Які (ўжо колькі ўсцешна ні ківае)
Заўжды ўваччу цямрэча абрывае.
І рыжы, яры ўсхопіцца агонь.
Зноў расплывецца ўдушна ў слёз сырэчы
Прывід жыцця... І ўскрык нечалавечы
З грудзей пакутных вырвецца. І скронь
Затахкае скразным нясходным жарам.
І задаўга пад санцапёкам жарым
Яна, аб камень студзячы далонь,
Сцінае шкельца нітрагліцэрыны,
Пакуль не спудзіць одум голас сына.

* * *

— Пасхалі, Андрэй! — у раз каторы
Адрывісты, слязой працяты, хворы,
Чакальна сцішны голас просіць сына.
Нібыта сёння збыцца ўраз павінна
Усё, аб чым турбуецца душа.
У маўчанцы зацяжной яна спярша
Падыме вочы, на нявестку гляне.
Таго хапае, каб сышла дазвання
Надзеі блёстка: аж сапе ад злосці.
І так заўжды. Ды міг пякучай млосці,
Нібы скарынку чэрствую, каўтне.
І ўжо ў бунтоўнай дзёрзкай весялосці
Сама за сына скажа:
«Матка, не!»
Як верабей з гнязда ў часіну буры,
Ён выскачыць, насуплены і хмуры.
На вешалцы ў прыхожай, дзе ніхто
Не замінае, хопіць паліто
І грукне уваходнымі дзвярамі,
Аж шыбы закалоцяцца у раме.
І вось за ўзрушнасць сынаву адплата:
Нявестка зыркне холадна-зацята
І павядзе, сярдзіта павядзе...
Захвошча, быццам пугай па вадзе,
Што вось няўдзякі поўная старая

З дня ў дзень адно і тое ж паўтарае
І рушыць гэтым звычны супакой.
А Мокіш той у далечы такой.
Андрэй штодня нервуецца, згарае,
А матцы што? — усхопліва рукой
Сатрэ прытвора пушчаныя слёзы.
І пошуг крыўды жаркі, стогалосы,
Астудзіць чутым холадам сцяна.
І, слова не прамовіўшы, яна
Падасца важка у пакойчык дальні.
Там дзень сядзіць
Ды чуе гул вакзальны...

* * *

Цягнік грукоча ўтомна. У купэ
Над ёй кабета мажная сапе,
Да ночы шчабятуха балбатала,
Што едзе к матцы старцаваць — па сала!
Не соладка жывецца. Жытка — здзек,
Бо жлукціць зрання ейны чалавек,
Павынес з хаты што было якое.
І гора не уласнае — людское
Трывогу збіла ў некалькі хвілін.
І ёй спакойней бачыцца ўжо сын:
Як, пыхкаючы ў клетчыне-кватэры,
Запіску той бярэ — і злосны, шэры,
Што верабей ашэрхлы на страсе,
Рукой пад носам жончыным трасе.
Крычыць у ноч: «Ты гэтага жадала?!
Капейку лічыш, жмінда! Вечна мала!»
У суцемак пакоя ад акна
Драпежніцай кідаецца яна:
«Казала я, не пры яе сюды —
Цяжкія тхлу старому гарады!»
Каўтнуўшы ком нясходны ўдушша болю,
Дала цяпер гняўлівым думкам волю,
Дваім у цемрадзь беглую вяла:
«Я не прасіла вас! Мяне з сяла
Ўгаворамі падацца ў рай скарылі!
Наперабой салодка гаварылі!
Паверыла, дурніцаю была!
Нібыта з лёсу іншых я не знала,
Што «раю» там хвалёнага замала.
Вунь Сцепа — з тыдзень ў дочкі пабыла,
Калі яшчэ сяло жывым стаяла.
А потым віхрам з гораду прымчала,

Забрала хату, што ўжо прадала...
А тут адно абое: матка, едзь!
Спачатку нейк удзержалася ледзь,
Дак гора от, агульная бяда,
Нібы варону, скінула з гнязда.
Сабрала клункі ды як уявіла,
Што на чужыне будзе скрутна-міла,
То холадам праця́ла да касцей.
Памру, рашыла, ля сваіх дзяцей...»

Яна рукою галаву падперла,
У змрок глядзела: «От жа, не памерла!
Ўваскрэсла от! Бальніцай замарылі!
Як галубкі сядзелі, дні лічылі,
Прасілі Бога, жытку кеб прадліў.
Адзін разлік іх радасцю цвяліў:
Кватэру от чарнобыльцам расшыраць.
Нявестка й тая сакатала шчыра.
Ўсяліліся. Мінуўся год, другі,
І ўжо глядзіць, бы з ёю варагі:
Не так ступіла і не так зрабіла.
Сталічны рай, ды жыць у ім няміла.
Дак от, пакіньце нудзіць галаву —
Сама сабой і ў пекле дажыву!..

Цяпер вясна і большае цяпла.
Якая жытка там? Пайшла — прыйшла.
Цяплу, жывому сонцу кожны рад.
За хатаю ўскапаю пару град.
Адно шкада, што побачкі нікога.
Нагаварыцца здолею й да Бога!»

І ўжо віхураць думкі іншай сілы:
«А ён, сынок... ад бацькавай магілы
Адрокся, пазабыў. Крыўдуе Хведзя,
У сны брыдзе, пытае: «Што не едзе?»
А я яму ўсё тое ж: «Ён заняты!» —
«А ты чаго сядзіш капой?!» — суняты
Балесны одум крыкам праваднiцы.
Выходзіць скора... Водсветам дзянніцы
Узята неба. «На пагоду ета!»
Паклажу ёй рухавая кабета
Дала у рукі, муркае, як котка:
— Дак праўду ўжэ ж скажы, куды ты, цётка? —
Не верыць слову, чорная варона,
Стрыжэ вачмі на клункі падазрона,—
Бы ўпрочкі мчыш! — прычэпа сакатала.

— Не нудзь душу! Я шчасця паспытала!..
— А я сваю от колькі ні заву,
Пярэчыць мне: у Заспе дажыву!
На рукі глянеш — чорныя як сажа.
Адмыла б хоць у ванне!
— Праўду кажа
Твая матуля. Дзеўка, не грашы:
Адмысш рукі — не адмыць душы!

* * *

Далёкі хвойнік змрочліва шарэў.
Ноч напаўзала. Ветрыку павеў,
Астатні раз ускубшы Сцепы дзічку,
Зляцеў за стрэхі, ацішэла згас.
Аўдоля, меўшы даўнішнюю звычку,
Зірк кінула на ходзікі. І ўраз
Душа яе самотаю зайшлася:
Няма іх там — жыве яна ў бясчассі.

Натомленая, села ўскрай стала,
Дастала з клунка гожую ікону,
На той жа цвік у рамку залачону
Узвысіла лік Божы. І святла
Дабавіў сценам мучанік Хрыстос.
А сэрца — здрыганулася да слёз.

У раз які вось так зірне яна,
Бы ходзікі на вышыні акна
Ў прасценку быць павінны. Толькі знак
Застаўся на пабелцы пацьмянелай.
Шчыруе ўсяк між яблынь успацела,
Апранутая ў доўгі андарак
(Знайшла ў рыззі старэчым на гарышчы),
Патрушаны удушным тытунём.
Між быльнягу, дзе вераб'ёў ігрышча,
Як пудзіла, капае грады днём.
Глухія хаты. А за імі — поле:
Быллё, палын, кусцістая лаза.
Нагорнецца журлівая сляза.
Распраміцца, дыхне цяжэй Аўдоля
Ды зноў рыдлёўку торкае ў дзірван.
Рыштунак земляробчы скрозь сабран —
З усіх хацін — абшарана ваколле!
У хаце ўсё — сякера і піла.
Як мае быць, усё паздабыла
Упраўная руплівіца Аўдоля.

* * *

Наўпрост па рослым полі, дзе здаўна
Была дарога, сцежчыну яна
У быльнягу сухотным пратарыла.
Ішла ў Стралічаў. Ў краме гаварыла
Тым, хто пазнаў: «Вярнулася ў райвон!
Да вот дамоў к сабе на колькі дзён!»
— А мы, Аўдоля, Богам беражоны,
От тутака сядзім, на ўскраі зоны.
З'ядае радыяцыя здароўе.
На вуліцы глушэча, бескароўе.
Дужэйшыя разбегліся даўно —
І следу на дарозе не відно.
Буханкі хлеба несла праз сяло,
Дзе шчэ жыццё астатнікаў гуло.
Старыя з лаўкі скмецілі яе,
Калі ішла сцягою з глыбі сада.
Хаўрусніцы. Калісь адна брыгада.
Ківалі-звалі. Ціха прыстае,
Глядзіць няцямна, як не пазнае,
Нібы сустрэчы гэтай і не рада.
— Авохці мне. Аўдоля! Ета ты? —
Старэчы бас, паўнюткі глухаты,
Яе вітаў. — То ж я, Пятрова Тэкля!
І вочы глыбачэзныя аж пеклі,
Глядзелі ў твар. Падслепыя краты,
Адась і Волесь, зухі-кавалеры,
Ёй адчынялі ў хату Тэклі дзверы,
Пыталіся за чаркаю: — Як ты?
— Да от жыву, вярнулася... — яна
Сказала ўсё, што тузала здаўна,—
І што, і як, і тут яна чаму.
— Давай ка мне, Аўдоля, на зіму,—
Умлеўна просіць згарачэлы Волесь.—
Маіх сватоў павыставіла колісь.
Чаму не йшла — і сёння не пайму!
— Дай ты ў мой бок не соладка глядзеў!
Сівенькі Волесь быццам маладзеў:
— А што глядзець? Ты іншага абрала!
Табе зямлі хацелася! Замала
Турбот было, ярма на ўсе гады.
Дак радуйся. Абрэзалі. Тады
Усіх звяло ў адно абагульненне.
Яно прыйшло — ад катаргі збавенне.
Яму — хвала! Я й сёння малады!

А ўжо калі ты прагнеш так зямлі —
Уся твая. Пустэчыя палі.
Бяры і пляж. На ёй хоць лежма ляж.
Адно узрост шаноўны свой уваж,
Ўжэ недалёка. Лічаныя дні.
За мной сягоння, дзеўка, адпачні!
— Да кеб ты спрах! — злуецца жартам тая,
А ў вочы глянь — вясна жыцця світае...

Хаўрусніцы прывецілі сяброўку,
Расчуленыя, скокнулі дамоўку,
Прынеслі ёй цыбулі па вянку,
Павесілі усцешнай на руку.
— Шчэ й бульбы дам. Якраз на гэтым тыжню,
Кума, адкрыць упраўлюся капец.
Падкіне лісапетаю хлапец.
— То дзякуй бо... Граду ў бадыллі выжну,
За дзень-другі і ўпраўлюся ў гародзе.
А хлопец як абвесціцца — калодзеж
Пачысціць кеб пасобіў, накажы.
Застояўся, дай залілі дажджы.
От хлеба, цукру, солі накупіла.
Сядзець у хаце буду — сэрцу міла.
Цалуе Тэкля сшэрхлую шчаку:
— Усё садзі! Града сагрэе душу!
Яшчэ табе сказаць я, кумка, мушу —
У хаце быць належна мужыку!
— Да ўжэ ж,— Аўдоля згодліва ківае,—
Зямліца нас заручыць-пахавае.
Яна пайшла. Быльнёг, як нікалі,
Збіваў, хінуў, здаецца, да зямлі.
Ступалі ногі важкія. І ўсё ж
Шпарчэй пагнаў сцягой усчаты дождж,
Уподбег кінуў проста па быллі.

* * *

За тыдзень ледзь падшкрэблася. Жытло
Павеяла абжытым звычным духам.
Аднак пасцель не сталася ёй пухам,
Бо ноччу зводу думкам не было,
Імчаліся, падобна завірухам.

Бы зноўку несла з хаты розны хлам,
Быллё ламала, абмятала сцены,

Дух выганяла дамавінна-тленны,
Збірала шыбы, шкліла зеўру рам
І выступ ганка ладзіла каменны.

З суседскіх абязлюднелых двароў
На селішча сваё нанесла дроў,
Іх пад паветкай сонцам грае сценка.
І грубка ўпраўна дыхае цяплом.
Красуе яра полымя крылом.
Чыгун віруе з бульбаю. І пенка
Угнявіцца-пральецца. Так салодка
У грубцы ціўкне спудлівы агонь.
Сядзіць, шчаку паклаўшы на далонь,
За табурэт — з бярэзіны калодка.
У гэтым познім прыхапе гадзін
Агонь у грубцы — весялун адзін.

Прад гвалтам-высяленнем незадоўга
Ёй шыферу прыдбаць паспела Ёўга.
Андрэй наехаў — пераладзіў дах.
І вось цяпер гады прайшлі, а хата
Сярод другіх стаіць малайцавата,
Што згорблена хаваюцца ў садах.

На вуліцы глухотнага сяла
Аўдоля адзінотніцай жыла —
Ні голасу ніводнага навокал!
Зара ўзгарэла, і зара зайшла,
Адбілася зырчаста ў шклінах вокан,
Ды ноч занізка зорыста лягла.

* * *

Ужо замлеў ружовым цветам сад.
Ды пчол няма. Нібы вясне не рад
Іх лёткі гул. Ацішанасць скразная.
Яна галінку крохкую кранае,
І тая, як павінная цвіценнем,
Калышацца на травах смутным ценем
І роніць рой пялёсткаў. Матылёк
(Адкуль узяўся!) завітаў, гулёк,
І вось між шчэці гонкай быльнягу
Шукае шлях. У вейную шугу
Зрывае вецер яблыневы цвет,
Цярусяцца, крыляючы, пялёсткі

І засцяць далеч амярцвелай вёскі,
Сабой віхурна затуляюць свет.
Суседзяў хаты. На падворак Вары
Больш не ступіць — разросся малінняк.
Ля копанкі — лаза, густы хмызняк,
Падалей — вязы статныя у пары
Укрылі голлем селішча Антося.
І паплавец здзічэў, дзе шматгалоссе
Заўжды было мурзатае дзятвы.
Без дроту слуп, нібыта вартавы,
Стаіць пахіла. Стужчына асфальту
Ў аблогі траў і набрыдзі лазы.
Зірнеш — і ў зрэнцы накіпам слязы
Туга ўсплыве. І ластаўчына сальта
Над Бірана бляшанкаю-страхой.
Рыдай, крычы. У скутасці глухой
Жыццё табе і плачам не адкажа.
Замжэе дзень. І хмар пагрозных сажа
Агорне неба змрочна над сялом.
Раздольна, гулка басавіты гром
Прысуд зямлі бязлюднай агалосіць,
Лісцё шуміць, дарунку ў неба просіць.
А ноч сляпуча сплюшчыцца, тады
Зямля наўсцяж паўнюткая жуды:
Ні вогніка мігцення трапяткога —
Адно звісае цемрыва скразное,
Ні голасу танюткага жывога,
Нібыта згасла ўсё жыццё зямное.

Угрэўшыся ля грубкі, у паўсне
Аўдоля лёс свой роздумна кране.
Была ў бацькоў адзіная дачка.
Пайшла ў замужжа. Пётру, мужыка,
Вайна забрала — паў пад Сталінградам.
Другі з сухотаў злёг пасля вайны —
На могілках тутэйшых бачыць сны.
І колькі год, як жыта, секла градам
Гаротлівую жытку удавы.
Ўпражэшся — не падымеш галавы:
Вязанкай дровы з хвойніку насіла,
Упоравень з мужчынамі касіла,
Дзяцей пяцёра — сірацін пяцёра.
Куды падзецца? Скрозь бяда і гора.
Павыраслі. Вядуць жыццёвы рэй.
Дачкі дзве ў Закаўказзі прэюць летам.

Хлапцы два ў Казахстане дзесь за светам.
У Беларусі меншы сын Андрэй.
Калі было, трымаў падол спадніцы,
А сёння во — прахвесар у сталіцы!
Шугае грубка. Блікаў россып косы —
Ўсцяж па тынкоўцы водсветы агню.
Знадворку гукі рушаць цішыню.
«О Божухна,— ўзлятаюць думкі-восы,—
Каго нясе? За месяц ўпершыню!»
Парыўна сенцаў адчыняюць дзверы —
Увальваюцца міліцыянеры.
Узбудна калыхнуўся хаты морак,
Ліхтар сячэ Аўдолю па вачах.
Агонь і той ад зляканкі зачах.
Бліжэй да ложка мкнецца кіцель шэры:
— Арсен, глядзі ты, баба-самасёлка!
— Да ўжэ ж, глядзіце... з етага пасёлка!
Я тут жыла, ад'ехалася ў госці.
— Не бачылі гадамі, цётка, штосьці!
— Ды, ведама, не бачылі гады.
Пад стол хадзілі пеша вы тагды!
— Туліцца, цётка, ў адзіноце страшка.
Лепш стол накрый, была б закуска, пляшка...
Аўдоля ўжо на іх не чуе зла,
Адно ўздыхае: — Некалі была...
Усё было, як жытцы тое трэба,
І хлеб тут быў, сыночкі, і да хлеба.
Да от Чарнобыль ненасытны зжор!
На момант нейкі ў сціхласці замёр
Вышэйшы, той, што вёў вясёлы рэй,
Спіною прытуліўся да дзвярэй.
Смужэў у бляску грубкі твар ягоны,
Няроўна нейк уздрыгнулі пагоны:
— Начуй сягоння. Заўтра — прэч дадому!
Тут пекла, цётка...
— Ета мне вядома...
Не ў меншым пекле жытку пражыла.
Тут дома я. Дамоў сюды прыйшла.
— Заедзем заўтра, цётухна, з нарадам!
— Не страш... Адсюль не зрушыш і снарадам!
У вас, гняўцы, не тое ў галаве.
Падкіньце хлеба лепш куліткі дзве.
От грошы дам,— яна прыўстала цяжка,—
Шчэ й астанецца... Будзе вам і пляшка!
Назаўтра каля хаты пад абед,
Пусціўшы дыму, зглух матацыклет.

— Ну, баба, нам задачу задала,—
Вышэйшы ўжо казаў без ценю зла.
Другі стаяў, трымаў аберуч сумку:
— Не хвалім, цётка, мы тваю прыдумку —
Унесла ў нашу жытку непакой!
— Не жальцеся... Да ўжэ ж бяды такой.
От лета пералетую, а там
Адсюль падамся, ціша будзе вам.
У выселках патолі небагата:
Ляжу, не сплю, ўсё думаю, як хата?
Каторы год па траўцы не ступала... —
Аўдоля жаласліва наступала.
— Ды што казаць. Ў мяне свая старая.
Зачэпіш словам — стогне, памірае.
Заведама, без клёку ў галаве,
Шчэ нас, дзяцей сваіх, перажыве.
Мы гэтай радыяцыі хапілі,
Што пратачыла ўжо, здаецца, косці.
— Не ўсю яе ў гарэлцы утапілі! —
Другі азваўся ў хмельнай весялосці.
— Дамовімся: жыві сабе сезонна.
Няведама — тут зона ці не зона.
Даўно няма спакою галаве.
Скрозь набрыдзь несусветная плыве.
Тут нечысці-адступніцы — раздолле!
Бадзяецца, павыйшаўшы з турмы.
Спалохана сталася Аўдоля.
— Не бойся, цётка, недалёка мы!
Ішла ты са Стралічава, наўпрост?
Ці бачыла? Ля Бабчына наш пост!

* * *

Сягоння з самай раніцы Аўдоля
Святочнае надзела, град не поле.
Яшчэ учора начыста ў хаціне
Прыбралася. У квечанай хусціне
Прастуе вулкаю да панскіх верб,
І месяца ледзь кметны бледны серп —
Цікаўны падарожны між нябёс —
Услед глядзіць ёй. Поўна смуты, слёз,
Багата раз часінаю такою
Яна з душой хадзіла трапяткою,
Сябе як помніць, тут усе гады,
Бо гэты шлях ад вёскі на клады.

Мо з тыдні два, як ранак шызакрылы
Устрапянецца, подбегам яна
Ішла і шчыравала ад відна,
Дзе даўнія радзінныя магілы,
На ўсе клады, як макаўка, адна.
Па-над грудочкам кожным бедавала,
Траву-сухотку, пальцы сцяўшы, рвала,
Спярша сваіх — матулі, бацькі, Хведзі,
Затым былі ўжо родзічы, суседзі.
І праўдзе той здзіўлёная была:
Радні ў яе не менш як паўсяла!
Сядзеў быльнёг у пояс, малады
І ссохлы, не кранугы ні разочку.
Павыдзерла па каліўцу-кусточку
І знесла у канаву, за клады.
Стаяла ў драпкай шчэці, як між пекла,
Акацыі тупой сякерай секла,
Падалей несла колкае іх вецце,
Калола рукі ды каўтала вецер.
Умлеўшы ўтомна ў жаркі дзень пагодны,
Пачула голас Хведара лагодны.
Ён з неба плыў, здалося, з-пад аблок,
Казаў усцешна: «Бачу кожны крок.
Скупіла грэх прад небам ты спаўна».
Яна шаптала: «Ці ж мая віна,
Што ў пору тую з роднага жытла
Выгнальным шляхам, Хведарка, сышла?
Усе сышлі, каўтнуўшы горыч слёз.
Ды выйшла: мне вярнуцца выпаў лёс».

...Шчэ не дайшла, а скмеціла: прыстаў
Ля верб аўтобус, грэе рыжы бок,
І постаці віднеюцца здалёк
Ля брамкі, дзе распяцце-крыж Хрыста.
Народу поўна. Сам, здалося, крок
Прыцішыўся і рушыў з асцярогай
Зарослай азяранскаю дарогай.
З гадзіну так няцямная яна
Быллём густым па полі праставала,
Бы ад вачэй вяскоўцаў грэх хавала:
Не знаюць хай, што тут жыве адна.
Яна да іх падыдзе з Азярца,
Нібыта з супрацьлеглага канца
Дабавілася, скажа: ад залвіцы,

Што ў Азярцы. І будзе ўсяк дзівіцца,
І віду не падасць, што тут яна
Вяла парадкі-ўборы дзень пры дні.
Яе пазналі. Гучна ў цішыні
Суседкі зашапталіся: «Аўдоля...
Адкуль яна? Ідзе з чужога поля».
— Да от да вас я, таечкі мае!
Спылілася! На Радаўніцу от.—
Яна рукой са лба уцерла пот.
А Сцепа ўжо Млінцова чарку лье:
— На, памяні, кума, маіх сірот!
І поўныя прачулае спагады,
Паслаўшы ўсцяж магілаў абрусы,
Сягоння, бы ў калішнія часы,
Сядзелі людзі.
— Бачыце, улады
Пра могілкі клапоцяцца. Як след
Дагледжаны, прыбраныя магілы.
А то ірвацца з жыл няма ўжэ сілы!
Хвала яму — упраўны сельсавет!

Яе ніхто з дакорам не пытаў,
Чаму дасюль, як з'ехала, ні разу
У дзень такі тут не была. Адразу
Суціхнуў боль, з грудзей сышоў, растаў.
Ў суладдзі душ душа яе вірыла,
З хаўрусніцамі ўцешна гаварыла,
Слязінка нагарнулася, цякла.
— У горад, кажуць, к сыну падалася.
— Да ўжэ ў цяпле, выгодзе нажылася.
— А нас, Аўдоля, жытка дапякла!
Харомы нашы, глянеш, любата,
Ды ў сценах звонам звоніць пустата.
З таго ўжо дня, як мы адсюль уцеклі,
Гады гібею, як у чорным пекле,
Да ўсё чакаю аднае пары,
Калі сюды от забярэ стары! —
Трубіла ў вуха Сцепа з гучным болем.
Глядзіць удалеч сумная Аўдоля
І бачыць што? Свайму не верыць воку:
Яе Андрэй... так блізка... у паўкроку...
Шыбуе да паседак напрасты:
— Я так і ведаў, во дзе, матка, ты!
— Прымчаўся бо! А я каторы год
Прасіла: «Едзьма!» — Ды маўчанкі лёд.

Андрэй прыстаў наводдаль. Ён задоўга
Паміж магіл чакальна хмура соўгаў,
А матка да машыны ўсё не йшла.
Ужо аўтобус полем да сяла,
Забраўшы хмельна ўгрэтых мужыкоў,
Трусіўся, ехаў. Плач з усіх бакоў
Над могілкамі нёсся — развітанні
З надрывам даўкім тых, хто у чаканні
Сустрэчы гэтай год трымаўся, жыў.
Андрэй пабліз самотліва кружыў.
Блішчэла «Волга» шклінай лабавой,
Ды ў нейкі момант знік гняткі настрой,
Які заняўся ў хаце напачатку,
Калі адкрыў, куды пагнала матку.
Было, дазнаўся, з'ездзіўшы,— ніколі
Яна й нагі не паказала ў Полі,
Адно ў запісцы зманліва сказала
Ды пазваніла з Гомеля, з вакзала,
Пасля яшчэ разы са тры маніла.
Адкуль яна з пустэльні тут званіла?!

Сасмяг, калі знайшоў жытло яе.
Глядзеў праз слёзы. Вока пазнае
Сляды былой маленскае пары.
У куце ложак. І услон стары.
Трохногі стол, ў раймагу ім прыдбаны.
Сядзеў за ім, віхрасты і ціхмяны.
Знянацку сэрца жарка запякло.
Ў акно зірнуў — і не пазнаў жытло:
Сцінала двор былы трава мярцвяча.
Здалося раптам: блізка ценька плача
Яго дзіцячы звонкі галасок.
Бы ён, хлапчук, сцяжынкаю ў лясок
Бяжыць і сёння на сугрэве дзён.
Сябе здаля, малога, чуе ён.

Вунь матка з поля вязанку нясе.
Браты і сёстры на двары. Усе!
Уява прагавітая сабрала
Слухмяна іх на затравелы двор.
Калі ўскружыў жыцця былы віхор,
Ў грудзях раптоўна жару хваля спала.
— Цяпер адны з табою, сыне, тут! —

Прагнала одум матка. След пакут
На твары лёг яе непрыхавана.
Шчэ больш старая ўсохла. Нечакана
Бы самі рукі абнялі за плечы,
Парыў цяпла шчымотны, чалавечы,
Далёкі ўжо ад назірку людзей,
Гарнуў былінку-маці да грудзей.
Яна, на іх зайшоўшыся у плачы,
Пачула сэрца ўзрушны стук гарачы,
Пазнала ўзрыдна — матцы не чужы.
Ішлі ўдваіх. Магільныя крыжы
Іх абступалі горкую пуціну.
Шаптала ўслых яна — і небу й сыну:
— От, Хведар, глянь, з сынком к табе іду.
Запознена, у Бога на віду.

* * *

Ля маткі ў несыходнай цішыні
Андрэй цяпер клапотна бавіў дні.
Званіў ён з запаведніка Наташы,
Казаў адно: «У норме справы нашы!»
Ды зноў шторанак на машыне ён
Імчаў па справах пільных у раён.
Галоўнаю была з яго патрэб
Дабіцца, каб вазілі матцы хлеб.
Абіў парогі ў Хойніках не раз,
Пакуль дамогся, каб паставіць газ.
Дамовіўся, настойлівы заўжды,
Прабіць калонку, каб здабыць вады.
Ківаў хто прахалодна, хто гарача.
Усім казаў:
— Мая тут будзе дача!

Усцешна старшыня райвыканкома
Вучонага заўжды прымаў. Вядома —
Ухвальны факт, спадзеўка напярод:
У зону хутка рынецца народ!
Калі вучоны едзе чалавек —
Ёй не гібець у травах дзікіх век!
Спадзеўна цешыў сэрца роздум гэты,
Калі ўяўляў — азвоняцца газеты,
Напішуць і суладна, і прыстойна,
Як дыхаюць тут цэзіем спакойна.

Ну а яму для лёсу паляпшэння,
Магчыма, блісне хутка й павышэнне.

Аўдоля ўсяк таму пратэставала:
— Жыць буду так, як жытку звекавала!
Мне от ужэ, сынок, такой бяды,
Каб хлеба луста ды глыток вады,
А еты газ... і ў печы пратаплю,
Салоніка з прыгаркаю люблю.
Зародзіць хутка бульба маладая,
Гародчык мой люботна выглядае,
Ўсё ёсцека — цыбулька і часнок.
Не рупся етак клопатна, сынок!
Тут не жыццё дваім нам — Божы рай,
Лепш распраніся, ляж — пазагарай!
«Была б жывою кожная хаціна,
Кеб каждай во да етакага сына!»

Пад вечар нейк, аж каркнулі вароны,
Спыніўся «ЗІЛ». Андрэеў друг — вучоны,
Дырэктар запаведніка быў рады
Параду даць, як трэба дбаць пра грады,
Каб цэзій не падцяў раслін карэнне,
Ляжаў глыбока. Аграпаўтарэнне
Назаўтра сын унікліва праводзіў,
Аж палец сам матыкаю пашкодзіў.
Калі ж на грады скіравала вока,
Жахнулася: баразнамі глыбока
Кусточкі бульбы скроены, пабіты.
— Вучыся, матка!
Буркнула:
— Ды йдзі ты!

* * *

— Што ж, летуй лета.— Спешліва Андрэй,
Хапіўшы сумку, рушыў да дзвярэй.
Андрэй паехаў. Ледзьве ўгаварыла.
Нявестка вушы сыну прадурыла.
Быў як не свой заўжды пасля званка,
Не браў і скваркі, торкаўся ў газету.
«О ўжэ паслала неба шэльму ету,
Вяроўкі віць гатова з мужыка!»
Ды ў прыхватках дужэючых святла

Злосць на нявестку чутая сышла.
Знаходзіла, што ўсё-ткі сыну пара,
А нервы — то вучонасці ахвяра.
Прыбраўшы міску з лыжкай са стала,
Спяшалася дагледзець агарод:
Жукоў збірала, нішчыла асот.
Адно калі наўкруг, было, глядзела,
Уся душой і целам халадзела.
Цяпер, між лета, ў яблыках сады —
Антосеў сад завалены ападам.
«От Галя колісь млела... Злыдням-гадам
Давала ўзбучку гнеўна заўсягды.
А сёння сцежкі пазаплёў быльнёг —
Чарнобыль сад ад трускі усцярог!
Унь як угнуўся жытнік — аж чырвоны!» —
Аўдоля роніць горка ўздых стамлёны
І знае: тое чуе толькі Бог.

Ля хаты Вары вымахала груша.
Там, у выгнанні, згасла ўжо Варуша,
А груша от — аж глянуць любата.
Прасіць шчапіць хадзіла к Варывону:
«Унукам будзе!» Ні галасу-звону,
Адна над хатай стала глухата.
Усцяж мяжы палын парос сівенны.
Наводшыбе жытло. Васіль Раменны
Шыкоўна там калісь раскашаваў,
Сушыў сянцо ў дзялянках. Яго Маня
У лясніцтва бегла вулкаю шторання.
Засілілася — Маню пахаваў.
Ды недалёка смерць аднесла джала.
Дачка дзіця задушаным раджала,
Крывёй сплыла — памерлаю знайшлі.
Мо то й бяду наклікала-назвала,
Суцэльна смерць бытуе на зямлі.

Раз-пораз разгінаецца Аўдоля.
Маркотнае, пустэльнае ваколле.
Куды ні гляне — памяці прамень.
Глядзяцца твары, нібыта з іконы.
Залоціцца сухотным сонцам зоны
Над вечнай працаўніцай летні дзень.

Ужо з-за сценкі бору макіскога
Зірнула сонца збарвянела строга.

Аўдоля ледзьве ўздумала спыніцца:
«Спачыць пара бо, натрудзіла спіну.
Табе гарод калючы будзе сніцца,
Калі заляжаш спаць і ў дамавіну!»

Вячорак нетаропка, палахліва
Насоўваўся агусласцю на хаты,
Як той хлапчук, баяўся спекчы пяты,
Бо ўсцяж раскошна дыбіцца крапіва,
Зіхоту зорак сыпаў драбнаватых.

Аўдоля маладзела бліз калонкі.
Струмень вады, лагодлівы і звонкі,
Сек па руцэ — управіста качала,
Як сын вучыў, жалезную дзяржанку.
Вядро з вадой паставіла на ганку,
Твар мыючы, сваволячы, крычала.
Хто мог пачуць дуросную ляканку?!
Адзіна рэха хрыпла ёй гукала.

У хаце лямпа пырснула святлом.
Усклаўшы рукі чынна над сталом,
Аўдоля ледзь дрыжачымі губамі
Шаптала словы. Тыя быццам самі
Плылі у морак звычліваю плынню,
Душу наскрозь азорвалі святлынню:
«Дай вечнай моцы, Госпад, чалавеку.
Цяжар жыцця, даровавага небам,
Яму ў вятрах скразных трываць адвеку
І гараваць штодня над потным хлебам.
Пасоб сляпому, спаталі калеку.
За вас, суседкі-страдніцы, малюся —
Алена, Вара, Прося і Маруся.
Вам вечны сон ды сшэрхлыя крыжы.
У царстве небным супакойце душы,
Хай згукаў гора больш не чуюць вушы
На той, сыходнай з вечнасцю, мяжы.
І ты, зямля, слязінаю паліта,
Вярні цяпло, радзі жывое жыта,
Як некалі радзіла з году ў год.
Няхай растопяць цэзій нашы слёзы.
Ратуй, Гасподзь, сляпцоў няцямных лёсы,
Як ратаваў не раз паміж нягод.
Зямное ліха, незваротна згінь.
Амінь».

# ЗАМКНЁНЫ ДОМ

*Вершаваная аповесць*

* * *

Світанак барвай гус. Бляшаны дах
Бліскоціўся, і горад сонна-лены
Квітаўся з цьмянай шаратою. Сцены
Цяплелі фарбай. Знекуль спудны птах
Пранёсся, крыллем пругка секучы,
Над купкай дрэў, як беглы цень начы.

Жаўтком міргаў нядрэмны святлафор
На скрыжаванні дзвюх бліжэйшых вулак.
Рухавы бомж, пакінуўшы прытулак,
Бутэлькі ў скверы падбіраў. Шафёр
Імкліва гнаў прыватнае таксі,
Бы спакушаў: кішэняю трусі!

І нумара гасцінічнага выш
Рабілася пляцоўкай аглядальнай
Пары жыцця, даўно забытай, дальняй.
Здавалася яму: не тут стаіш,
А дзесьці там, між дахаў гушчыні,
Жывеш і ты ў падзённай мітусні.

Акім Пятровіч прад сабой быў шчыры,
Жыцця перабіраючы гады,
Пра гэты край душой пачуў тады,
За даллю вёрст асеўшы у Сібіры,
Калі на хвалях затрубілі спрэс
Вясной той: узарвалася ЧАЭС!

І памяць, быццам іскра ад кастра,
З кутка маленства ў сэрца прыляцела.
І думаў, як адно не звар'яцела:
Пад смерчам тым жыве яго сястра!
І ранкам, адмахнуўшыся ад спраў,
Усе яе паштоўкі перабраў.

Сястра пісала потым: іх сяло
Патрапіла у зону адчужэння.
«Спусцілі нас павыселіць рашэнне!»

Душу такой пякоткай апякло,
Што, кінуўшы наспех сябрыны стол,
Смактаў праз ноч гаючы валідол.

Падацца, думаў, у астатні раз
Зірнуць на хаты, родныя магілы.
Над ровам смерці помнічак панылы
Абняць, ды толькі з бегам дзён пагас
Парыў узгарачэлае душы,
Па скуры больш не беглі мурашы.

Сястра пісала: «У сяле чужым
Жыву, як пералётная варона!
А Бабчын наш сягоння — смерці зона.
Прыедзь калі, даведайся, Акім.
Ўжэ не багата засталося мне.
Ад слёз мо й павалюся ў баразне».

Ён і тады надумаўся, было,
Сабрацца ў шлях жаданы ды няблізкі.
Ужо насіў з гасцінцамі «валіскі»,
Ды ўласным горам скрутна апякло —
Бы сам на дне магілы пабываў:
Афганца-ўнука летам пахаваў!

А цераз год, не болей, тэлеграма
Яму данесла вестчыну бяды
(Сястра нібы прадбачыла тады):
«Паведамляю вам, памерла мама»,—
Дачка, з якой выгнанніца жыла,
Яму журбіны вестку падала.

І пакрысе забыўся родны кут.
Схавалася жаданая дарога
За думкамі глухімі: там нікога.
Ды вось знячэўку ў Гомель, на «Салют»,
Паслаць яго рашыў сяброў хаўрус:
«Пусть едет к белорусам белорус!»

«Я, хлопцы, ўжо гніляк-пенсіянер!» —
Памкнуўся ўздыхам-крэктам адмахнуцца.
Нялёгка будзе ў памяць акунуцца,—
Пра тое цвёрда ведаў ён цяпер.

